



**АДНА З ПРАЯЎ НАШАГА ВОСТРАДЭФІЦЫТНАГА ЧАСУ — АДСУТНАСЦЬ НА ПОЛКАХ МАГАЗІНАЎ ТЭЛЕВІЗАРАЎ. І МЫ РАЗУМЕЕМ, ШТО АДРАС НАШАГА РЭПАРТАЖУ МОЖА ВЫКЛІКАЦЬ У КАГОСЬЦІ РАЗДРАЖНЕННЕ. ТЫМ НЕ МЕНШ, СПЯШАЕМСЯ ПАЦВЕРДЗІЦЬ: ВЫТВОРЧАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ГАРЫЗОНТ» ПРАЦУЕ... ЯК! ВОСЬ АБ ГЭТЫМ НАПЯРЭДАДНІ ПЕРШАМАЯ ГУТАРКА З ГЕНЕРАЛЬНЫМ ДЫРЭКТАРАМ ВЫТВОРЧАГА АБ'ЯДНАННЯ А. А. САНЧУКОЎСКІМ.**

# КОСМАС, Я — «ГАРЫЗОНТ»



— Што новага, Аляксандр Аляксандравіч!

— Перш за ўсё тое, што мы, дзякуй Богу, здаецца, пачалі вяртацца да... старога,— з іранічнай усмешкай адказаў Санчукоўскі.

— !!!

— Палітычныя завірухі прывялі да таго, што парваліся многія гаспадарчыя сувязі. Аб'яднанне трэсла, як у ліхаманцы. І вось цяпер з'явілася надзея, што сувязі гэтыя будуць узноўлены і становішча стабілізуецца.

**— Якія падставы для аптымізму можа даць такая стабілізацыя нам, пакупнікам!**

— Многія змаглі ўжо ацаніць, што называецца, уласнымі вачыма нашу новую прадукцыю. І хоць мы не прымяркоўвалі да даты, тое, што з красавіка аб'яднанне пачало выпускаць тэлевізары толькі чацвёртага і пятага пакалення — а гэта вышэйшы айчынны ўзровень — можна лічыць нашым падарункам Першамаю.

З навінак магу выдзеліць тэлевізар з экранам па дыяганалі 42 сантыметры. Гэта кампактны, вагой да дваццаці кілаграмаў, з сучасным дызайнам прыёмнік.

**— Сярод простых тэлегледачоў, тых, хто аддае перавагу «Гарызонту», можна пачуць размовы пра так званыя карэйскія кінескопы...**

— А яны і сапраўды паўднёвакарэйскія. Больш таго, усе тэлевізары, якія мы выпускаем з красавіка, аснашчаны імпартнымі кінескопамі. Індыя, Японія, Паўднёвая Карэя... Наладжваем сувязі з галандскім «Філіпсам»...

**— Аляксандр Аляксандравіч, а калі зазірнуць крыху наперад...**

— Будзем выпускаць новыя мадыфікацыі тэлепрыёмнікаў — скажам, з экранам па дыяганалі 78 сантыметраў. Акрамя таго рыхтуем да выпуску і маем ужо ўзоры каляровых камбайнаў — тэлевізары з відэамагнітафонамі. У наступным годзе пачнём выпускаць сістэмы кабельнага тэлебачання. А яшчэ праз год — сістэмы спутнікавага тэлебачання. У перспектыве мы будзем забяспечваць жыллёвыя мікрараёны цэлым комплексам абсталявання, які будзе забяспечваць, акрамя звычайнага, і кабельнае і спутнікавае тэлебачанне.

**— І хочацца задаць яшчэ адно пытанне... Цэны!...**

— Пытанне балючае для ўсіх. На жаль, існуе думка, што наш калектыў нажываецца на цэнах. Паверце, нічога падобнага. Мы залежым не толькі ад пастаўшчыкоў, але і ад усёй дзяржаўнай эканамічнай палітыкі, якая часам непрадказальная. І калі вы спытаеце ў мяне, колькі каштуе ці будзе заўтра каштаваць той або іншы тэлевізар, я лепш, як кажуць, геніяльна прамаўчу, бо сам не ведаю...

**Вёў гутарку Анатоль ЯРАСЬ.**
**Фота Віктара ДРАЧОВА.**







ПАРЛАМЕНТ ДБАЕ ПРА БЕЛАРУСЬ?



# ЯГО ВЯЛІКАСЦЬ ЗАКОН

## СТАВІЦЬ НА МЭЦЕ СВАЕЙ ДЭПУТАЦКАЙ ДЗЕЙНАСЦІ СТАРШЫНЯ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР ПА ЗАКАНАДАЎСТВУ ДЗМІТРЫЙ БУЛАХАЎ

**Быў час, ён хадзіў з пісталетам. Парадкам нерваваўся. Са службовага і хатняга тэлефонаў у яго адрас градам сыпаліся пагрозы і знявагі. Хоць трубку не здымай. Тады Булахаў у Магілёве раскручваў першыя крымінальныя справы па рэкету.**

— Самае слабае месца ў рабоце следчага — сям'я. Жонка, дзеці безабаронныя,— успамінае Дзмітрый Пятровіч.

**Булахаў афіцыйны. Сухаваты. Малады (яму трохі за трыццаць). На выбарах у Вярхоўны Савет БССР павінен быў перамагчы ў сваёй акрузе дзевяць чалавек. Барацьба была ўпартай.**

— Другі раз не хацеў бы праходзіць скрозь такое сіта. Няпроста, што і казаць, дастаўся мне дэпутацкі мандат. Нерваў каштаваў...

**Не, што б ні пісалі пра цяперашні адрэзак гісторыі, нельга адмаўляць яго рэвалюцыйнасці. Інакш як разумець, што ўчарашні невядомы следчы ўпраўлення ўнутраных спраў Магілёўскага аблвыканкома за лічаныя тыдні ўзносіцца да вяршыні піраміды дзяржаўнай улады ў рэспубліцы. Хоць у парламент трапіла нямала і выпадковых, а то і проста пустых людзей, пры ўсім пры гэтым відавочны палітычны выйгрыш, што забяспечыла новая выбарчая сістэма. Таму што прыйшлі і людзі смелыя, таленавітыя, не абцяжараныя ідэалагічнымі догмамі.**

— Мяне, як і многіх іншых, абудзіла да палітычнай актыўнасці перабудова,— працягвае Дзмітрый Пятровіч.— Узніклі рэальныя ўмовы для дэмакратычных перамен у грамадстве, у прыватнасці, на Беларусі. З якой палітычнай сілай я іх звязваў? Не, толькі не з КПБ. Яе кіраўнікі дастаткова празрыста акрэслілі сваё нежаданне ісці на поўную ліквідацыю таталітарнага ладу. Надзею на дэмакратызацыю жыцця ў рэспубліцы я бачыў перш-наперш у дзейнасці БНФ. Не з усім, што прапаноўвалі «франтаўцы», праўда, пагаджаўся, аднак у цэлым прагрэсіўнасць памкненняў новай палітычнай сілы не выклікала сумненняў. На жаль, у апошні час яна мяне расчароўвае сваёй агрэсіўнасцю. Успомнім хаця б мінулагоднія падзеі, што адбыліся ў Мінску на кастрычніцкія святы ля помніка Леніну. Зноў запахла вандалізмам. Той, хто марыць на плячах натоўпу ўзысці на п'едэстал улады, па-мойму, дрэнна засвоіў урокі гісторыі.

**Дык хто ж ён, Булахаў?**

— Я не бальшавік,— катэгарычна, упэўнена заяўляе ён.— Не вітаю рэвалюцый. Бо для грамадства нармальнае толькі эвалюцыйнае развіццё. Паглядзіце, якіх поспехаў дасягнулі шведы, нарвежцы, датчане, фіны. І ўсё дзякуючы эвалюцыі, паступоваму развіццю. Гэта ў іх пабудаваны сацыялізм. Мы ж ішлі да свайго «камунізму» рыўкамі. Індустрыялізацыю — за тры гады. Калектывізацыю — за два. Гэты камунізм напачатку спланавалі праз дзесяць гадоў. Не атрымалася. На XXII з'ездзе КПСС прызначылі новую дату ўступлення ў светлую будучыню: праз 20 гадоў. І зноў апынуліся ў пралёце. На Захадзе працавалі, а мы планавалі.

— Краіна над безданню,— у ягоным голасе — трывога.— Скочваемся да анархіі. Законы прымаем, а выкананне пусцілі на самацёк. Але дэмакратыя, якая ўпадае ў анархію, немінуча прыходзіць да дыктатуры. Не, не пралетарыяту. Пралетарыятам прыкрываліся. Была дыктатура правадыроў. Вядома, у што яна вылілася. У тыранію. Крок улева — расстрэл, крок управа — таксама смерць.

**Па-мойму, ведаць гэта важна. Тым больш сёння, калі адсутнічае сацыяльна-эканаміч-**

ная стабільнасць у грамадстве. Аднак давайце даслухаем думку Булахава да канца:

— Правадыра могуць парадзіць або крайнія кансерватары, або крайнія радыкалы. І адны і другія маюць рэальную магчымасць. У кансерватараў — рычагі старой улады. Армія, міліцыя, КДБ. У радыкалаў — натоўп.

**У палітычным спектры погляды Булахава размяшчаюцца недзе ў цэнтры. Ва ўсякім разе, так лічыць грамадская думка. Ён — эрудыт і добры прамоўца. Ці не таму і левыя, і правыя не супраць залучыць яго да сябе. Ён упэўнены, што, толькі пажадай, умомант стаў бы кумірам натоўпу. З дапамогай хвосткіх лозунгаў і абвінавачванняў, знайсці якія не складае ніякіх праблем. Але натоўп, на яго думку, сродак разбурэння, а не стварэння. І таму ён, у адрозненне ад многіх левых, не прагне яго падтрымкі.**

**І ўсё ж цікава, як Булахаў ставіцца да ідэі арганізацыйнага афармлення ў Вярхоўным Савеце БССР блока цэнтрысцкіх сіл!**

— Кансалідацыя цэнтрысцкіх сіл, у тым ліку і ў нашым парламенце, вядома ж, можа мець толькі станоўчы вынік. Для больш плённай дзейнасці Вярхоўнага Савета. Урэшце, для грамадства. Бо толькі гэтыя сілы здольныя падтрымаць у ім раўнавагу, не дапусціць прыходу ні дыктатуры, ні анархіі.

Але тут вось якая праблема. У мяне ёсць пэўнае сумненне наконт магчымасці арганізацыйнага афармлення такога блока. Справа ў тым, што, на маю думку, цэнтрызм наўрад ці правільна звязваць з нейкімі канкрэтнымі людзьмі. Ён, як мне здаецца, хутчэй уяўляе сабой ідэйную плынь, якая нараджаецца ў выніку аб'яднання правых і левых сіл.

Я, напрыклад, па адных канкрэтных пытаннях трымаюся боку прадстаўнікоў парламенцкай апазіцыі, па другіх — сыходжуся з меркаваннямі членаў партыйнай групы, хаця і не з'яўляюся камуністам. Але пры гэтым як парламентарый галоўную сваю задачу бачу ў дасягненні кансенсуса, у выпрацоўцы кампрамісанага рашэння па тым ці іншым пытанні, што ў канчатковым выніку і з'яўляецца грунтам палітычнай стабільнасці.

**Булахаў за жывую творчасць мас, але ў межах права. Зноў і зноў звяртаецца ён да артыкулаў законаў, фіксуе вопытным вокам іх падводныя плыні.**

— Усе 70 гадоў мы жылі, не паважаючы права,— не губляе ніці размовы субяседнік.— Прынялі за гэты час 82 законы. Усяго толькі. Затое падзаконных актаў з'явілася сотні тысяч. Смешна і дзіка, але толькі чатыры працэнты прававых адносін у краіне рэгулююцца законамі. У нас усё вырашае начальнік. У асобе партыйнага ці савецкага работніка, дырэктара завода ці старшыні калгаса, кіраўніка трэста ці галоўурача бальніцы. Што тычыцца законаў, прынятых за апошні час, то яны не дзейнічаюць. Усё грамадства па-ранейшаму жыве па ўказцы тых жа начальнікаў.

**Чаму так! Адказ, па-мойму, такі трывіяльны, што і паўтараць лішні раз не хочацца. Ды, вядома ж, з-за адсутнасці механізма ўкаранення законаў у жыццё. Гэта найважнейшае пытанне бягучага моманту. Праўда, ніхто дакладна не ведае, як яно будзе вырашацца. Недахопу няма толькі ў варажбе. І ў Дзмітрыя Пятровіча ёсць, вядома, наконт гэтага ўласная думка. Аднак, пры ўсёй маёй павазе да яго як да заканадаўцы, я ўсё ж мяркую, што не Булахаву суджана іграць тут першую скрыпку. Агаваруся: цяпер. Бо час можа хутка змяніць палітычную і дзяржаўную вагу любога. І, вядома, у першую чаргу такой неардынарнай асобы, пра якую мы расказваем.**

— Цывілізаваных законаў у гісторыі краіны, даруйце, не было. Магчыма, за выключэннем Грамадзянскага кодэкса 1922 года, які выцягнулі з дарэвалюцыйных запаснікаў. Нам трэба цвёрда ацаніць сітуацыю, вызначыць для сябе галоўнае звяно. Наша камісія бачыць яго менавіта ў заканадаўстве, заснаваным на сусветнай юрыдычнай культуры і айчыннай практыцы.

**Размова заходзіць аб дзейнасці беларускага парламента, аб выніках трэцяй сесіі Вярхоўнага Савета БССР, аб рабоце над праектам новай Канстытуцыі рэспублікі.**

— Канстытуцыя БССР бачыцца мне высакакласным юрыдычным дакументам, які забяспечвае свабоднае развіццё грамадства і правы кожнага чалавека,— гаворыць Дзмітрый Пятровіч.— Хай ён будзе вельмі невялікі па аб'ёму, але яго ясныя і дакладныя ўстаноўкі павінны быць разлічаны не на 10—20 гадоў, а на стагоддзі. Трэба так сфармуляваць прынцыпы, каб ні ў кога нават думкі не ўзнікла перарабляць. Законы могуць мяняцца — але не Асноўны.

Думаю, галоўнае цяпер — зрабіць эканоміку дэцэнтралізаванай, шматукладнай, здольнай самарэгулявацца. А затым, безумоўна, адпрацаваць законы, увасабляючы ў іх ідэю падзелу ўлады, папярэдзіўшы магчымасць яе бязмежнай канцэнтрацыі. Спадзяёмся, што гэтыя прынцыпы нам удасца закласці ў заканапраекты, над якімі мы зараз працуем.

**Калі чытач памятае, на трэцяй сесіі вяліся гарачыя дэбаты аб палітычным лёсе Беларусі. Ісці ёй да поўнай дзяржаўнай незалежнасці ці заставацца ў складзе СССР!**

— Я галасаваў за другі варыянт. Па-першае, лічу, што палітычных дывідэндаў у магутнай дзяржаве куды больш, чым у слабасільнай. Па-другое, да гэтага заклікае сённяшняя рэчаіснасць, у прыватнасці, высокая эканамічная інтэграцыя розных рэгіёнаў краіны.

На сесіі абмяркоўваліся і так званыя чарнобыльскія законапраекты. Трэба адзначыць, што яны пакуль яшчэ далёкія ад юрыдычнай дасканаласці. Таму ўзнікала шмат спрэчак, дыскусій. Справа ў тым, што праблема Чарнобыля — вельмі складаная, навукова маладаследаваная і малаабгрунтаваная. Гэта адна з найбольш істотных прычын яе няпростага юрыдычнага афармлення. З другога боку, у чарнобыльскім пытанні, як, магчыма, ні ў якім іншым, трэба засцерагчыся ад няспелых законаў, бо на карту ставяцца выключныя каштоўнасці — чалавечыя жыцці.

Увогуле, хачу падкрэсліць, што наш парламент паступова перастае быць падпарадкаваным КАМУСЬЦІ. Ён пачынае, хаця і вельмі нясмела, баязліва, усведамляць сябе органам вышэйшай улады ў рэспубліцы. Праўда, яго сённяшняе палітычнае крэда — пакуль яшчэ, на жаль, кансерватызм. Многія дэпутаты, мяркуючы па выніках галасавання, дагэтуль вельмі насцярожана ставяцца да новага і нязвыклага. Аднак бачу я і тое, што частка калег усё ж вызваляецца ад стэрэатыпаў, пачынае ўсур'ёз задумвацца над складанай рэчаіснасцю.

**А зараз крыху раскажам пра Булахава-чалавека.**

**Зарабляе ён пры страшэннай загружанасці і вялізнай, без перабольшання, адказнасці шэсцьсот рублёў чыстымі. Гэта ў два разы вышэй таго, што атрымліваў ён да выбрання ў парламент. Калі працаваў следчым. А як з пабочнымі прыбыткамі!**

— У органах МУС я ні разу не скарыстаў службовага становішча. Чысты. Нікому нічым не абавязаны. Не ўзяў з чорнага хода ні ботаў, ні курткі. Няма ні дачы, ні машыны. Не трымаў у руках спецпайкоў.

**Такога сапраўды цяжка «ўкусіць», прыручыць. Хацелася б спадзявацца, што ён і надалей захавае імідж непадкупнай асобы. Тым больш, што для грамадскасці гэта мае немалое значэнне. «Лабіст» у парламенце, ды яшчэ на такой пасадзе,— нават у думках цяжка прадказаць вынікі, калі парушыцца гэты імідж...**

**А як Булахава «выпрабоўвае» слава! Ведаю ж, што некаторыя з магіляўчан «частуюць» свайго земляка не вельмі прыемнымі заўвагамі: «Любіць пакрасавацца ў тэлевізары, ва ўсе газеты лезе...».**

— Несправядліва. Палітыкі, дзяржаўныя мужы ніколі не павінны пазбягаць газет, радыё, тэлебачання. Гэта патрэбна не для славы, а для справы. Толькі ў такім выпадку народ хоць неяк можа ацаніць сваіх лідэраў. Памыляецца той, хто бачыць у гэтым толькі папулісцкія забаўкі. Што, не надакучылі ранейшыя кіраўнікі — «каты ў мяшку», якіх, акрамя прыбліжаных, мала хто і ў вочы бачыў. Да таго ж выхад на сродкі масавай інфармацыі — гэта зусім не лёгкая работа. Рызыкуеш праваліцца. Так можа здарыцца, што твае погляды і ідэі, мякка кажучы, нікуды не вартыя. Таму і з гэтага пункту гледжання не мне, напрыклад, асабіста, а людзям больш важна, каб я быў на вачах. Ці ж не так?

**Булахаў з простай рабочай сям'і. Эрудыцыя — з кніг. Чытанню аддаецца большая частка вольнага часу.**

— На жаль, толькі нядаўна прачытаў «Д'яблаў» Дастаеўскага,— наракае мой субяседнік.— Колькі аналогій з нашым часам! Прарочая кніга. Сапраўдны падручнік па псіхалогіі чалавека.

**Ну і ўрэшце колькі слоў пра сям'ю аднаго з прадстаўнікоў новай хвалі дзяржаўных дзеячаў Беларусі. Вось што гаворыць пра яе сам Булахаў:**

— У мяне цудоўная сям'я. Жонка, Наташа, залаты чалавек. Яна мая апора і падтрымка. Дзве дачкі. Калі яны мяне выбягаюць сустракаць, толькі зірну на іх, толькі ўбачу шчырыя ўсмешкі, нават калі я з нейкай прычыны злосны, узрушаны, адразу спакайнею. Любы стрэс праходзіць...

**Не хачу прыбягаць да штампа і казаць, што дзень у Булахава распісаны да хвіліны. Хаця, папраўдзе, так яно і ёсць. Сённяшняе яго жыццё з-за занятасці дастаткова аднастайнае. Пад'ём а сёмай раніцы, трыццаць хвілін бегу. Далей — работа. Паперы, пасяджэнні, дзелавыя сустрэчы. Пра кіно і тэатр, на жаль, толькі марыць. Што яшчэ! Ага, тры апошнія гады Булахаў не быў у адпачынку...**

**Віталь КАЗЛОЎСКІ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**



*Працягваем публікацыю асноўных міжнародных дакументаў па правах чалавека. Глядзіце часопіс «Беларусь» №№ 1—4 за гэты год.*

# МІЖНАРОДНАЯ КАНВЕНЦЫЯ АБ ЛІКВІДАЦЫІ ЎСІХ ФОРМ РАСАВАЙ ДЫСКРЫМІНАЦЫІ

**ПРЫНЯТА І АДКРЫТА ДЛЯ ПАДПІСАННЯ І РАТЫФІКАЦЫІ РЭЗАЛЮЦЫЯЙ 2106 А (XX) ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕІ АД 21 СНЕЖНЯ 1965 ГОДА**

УСТУПЛЕННЕ Ў СІЛУ: 4 студзеня 1969 года ў адпаведнасці з артыкулам 19.

**ДЗЯРЖАВЫ — удзельніцы гэтай Канвенцыі,**

**лічачы**, што Статут Арганізацыі Аб'яднаных Нацый заснаваны на прынцыпах годнасці і роўнасці, уласцівых кожнаму чалавеку, і што ўсе дзяржавы — члены Арганізацыі абавязаліся прымаць сумесныя і самастойныя дзеянні ў супрацоўніцтве з Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый для дасягнення адной з мэт Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, якая заключаецца ў заахвочванні і развіцці ўсеагульнай павагі і захавання правоў чалавека і асноўных свабод для ўсіх, без адрознення расы, полу, мовы альбо рэлігіі,

**лічачы**, што Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека абвяшчае, што ўсе людзі нараджаюцца вольнымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах і што кожны чалавек павінен валодаць усімі правамі і свабодамі, абвешчанымі ў ёй, без якога б там ні было адрознення, у прыватнасці без адрознення па адзнацы расы, колеру скуры або нацыянальнага паходжання,

**лічачы**, што ўсе людзі роўныя перад законам і маюць права на роўную абарону закона ад усялякай дыскрымінацыі і ад усялякага падбухторвання да дыскрымінацыі,

**лічачы**, што Арганізацыя Аб'яднаных Нацый асудзіла каланіялізм і любую звязаную з ім практыку сегрэгацыі і дыскрымінацыі, дзе б і ў якой бы форме яны ні выяўляліся, і што Дэкларацыя аб аддаванні незалежнасці каланіяльным краінам і народам ад 14 снежня 1960 года [рэзалюцыя 1514 (XV) Генеральнай Асамблеі] пацвердзіла і ўрачыста абвясціла неабходнасць неадкладна і безагаворачна пакласці ўсяму гэтаму канец,

**лічачы**, што Дэкларацыя Арганізацыі Аб'яднаных Нацый аб ліквідацыі ўсіх форм расавай дыскрымінацыі ад 20 лістапада 1963 года [рэзалюцыя 1904 (XVIII) Генеральнай Асамблеі] ўрачыста пацвярджае неабходнасць хутчэйшай ліквідацыі расавай дыскрымінацыі ва ўсім свеце, ва ўсіх яе формах і праявах, і забеспячэння разумення і павагі годнасці чалавечай асобы,

**будучы перакананы ў тым**, што ўсялякая тэорыя перавагі, заснаванай на расавым адрозненні, у навуковых адносінах памылковая, у маральных — заганная, а ў сацыяльных — несправядлівая і небяспечная і што не можа быць апраўдання для расавай дыскрымінацыі дзе б там ні было: ні ў тэорыі, ні на практыцы,

**пацвярджаючы**, што дыскрымінацыя людзей па адзнацы расы, колеру скуры альбо этнічнага паходжання з'яўляецца перашкодай да дружалюбных і мірных адносін паміж нацыямі і можа прывесці да парушэння міру і бяспекі сярод народаў, а таксама гарманічнага суіснавання асоб нават унутры адной і той жа дзяржавы,

**будучы перакананы ў тым**, што існаванне расавых бар'ераў пярэчыць ідэалам любога чалавечага грамадства,

**занепакоеныя** праявамі расавай дыскрымінацыі, якія ўсё яшчэ назіраюцца ў некаторых раёнах свету, а таксама дзяржаўнай палітыкай, заснаванай на прынцыпе расавай перавагі альбо расавай нянавісці, як, напрыклад, палітыкай апартэіду, сегрэгацыі або раздзялення,

**поўныя рашучасці** прыняць усе неабходныя меры для хутчэйшай ліквідацыі расавай дыскрымінацыі ва ўсіх яе формах і праявах і папярэджваць і выкараняць расісцкія тэорыі і практыку іх ажыццяўлення з мэтай садзейнічання ўзаемаразуменню паміж расамі і стварэння міжнароднай супольнасці, свабоднай ад усіх форм расавай сегрэгацыі і расавай дыскрымінацыі,

**беручы пад увагу** Канвенцыю аб дыскрымінацыі ў галіне найму і працы, зацверджаную Міжнароднай арганізацыяй працы ў 1958 годзе, і Канвенцыю аб прадухіленні дыскрымінацыі ў галіне адукацыі, зацверджаную Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры ў 1960 годзе,

**жадаючы** ажыццявіць прынцыпы, выкладзеныя ў Дэклара-

цыі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый аб ліквідацыі ўсіх форм расавай дыскрымінацыі, і забяспечыць для дасягнення гэтай мэты хутчэйшае правядзенне практычных мерапрыемстваў,

**пагадзіліся** аб ніжэйпададзеным:

## ЧАСТКА I

### *Артыкул 1*

1. У гэтай Канвенцыі выраз «расавая дыскрымінацыя» абазначае любое адрозненне, выключэнне, абмежаванне альбо перавагу, заснаваныя на адзнаках расы, колеру скуры, родавага, нацыянальнага або этнічнага паходжання, якія маюць мэтаю або следствам знішчэнне ці прымяншэнне прызнання, выкарыстання або ажыццяўлення на роўных пачатках правоў чалавека і асноўных свабод у палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай, культурнай ці любых іншых галінах грамадскага жыцця.

2. Гэтая Канвенцыя не прымяняецца да адрозненняў, выключэнняў, абмежаванняў ці пераваг, якія Дзяржавы — удзельніцы гэтай Канвенцыі праводзяць або робяць паміж грамадзянамі і неграмадзянамі.

3. Нішто ў гэтай Канвенцыі не можа быць вытлумачана ў якасці ўплыву ў нейкай меры на палажэнні заканадаўства Дзяржаў-удзельніц, якія тычацца нацыянальнай прыналежнасці, грамадзянства або натуралізацыі, пры ўмове, што ў такіх пастановах не праводзіцца дыскрымінацыі ў адносінах якой-небудзь пэўнай нацыянальнасці.

4. Прыняцце спецыяльных мер з выключнай мэтай забеспячэння належнага прагрэсу некаторых расавых альбо этнічных груп ці асобных грамадзян, якія маюць патрэбу ў абароне, якая можа аказацца неабходнай для таго, каб забяспечыць такім групам або асобам роўнае выкарыстанне і ажыццяўленне правоў чалавека і асноўных свабод, не разглядаецца як расавая дыскрымінацыя пры ўмове, аднак, што такія меры не маюць сваім следствам захаванне спецыяльных правоў для розных расавых груп і што яны не будуць пакінуты ў сіле пры дасягненні тых мэт, дзеля якіх яны былі ўведзены.

### *Артыкул 2*

1. Дзяржавы-ўдзельніцы асуджаюць расавую дыскрымінацыю і абавязваюцца неадкладна ўсімі магчымымі сродкамі праводзіць палітыку ліквідацыі ўсіх форм расавай дыскрымінацыі і садзейнічаць узаемаразуменню паміж усімі расамі, і з гэтай мэтаю:

a) кожная Дзяржава-ўдзельніца абавязваецца не здзяйсняць у дачыненні да асоб, груп альбо ўстаноў якіх-небудзь актаў альбо дзеянняў, звязаных з расавай дыскрымінацыяй, і гарантаваць, што ўсе дзяржаўныя органы і дзяржаўныя ўстановы, як нацыянальныя, так і мясцовыя, будуць дзейнічаць у адпаведнасці з гэтым абавязацельствам;

b) кожная Дзяржава-ўдзельніца абавязваецца не заахвочваць, не абараняць і не падтрымліваць расавую дыскрымінацыю, якая ажыццяўляецца якімі б там ні было асобамі або арганізацыямі;

c) кожная Дзяржава-ўдзельніца павінна прыняць эфектыўныя меры для перагляду палітыкі ўрада ў нацыянальным і мясцовым маштабе, а таксама для выпраўлення, адмены або анулявання любых законаў і пастаноў, якія вядуць да ўзнікнення ці ўвекавечвання расавай дыскрымінацыі ўсюды, дзе яна існуе;

d) кожная Дзяржава-ўдзельніца павінна, выкарыстоўваючы ўсе належныя сродкі, у тым ліку і заканадаўчыя меры, у залежнасці ад абставін, забараніць расавую дыскрымінацыю, якая праводзіцца любымі асобамі, групамі ці арганізацыямі, і пакласці ёй канец;

e) кожная Дзяржава-ўдзельніца абавязваецца заахвочваць, у належных выпадках, шматрасавыя арганізацыі і рухі, якія яднаюць, роўна як і іншыя мерапрыемствы, скіраваныя на знішчэнне расавых бар'ераў, і не падтрымліваць тыя з іх, якія садзейнічаюць паглыбленню расавага раз'яднання.

2. Дзяржавы-ўдзельніцы павінны прымаць, калі абставіны гэтага патрабуюць, асаблівыя і канкрэтныя меры ў сацыяльнай, эканамічнай, культурнай і іншых галінах з мэтай забеспячэння належнага развіцця і абароны некаторых расавых груп ці асоб, якія да іх належаць, каб гарантаваць ім поўнае і роўнае выкарыстанне правоў чалавека і асноўных свабод. Такія меры ні ў якім выпадку не павінны ў выніку прывесці да захавання няроўных ці асаблівых правоў для розных расавых груп пры дасягненні тых мэт, дзеля якіх яны былі ўведзены.

### *Артыкул 3*

Дзяржавы-ўдзельніцы асабліва асуджаюць расавую сегрэгацыю і апартэід і абавязваюцца папярэджваць, забараняць і выкараняць усялякую практыку такога характару на тэрыторыях, што знаходзяцца пад іх юрысдыкцыяй.

### *Артыкул 4*

Дзяржавы-ўдзельніцы асуджаюць усялякую прапаганду і ўсе арганізацыі, заснаваныя на ідэях ці тэорыях перавагі адной расы або групы асоб пэўнага колеру скуры ці этнічнага паходжання альбо якія спрабуюць апраўдаць ці заахвоціць расавую нянавісць і дыскрымінацыю ў якой бы там ні было форме, і абавязваюцца прыняць неадкладныя і пазітыўныя меры, накіраваныя на выкараненне ўсялякага падбухторвання да такой дыскрымінацыі або актаў дыскрымінацыі, і з гэтай мэтай яны ў адпаведнасці з прынцыпамі, якія ўтрымліваюцца ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, і правамі, дакладна выкладзенымі ў артыкуле 5 гэтай Канвенцыі, паміж іншым:

a) аб'яўляюць каральным адпаведна закону злачынствам усялякае распаўсюджванне ідэй, заснаваных на расавай перавазе альбо нянавісці, усялякае падбухторванне да расавай дыскрымінацыі, а таксама ўсе акты насілля або падбухторванне да такіх актаў, скіраваных супроць любой расы ці групы асоб іншага колеру скуры або этнічнага паходжання, а таксама аказанне любой дапамогі для правядзення расісцкай дзейнасці, уключаючы яе фінансаванне;

b) аб'яўляюць супрацьзаконнымі і забараняюць арганізацыі, а таксама арганізаваную і ўсякую іншую прапагандысцкую дзейнасць, якія заахвочваюць расавую дыскрымінацыю і падбухторваюць да яе, і прызнаюць удзел у такіх арганізацыях ці ў такой дзейнасці злачынствам, якое караецца законам;

c) не дазваляюць нацыянальным ці мясцовым органам дзяржаўнай улады або дзяржаўным установам заахвочваць расавую дыскрымінацыю альбо падбухторваць да яе.

### *Артыкул 5*

У адпаведнасці з асноўнымі абавязацельствамі, выкладзенымі ў артыкуле 2 гэтай Канвенцыі, Дзяржавы-ўдзельніцы абавязваюцца забараніць і ліквідаваць расавую дыскрымінацыю ва ўсіх яе формах і забяспечыць раўнапраўе кожнага чалавека перад законам, без адрознення расы, колеру скуры, нацыянальнага альбо этнічнага паходжання, асабліва ў адносінах ажыццяўлення наступных правоў:

a) права на роўнасць перад судом і ўсімі іншымі органамі, якія ажыццяўляюць правасуддзе;

b) права на асабістую бяспеку і абарону з боку дзяржавы ад насілля ці цялесных пашкоджанняў, якія ўчыняюцца як урадавымі службовымі асобамі, так і якімі б там ні было асобнымі грамадзянамі, групамі альбо ўстановамі;

c) палітычных правоў, у прыватнасці права ўдзельнічаць у выбарах — галасаваць і выстаўляць сваю кандыдатуру — на аснове ўсеагульнага і роўнага выбарчага права, права прымаць удзел у кіраванні краінай, роўна як і ў кіраўніцтве дзяржаўнымі справамі на любым узроўні, а таксама права роўнага доступу да дзяржаўнай службы;

d) іншых грамадзянскіх правоў, у прыватнасці:

i) права на свабоду перамяшчэння і пражывання ў межах дзяржавы;
ii) права пакідаць любую краіну, уключаючы сваю ўласную, і вяртацца ў сваю краіну;
iii) права на грамадзянства;
iv) права на ўзяцце шлюбу і на выбар мужа ці жонкі;
v) права на валоданне маёмасцю, як аднаасобна, так і сумесна з іншымі;
vi) права на спадчыну;
vii) права на свабоду думкі, сумлення і рэлігіі;
viii) права на свабоду перакананняў і на свабоднае выяўленне іх;
ix) права на свабоду мірных сходаў і асацыяцый;

e) правоў у эканамічнай, сацыяльнай і культурнай галінах, у прыватнасці:

i) права на працу, свабодны выбар работы, справядлівыя і спрыяльныя ўмовы працы, абарону ад беспрацоўя, роўную плату за роўную працу, справядлівае і здавальняючае ўзнагароджанне;
ii) права ствараць прафесійныя саюзы і ўступаць у іх;
iii) права на жыллё;
iv) права на ахову здароўя, медыцынскую дапамогу, сацыяльнае забеспячэнне і сацыяльнае абслугоўванне;
v) права на адукацыю і прафесійную падрыхтоўку;
vi) права на роўны ўдзел у культурным жыцці;
vii) права на доступ да любога месца ці любога віду абслугоўвання, прызначанага для грамадскага карыстання, як, да прыкладу, транспарт, гасцініцы, рэстараны, кафэ, тэатры і паркі.

### *Артыкул 6*

Дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць кожнаму чалавеку, на якога распаўсюджваецца іх юрысдыкцыя, эфектыўную абарону і сродкі абароны праз кампетэнтныя нацыянальныя суды і іншыя дзяржаўныя інстытуты ў выпадку любых актаў расавай дыскрымінацыі, якія

робяць замах, у парушэнне гэтай Канвенцыі, на яго правы чалавека і асноўныя свабоды, а таксама права падаваць у гэтыя суды іск аб справядлівым і адэкватным пакрыцці ці задавальненні за любы ўрон, панесены ў выніку такой дыскрымінацыі.

### Артыкул 7

Дзяржавы - ўдзельніцы абавязваюцца прыняць неадкладныя і эфектыўныя меры, у прыватнасці ў галінах выкладання, выхавання, культуры і інфармацыі, маючы на мэце барацьбу з прымхамі, якія вядуць да расавай дыскрымінацыі, заахвочванне ўзаемаразумення, цярплівасці і дружбы паміж нацыямі і расавымі альбо этнічнымі групамі, а таксама папулярызацыю мэт і прынцыпаў Статута Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, Дэкларацыі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый аб ліквідацыі ўсіх форм расавай дыскрымінацыі і гэтай Канвенцыі.

## ЧАСТКА II

### Артыкул 8

1. Павінен быць заснаваны Камітэт па ліквідацыі расавай дыскрымінацыі (у далейшым ён будзе называцца «Камітэт»), які будзе складацца з васемнаццаці экспертаў, якія валодаюць высокімі маральнымі якасцямі і прызнанай непрадузятасцю, абраных Дзяржавамі-ўдзельніцамі з ліку сваіх грамадзян, якія павінны выконваць свае абавязкі ў асабістай якасці, прычым надаецца ўвага справядліваму геаграфічнаму размеркаванню і прадстаўніцтву розных форм цывілізацыі, а таксама галоўных прававых сістэм.

2. Члены Камітэта выбіраюцца тайным галасаваннем з ліку ўнесеных у спіс асоб, вылучаных Дзяржавамі-ўдзельніцамі. Кожная Дзяржава-ўдзельніца можа вылучыць адну асобу з ліку сваіх грамадзян.

3. Першапачатковыя выбары праводзяцца праз шэсць месяцаў пасля ўступлення ў сілу гэтай Канвенцыі. Кожны раз, па крайняй меры за тры месяцы да даты выбараў, Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый звяртаецца з пісьмом да Дзяржаў-удзельніц, запрашаючы іх прапанаваць імёны вылучаных імі асоб на працягу двух месяцаў. Генеральны сакратар рыхтуе спіс, у які ў алфавітным парадку ўнесены ўсе вылучаныя такім чынам асобы, з указаннем Дзяржаўудзельніц, якія вылучылі іх, і прапануе гэты спіс Дзяржавам — удзельніцам Канвенцыі.

4. Выбары членаў Камітэта праводзяцца на пасяджэнні Дзяржаў — удзельніц Канвенцыі, якое склікаецца Генеральным сакратаром у Цэнтральных установах Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. На гэтым пасяджэнні, на якім дзве трэці Дзяржаў-удзельніц складаюць кворум, выбранымі ў Камітэт членамі з'яўляюцца тыя кандыдаты, якія атрымалі найбольшую колькасць галасоў і абсалютную большасць галасоў прысутных і тых, хто ўдзельнічаў у галасаванні, прадстаўнікоў Дзяржаў — удзельніц Канвенцыі.

5. а) Члены Камітэта выбіраюцца на чатыры гады. Аднак тэрмін паўнамоцтваў дзевяці членаў, выбраных на першых выбарах, канчаецца пад канец двухгадовага перыяду; неадкладна пасля першых выбараў імёны гэтых дзевяці членаў вызначаюцца па жэрабю старшынёй Камітэта.

b) Для запаўнення непрадбачаных вакансій Дзяржава — удзельніца Канвенцыі, эксперт якой не з'яўляецца больш членам Камітэта, прызначае другога эксперта з ліку сваіх грамадзян, пры ўмове ўхвалення Камітэтам.

6. Дзяржавы-ўдзельніцы нясуць адказнасць за пакрыццё выдаткаў членаў Камітэта за перыяд выканання імі абавязкаў у Камітэце.

### Артыкул 9

1. Дзяржавы-ўдзельніцы абавязваюцца падаваць Генеральнаму сакратару Арганізацыі Аб'яднаных Нацый для разгляду Камітэтам даклад аб прынятых заканадаўчых, судовых, адміністрацыйных альбо іншых мерах, з дапамогай якіх праводзяцца ў жыццё палажэнні гэтай Канвенцыі: а) на працягу года пасля ўступлення ў сілу гэтай Канвенцыі для дадзенай дзяржавы; і b) у далейшым кожныя два гады і ўсялякі раз, калі гэтага патрабуе Камітэт. Камітэт можа запатрабаваць у Дзяржаў — удзельніц Канвенцыі дадатковую інфармацыю.

2. Камітэт штогадова праз Генеральнага сакратара падае даклад Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый аб сваёй дзейнасці і можа рабіць прапановы і агульныя рэкамендацыі, заснаваныя на вывучэнні дакладаў і інфармацыі, атрыманых ад Дзяржаў — удзельніц Канвенцыі. Такія прапановы і агульныя рэкамендацыі паведамляюцца Генеральнай Асамблеі разам з заўвагамі Дзяржаў — удзельніц Канвенцыі, калі такія маюцца.

### Артыкул 10

1. Камітэт вызначае свае ўласныя правілы працэдуры.

2. Камітэт выбірае сваіх службовых асоб тэрмінам на два гады.

3. Сакратарыят Камітэта забяспечваецца Генеральным сакратаром Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

4. Пасяджэнні Камітэта звычайна праводзяцца ў Цэнтральных установах Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

### Артыкул 11

1. Калі якая-небудзь Дзяржава-ўдзельніца лічыць, што другая Дзяржава-ўдзельніца не выконвае палажэнняў Канвенцыі, то яна можа давесці гэта да ведама Камітэта. Камітэт затым перадае названае паведамленне зацікаўленай Дзяржаве-ўдзельніцы. На працягу трох месяцаў дзяржава, якая атрымала паведамленне, перадае Камітэту пісьмовыя тлумачэнні ці заявы, якія асвятляюць гэтае пытанне і меры, якія маглі быць прыняты гэтай дзяржавай.

2. Калі пытанне не ўрэгулявана да задавальнення абодвух бакоў шляхам двухбаковых перагавораў альбо нейкім іншым даступным ім шляхам на працягу шасці месяцаў пасля атрымання такой дзяржавай першапачатковага паведамлення, то любая з гэтых двух дзяржаў мае права зноў перадаць гэтае пытанне на разгляд Камітэта шляхам адпаведнага паведамлення Камітэту, а таксама іншай дзяржаве.

3. Камітэт разглядае перададзенае яму пытанне ў адпаведнасці з пунктам 2 гэтага артыкула пасля таго, як ён пераканаецца, у адпаведнасці з агульнапрызнанымі прынцыпамі міжнароднага права, што ўсе даступныя ўнутраныя сродкі прававой абароны былі апрабаваны і вычарпаны ў дадзеным выпадку. Гэтае правіла не дзейнічае ў тых выпадках, калі прымяненне гэтых сродкаў празмерна зацягваецца.

4. Па любым перададзеным на яго разгляд пытанні Камітэт можа прапанаваць зацікаўленым Дзяржавам-удзельніцам падаць любую інфармацыю, якая тычыцца дадзенай справы.

5. Калі нейкае пытанне, што вынікае з палажэнняў гэтага артыкула, знаходзіцца на разглядзе Камітэта, то зацікаўленыя Дзяржавы-ўдзельніцы маюць права накіраваць сваіх прадстаўнікоў для ўдзелу ў пасяджэннях Камітэта без права голасу на перыяд разгляду дадзенага пытання.

### Артыкул 12

1. а) Пасля таго, як Камітэт атрымаў і пільна праверыў усю інфармацыю, якую ён лічыць неабходнай, Старшыня прызначае спецыяльную Пагадняльную камісію (у далейшым яна будзе называцца «Камісія») у складзе пяці чалавек, якія могуць быць ці не быць членамі Камітэта. Члены Камісіі прызначаюцца з аднадушнай згоды бакоў у спрэчцы, і Камісія падае свае добрыя паслугі зацікаўленым дзяржавам у мэтах міралюбівага ўрэгулявання гэтага пытання на аснове захавання палажэнняў Канвенцыі.

b) Калі паміж дзяржавамі, якія з'яўляюцца бакамі ў спрэчцы, не будзе на працягу трох месяцаў дасягнута згода адносна ўсяго складу альбо часткі складу Камісіі, то тыя члены Камісіі, аб прызначэнні якіх не было дасягнута згоды паміж дзяржавамі, што з'яўляюцца бакамі ў спрэчцы, выбіраюцца са складу членаў Камітэта большасцю ў дзве трэці галасоў шляхам тайнага галасавання.

2. Члены Камісіі выконваюць свае абавязкі ў сваёй асабістай якасці. Яны не павінны быць грамадзянамі дзяржаў, якія з'яўляюцца бакамі ў спрэчцы, або дзяржавы, якая не ўдзельнічае ў Канвенцыі.

3. Камісія выбірае свайго Старшыню і вызначае свае ўласныя правілы працэдуры.

4. Пасяджэнні Камісіі звычайна праводзяцца ў Цэнтральных установах Арганізацыі Аб'яднаных Нацый альбо ў любым іншым зручным месцы па рашэнню Камісіі.

5. Сакратарыят, які забяспечваецца ў адпаведнасці з пунктам 3 артыкула 10 Канвенцыі, таксама абслугоўвае Камісію, калі спрэчка паміж Дзяржавамі — удзельніцамі Канвенцыі прывядзе да стварэння Камісіі.

6. Дзяржавы, якія з'яўляюцца бакамі ў спрэчцы, у роўнай меры нясуць усе выдаткі членаў Камісіі ў адпаведнасці з каштарысам, які падаецца Генеральным сакратаром Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

7. Генеральны сакратар мае права аплачваць выдаткі членаў Камісіі, калі гэта неабходна, да іх пакрыцця дзяржавамі, якія з'яўляюцца бакамі ў спрэчцы, у адпаведнасці з пунктам 6 гэтага артыкула.

8. Атрыманая і вывучаная Камітэтам інфармацыя аддаецца ў распараджэнне Камісіі, і Камісія можа прапанаваць зацікаўленым дзяржавам падаць любую інфармацыю, што тычыцца справы.

### Артыкул 13

1. Калі Камісія цалкам разгледзіць пытанне, яна павінна падрыхтаваць і падаць Старшыні Камітэта даклад, з якога вынікаюць яе заключэнні па ўсіх пытаннях, што тычацца фактычнай сутнасці спрэчак паміж бакамі, і такія рэкамендацыі, якія яна прызнае неабходнымі для вырашэння спрэчкі.

2. Старшыня Камітэта павінен накіраваць даклад Камісіі кожнай з дзяржаў, якія ўдзельнічаюць у спрэчцы. На працягу трох месяцаў гэтыя дзяржавы павінны паведаміць Старшыні Камітэта пра тое, ці згодны яны з рэкамендацыямі, выказанымі ў дакладзе Камісіі.

3. Па сканчэнні перыяду, прадугледжанага ў пункце 2 гэтага артыкула, Старшыня Камісіі павінен накіраваць даклад Камісіі і заявы зацікаўленых Дзяржаў-удзельніц іншым Дзяржавам — удзельніцам Канвенцыі.

### Артыкул 14

1. Дзяржава-ўдзельніца можа ў любы час заявіць, што яна прызнае кампетэнцыю Камітэта ў межах яго юрысдыкцыі прымаць і разглядаць паведамленні ад асобных грамадзян або груп людзей, якія сцвярджаюць, што яны з'яўляюцца ахвярамі парушэння дадзенай Дзяржавай-удзельніцай якіх-небудзь правоў, выкладзеных у гэтай Канвенцыі. Камітэт не павінен прымаць ніякіх паведамленняў, калі яны тычацца Дзяржавы — удзельніцы Канвенцыі, не зрабіўшай такой заявы.

2. Любая Дзяржава-ўдзельніца, якая робіць заяву, прадугледжаную ў пункце 1 гэтага артыкула, можа заснаваць ці назваць орган у рамках сваёй нацыянальнай прававой сістэмы, які будзе кампетэнтны прымаць і разглядаць петыцыі асобных грамадзян і груп людзей у межах сваёй юрысдыкцыі, якія заяўляюць, што яны з'яўляюцца ахвярамі парушэння якога-небудзь з правоў, выкладзеных у гэтай Канвенцыі, і якія вычарпалі іншыя даступныя мясцовыя сродкі прававой абароны.

3. Заява, зробленая ў адпаведнасці з пунктам 1 гэтага артыкула, а таксама найменне любога органа, заснаванага ціназванага ў адпаведнасці з пунктам 2 гэтага артыкула, павінны быць дэпаніраваны адпаведнай Дзяржавай-удзельніцай у Генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, які перасылае іх копіі астатнім Дзяржавам-удзельніцам. Заява можа быць у любы час узята назад шляхам паведамлення пра гэта Генеральнаму сакратару, але гэта не павінна ні ў якой меры адбівацца на паведамленнях, якія знаходзяцца на разглядзе Камітэта.

4. Спіс петыцый складаецца органам, заснаваным ці названым у адпаведнасці з пунктам 2 гэтага артыкула, а завераныя копіі гэтага спіса штогод здаюцца праз адпаведныя каналы Генеральнаму сакратару, прычым іх змест не павінен аддавацца галоснасці.

5. У выпадку, калі той, хто падае петыцыю, не задаволены дзеяннямі органа, заснаванага ці названага ў адпаведнасці з пунктам 2 гэтага артыкула, ён мае права на працягу шасці месяцаў перадаць дадзенае пытанне ў Камітэт.

6. а) Камітэт у канфідэнцыяльным парадку даводзіць любое атрыманае ім паведамленне да ведама Дзяржавы-ўдзельніцы, якая абвінавачваецца ў парушэнні якога-небудзь з палажэнняў Канвенцыі, але адпаведная асоба або група асоб не называюцца без яго ці іх ясна выказанай згоды. Камітэт не павінен прымаць ананімных паведамленняў.

b) На працягу трох месяцаў дзяржава, якая атрымала паведамленне, падае Камітэту пісьмовыя тлумачэнні ці заявы, якія асвятляюць гэтае пытанне і меры, якія маглі быць прыняты гэтай дзяржавай.

7. а) Камітэт разглядае паведамленні з улікам усіх даных, пададзеных у яго распараджэнне зацікаўленай Дзяржавай-удзельніцай і петыцыянерам. Камітэт не павінен разглядаць ніякіх паведамленняў ад якога-небудзь петыцыянера, калі ён не вызначыць, што петыцыянер вычарпаў усе даступныя ўнутраныя сродкі прававой абароны. Аднак гэта правіла не дзейнічае ў тых выпадках, калі прымяненне гэтых сродкаў празмерна зацягваецца.

b) Камітэт накіроўвае свае прапановы і рэкамендацыі, калі такія маюцца, зацікаўленай Дзяржаве-ўдзельніцы і петыцыянеру.

8. Камітэт уключае ў свой штогадовы даклад рэзюме такіх паведамленняў і, у выпадку неабходнасці, кароткае выкладанне тлумачэнняў і заяў зацікаўленых Дзяржаў-удзельніц, а таксама свае ўласныя прапановы і рэкамендацыі.

9. Камітэт кампетэнтны выконваць функцыі, прадугледжаныя ў гэтым артыкуле, толькі ў тых выпадках, калі па крайняй меры дзесяць Дзяржаў — удзельніц Канвенцыі зрабілі заявы ў адпаведнасці з пунктам 1 гэтага артыкула.

### Артыкул 15

1. Да дасягнення мэт Дэкларацыі аб аддаванні незалежнасці каланіяльным краінам і народам, якая ўтрымліваецца ў рэзалюцыі 1514 (XV) Генеральнай Асамблеі ад 14 снежня 1960 года, палажэнні гэтай Канвенцыі ніякім чынам не абмяжоўваюць права падачы петыцый, дадзенага гэтым народам у сілу іншых міжнародных дакументаў або Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый і яе спецыялізаванымі ўстановамі.

2. а) Камітэт, заснаваны ў адпаведнасці з пунктам 1 артыкула 8 гэтай Канвенцыі, атрымлівае копіі петыцый ад органаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, якія займаюцца пытаннямі, што непасрэдна тычацца прынцыпаў і мэт гэтай Канвенцыі, і падае ім думкі і рэкамендацыі па гэтых петыцыях пры разглядзе петыцый ад жыхароў падапечных і несамакіравальных тэрыторый і ўсіх іншых тэрыторый, у адносінах якіх прымяняецца рэзалюцыя 1514 (XV), якая тычыцца пытанняў, прадугледжаных гэтай Канвенцыяй, якія знаходзяцца на разглядзе гэтых органаў.

b) Камітэт атрымлівае ад кампетэнтных органаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый экземпляры дакладаў, якія тычацца заканадаўчых, судовых, адміністрацыйных і іншых мерапрыемстваў, што непасрэдна тычацца прынцыпаў і мэт гэтай Канвенцыі і праводзяцца кіруючымі дзяржавамі ў тэрыторыях, упамянутых у падпункце а гэтага пункта, а таксама выказвае на гэты конт сваю думку і робіць рэкамендацыі гэтым органам.

3. Камітэт уключае ў свой даклад Генеральнай Асамблеі рэзюме петыцый і дакладаў, атрыманых ім ад органаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, а таксама думкі і рэкамендацыі Камітэта, якія тычацца гэтых петыцый і дакладаў.

4. Камітэт запытвае ў Генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый усю інфармацыю, якая тычыцца мэт гэтай Канвенцыі і знаходзіцца ў яго распараджэнні, адносна тэрыторый, упамянутых у пункце **2а** гэтага артыкула.

### Артыкул 16

Палажэнні гэтай Канвенцыі, якія тычацца ўрэгулявання спрэчак ці разгляду скаргаў, прымяняюцца без урону для іншых метадаў вырашэння спрэчак або скаргаў у галіне дыскрымінацыі, выкладзеных у асноватворных дакументах Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і яе спецыялізаваных устаноў ці ў Канвенцыях, ухваленых апошнімі, і не пярэчаць Дзяржавам-удзельніцам выкарыстоўваць іншыя метады для вырашэння спрэчак у адпаведнасці з агульнымі або спецыяльнымі міжнароднымі пагадненнямі, якія дзейнічаюць у адносінах паміж імі.

## ЧАСТКА III

### Артыкул 17

1. Гэтая Канвенцыя адкрыта для падпісання любой дзяржавай — членам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый ці членам любой з яе спецыялізаваных устаноў, любой дзяржавай — удзельніцай Статута Міжнароднага Суда і любой іншай дзяржавай, запрошанай Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый да ўдзелу ў гэтай Канвенцыі.

2. Гэтая Канвенцыя падлягае ратыфікацыі. Ратыфікацыйныя граматы дэпаніруюцца ў Генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

### Артыкул 18

1. Гэтая Канвенцыя будзе адкрыта для далучэння любой дзяржавы, названай у пункце 1 артыкула 17 гэтай Канвенцыі.

2. Далучэнне робіцца шляхам здачы на захаванне дакумента аб далучэнні Генеральнаму сакратару Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

### Артыкул 19

1. Гэтая Канвенцыя ўступае ў сілу на трыццаты дзень пасля здачы на захаванне Генеральнаму сакратару Арганізацыі Аб'яднаных Нацый дваццаць сёмай ратыфікацыйнай граматы альбо дакумента аб далучэнні.

2. Для кожнай дзяржавы, якая ратыфікуе гэтую Канвенцыю або далучыцца да яе пасля здачы на захаванне дваццаць сёмай ратыфікацыйнай граматы ці дакумента аб далучэнні, гэтая Канвенцыя ўступае ў сілу на трыццаты дзень пасля здачы на захаванне яго ўласнай ратыфікацыйнай граматы або дакумента аб далучэнні.

### Артыкул 20

1. Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый атрымлівае і рассылае ўсім дзяржавам, якія з'яўляюцца ці могуць стаць удзельніцамі гэтай Канвенцыі, тэкст агаворак, зробленых дзяржавамі ў момант ратыфікацыі або далучэння. Любая дзяржава, якая пярэчыць супроць агаворкі, павінна на працягу дзевяноста дзён з дня вышэйназванага паведамлення паведаміць Генеральнаму сакратару пра тое, што яна не прымае дадзеную агаворку.

2. Агаворкі, не сумяшчальныя з мэтамі і задачамі гэтай Канвенцыі, не дапускаюцца, роўна як і агаворкі, якія могуць стаць перашкодай у рабоце якіх-небудзь органаў, створаных на падставе гэтай Канвенцыі. Агаворка лічыцца несумяшчальнай ці той, што пярэчыць рабоце, калі па крайняй меры дзве трэці Дзяржаў — удзельніц Канвенцыі пярэчаць супраць яе.

3. Агаворкі могуць быць зняты ў любы час шляхам адпаведнага паведамлення, накіраванага на імя Генеральнага сакратара. Такое паведамленне ўступае ў сілу ў дзень яго атрымання.

### Артыкул 21

Кожная Дзяржава-ўдзельніца можа дэнансаваць гэтую Канвенцыю шляхам пісьмовага паведамлення аб тым Генеральнаму сакратару Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Дэнансацыя ўступае ў сілу праз адзін год з дня атрымання паведамлення пра гэта Генеральным сакратаром.

### Артыкул 22

Любая спрэчка паміж дзвюма ці некалькімі Дзяржавамі-ўдзельніцамі адносна тлума-

і рэспублікі, мясцовых саветаў, рэдакцыі газет, часопісаў, работнікі культасветустаноў, кіраўніцтва творчых саюзаў. Мы атрымалі больш за тысячу тэлеграм у падтрымку закона, мноства допісаў з прапановамі і заўвагамі. Мне нават давялося скарыстаць свой адпачынак для работы над праектам.

Будзем спадзявацца, што на наступнай сесіі, магчыма, яшчэ да з'яўлення гэтага інтэрв'ю ў друку, Закон аб культуры будзе прыняты і развіццё беларускай культуры атрымае якасна новую аснову.

**Кар.:— Але ж рэалізацыя любога закона патрабуе сродкаў, і немалых. Ці задаволены вы асігнаваннямі на культуру ў рэспубліканскім бюджэце на гэты год! Памятаю, Старшыня Саўміна БССР Вячаслаў Францавіч Кебіч марыў давесці гэту лічбу да 3 працэнтаў ад рэспубліканскага бюджэту...**

**А. Т.:**— Магчыма, у наступным годзе нам і сапраўды ўдасца дасягнуць гэтай лічбы. А пакуль што яна выглядае больш сціпла — 2,02 працэнта ад агульнага бюджэту. Мы, вядома, не задаволены, бо нам недадалі 46 мільёнаў рублёў, неабходных, па нашых разліках, для выканання праграмы-мінімум. Але зрухі ёсць, і даволі значныя, асабліва калі ўлічыць, што летась асігнаванні на культуру складалі 0,87 працэнта...

**КАР.:— І першым крокам урада па рэалізацыі гэтых сродкаў з'явілася доўгачаканая пастанова Савета Міністраў БССР «Аб увядзенні надбавак да службовых акладаў і ставак работнікаў народнай адукацыі, аховы здароўя, сацыяльнага забеспячэння і культуры»! Зарплата настаўнікаў, выхавацеляў, метадыстаў, культасветработнікаў павялічылася на 50 працэнтаў...**

**А. Т.:**— І не толькі гэта. Пры Савеце Міністраў БССР было створана Упраўленне па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры, у падпарадкаванне якому перададзена Беларускае праектна-рэстаўрацыйнае аб'яднанне «Белрэстаўрацыя». У помнікаў, нарэшце, з'явіўся гаспадар, які будзе пра іх клапаціцца, з якога можна будзе спытаць і які, урэшце, будзе зацікаўлены ў паспяховай эканамічнай дзейнасці — з наступнага года Упраўленне будзе працаваць ва ўмовах самаакупнасці.

**КАР.:— А сёлета!**

**А. Т.:**— Сёлета на патрэбы рэстаўрацыі выдзелена 16 мільёнаў рублёў, якія размеркавалі наступным чынам: частка грошай перададзена непасрэдна мясцовым Саветам для рэстаўрацыі помнікаў (вядома, пад кантролем Камісіі па адукацыі і культуры і захаванню гістарычнай спадчыны); другая частка пераведзена на рахунак Міністэрства культуры БССР — на патрэбы рэспубліканскіх музеяў, якія размесцяцца ў адноўленых помніках; трэцюю частку сродкаў атрымала новаўтворанае Упраўленне па рэстаўрацыі і кансервацыі — трэба ж яму паспрабаваць адчуць смак заказчыкам; і ўрэшце, чацвёртая частка выдзеленых грошай (гэта больш чым палова мільёна рублёў) перададзена рэлігійным канфесіям — на тыя ж мэты. З наступнага года, як мы ўжо адзначалі, Упраўленне само будзе распараджацца ўсімі сродкамі.

**КАР.:— Вы апярэдзілі маё пытанне, Алег Анатольевіч. Я хацела спытацца, як Камісія па адукацыі і культуры будзе будаваць узаемаадносіны з рэлігійнымі канфесіямі!**

**А. Т.:**— Мяркую, наша супрацоўніцтва ў адраджэнні культурнай спадчыны, у выхаванні падрастаючага пакалення, у маральным аздараўленні грамадства будзе плённым. Мы і надалей будзем імкнуцца аб'яднаць намаганні ўсіх чатырох хрысціянскіх канфесій на тэрыторыі Беларусі — праваслаўнай, каталіцкай, уніяцкай і пратэстанцкай,— для выканання гэтых высакародных задач, не аддаючы перавагі ні адной з іх і стараючыся ўраўнаваць іх у правах, пры гэтым не пакідаючы па-за ўвагай інтарэсы іудзеяў і мусульман.

**КАР.:— А як, на ваш погляд, вырашыцца лёс полацкай Сафіі!**

**А. Т.:**— У бліжэйшы час Вярхоўны Савет павінен разгледзець гэта пытанне. Мяркую, усе разумеюць, што Сафія — жамчужына беларускай культуры, скарб усяго беларускага народа, як веруючых, так і няверуючых. Храм ёсць і павінен застацца асяродкам духоўнай культуры для ўсіх беларусаў. Асабіста я прапаную такое выйсце, каб нікога не пакрыўдзіць: аддаць тры з шасці апсід рэлігійным канфесіям, дзе яны маглі б па вялікіх святах адпраўляць службу, а асноўны аб'ём пакінуць у выглядзе арганнай залы. Вядома, павінен дзейнічаць і археалагічны музей у сутарэннях помніка.

А наогул праваслаўнаму Полацку я б перадаў Богаяўленскі сабор, дзе зараз размешчана мастацкая галерэя. Галерэі, мяркую, больш утульна будзе ў Кадэцкім корпусе, гаспадаром якога зараз з'яўляецца вайсковы шпіталь. Вайскоўцам жа даўно пара пабудаваць для сваіх патрэб больш сучаснае і прыстасаванае памяшканне.

**КАР.: — А над чым зараз працуе падкамісія па адукацыі!**

**А. Т.:** — Ні для кога не сакрэт, што наша агульнаадукацыйная сістэма патрабуе карэннай рэарганізацыі. Усе змены і новаўвядзенні ў сярэдняй школе не прынеслі жаданых вынікаў — нашы дзеці па-ранейшаму атрымліваюць якасна нізкую адукацыю, прэстыж настаўніка падае, духоўны патэнцыял выпускніка сярэдняй школы за рэдкім выключэннем — патэнцыял дзікуна.

Праект закона аб адукацыі, над якім зараз працуе падкамісія, прадугледжвае прынцыпова новыя прапановы — дэідэалагізацыя агульнаадукацыйнай школы, адмена ўсеагульнай сярэдняй адукацыі, магчымасць стварэння прыватных школ з платным навучаннем...

**КАР.: — Беларускі гуманітарна-адукацыйны ліцэй, у стварэнні якога вы, Алег Анатольевіч, прынялі непасрэдны ўдзел, ужо мае вопыт платнага навучання...**

**А. Т.:** — Сапраўды, адкрыццё ліцэя — ініцыятыва Рады ТБМ Савецкага раёна горада Мінска, якую я ўзначальваю. У гэтай навучальнай установе, якая мае на мэце выхаванне дзяцей на культурна-гістарычных традыцыях народа, навучанне і сапраўды платнае. Вучні 8—9 класаў плацяць 10 рублёў у месяц, 10—11 класаў і дарослыя на вячэрнім аддзяленні (а ёсць і такое аддзяленне) — 15 рублёў. Адкрываючы ліцэй, мы меркавалі набраць каля 100 навучэнцаў, зараз у ліцэй залічана больш як 150 чалавек і многім мы вымушаны былі адмовіць, бо не маем магчымасці іх прымаць...

**КАР.: — Значыць, людзі падтрымліваюць беларускамоўную ўстанову — як я чула, усе яе супрацоўнікі — ад бухгалтара да прыбіральшчыцы — размаўляюць і вядуць справаводства толькі па-беларуску...**

**А. Т.:** — Для нас галоўнае не ў тым, каб дзеці навучыліся гаварыць на роднай мове (а за 4 гады навучання ў беларускамоўным асяроддзі яны і сапраўды добра авалодаюць мовай), а ў тым, каб яны выраслі культурнымі людзьмі, якія добра ведаюць гісторыю, мастацтва, традыцыі, літаратуру свайго народа, ганарацца сваім паходжаннем. Большасць нашых навучэнцаў — дзяўчаты, і гэта вельмі радуе: яны будучыя маці і змогуць перадаць сваім дзецям элементы нацыянальнай культуры, якія выхаваў у іх ліцэй.

**КАР.: — Вы разважаеце зараз зусім як мітрапаліт Філарэт...**

**А. Т.:** — Дык гэта ж не выпадкова! Царква даўно зразумела, што жанчына ў большасці выпадкаў — духоўны стрыжань сям'і. Менавіта маці дае дзецям першыя ўрокі этыкі, культуры паводзін у побыце і грамадстве, выхоўвае густ, прывычкі, вучыць дабрыні і спагадзе. Многія рэлігіі данеслі да нас з глыбіні стагоддзяў пакланенне жанчыне, маці, як, напрыклад, каталіцкая рэлігія, дзе культ Дзевы Марыі, магчыма, вышэйшы за культ Хрыста...

**КАР.: — Было б добра, каб такія гуманітарна-адукацыйныя ліцэі адкрыліся паўсюдна, хаця б для пачатку ва ўсіх абласных гарадах. Гэта быў бы рашучы крок па шляху выканання закона «Аб мовах у Беларускай ССР».**

**А. Т.:** — А гэта ўжо цалкам будзе залежаць ад грамадскасці, ад мясцовых таварыстваў беларускай мовы. У Гомелі, напрыклад, дзе людзі занепакоены будучыняй сваіх дзяцей, неўзабаве будзе адкрыты філіял нашага Беларускага гуманітарна-адукацыйнага ліцэя. Мяркую, гэта толькі пачатак, дый ліцэі могуць быць рознымі — тэхнічныя, музычныя і г. д.

Што датычыць выканання «Закона аб мовах у Беларускай ССР», я б не сказаў, што становішча тут настолькі змрочнае, як малююць яго іншы раз некаторыя газеты. Па-першае, беларуская мова загучала ў парламенце, ва ўрадзе, у многіх вярхоўных інстанцыях. Недалёкі той час, калі на сваёй мове загаворыць абласное і раённае «начальства», а гэта ўжо будзе сігнал мясцовым кіраўнікам перастаць саромецца роднай мовы. Па-другое, у рэспубліцы шмат што робіцца для выканання гэтага закона: мяняюцца шыльды, пячаткі, адкрываюцца курсы па вывучэнню беларускай мовы, ствараюцца этнаграфічныя музеі, куткі, народныя тэатры, праводзяцца фальклорна-этнаграфічныя святы...

Калі хочаце, я вам зачытаю вытрымкі з падрабязнага адказу Савета Міністраў БССР за подпісам Ніны Мікалаеўны Мазай на мой дэпутацкі запыт аб выкананні Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР:

«...Прымаюцца неабходныя меры па пашырэнню сферы прымянення беларускай мовы і іншых нацыянальных моў ва ўстановах народнай адукацыі. За час пасля прыняцця Закона Беларускай ССР «Аб мовах у Беларускай ССР» на 7,4 працэнта павялічылася колькасць школ з дзвюма мовамі навучання. У 1990/91 навучальным годзе ў рускамоўных школах рэспублікі ўкамплектавана 843 (у 1989/90 навучальным годзе — 143) першыя беларускамоўныя класы. У іх навучаецца 47 811 вучняў, ці 29 працэнтаў ад агульнай колькасці першакласнікаў.

Распрацаваны і ідуць у эфір тэлеперадачы з цыкла «ТБ — школе» для пачатковай школы на беларускай мове. Адкрыты цыкл музычных перадач, заснаваны на беларускім фальклоры — «Радавод», а таксама цыклы навучальных перадач «Гаворым па-беларуску», «Адраджэнне», «Літарынка»; прысвечаны мінуламу Беларусі і яе выдатным дзеячам — «Старонкі гісторыі», «Спадчына», «Родная мова: здабыткі і праблемы», «Роднае слова», «Ліра» і іншыя.

...Падрыхтавана праграма выдання разнастайных беларускіх, іншамоўна-беларускіх і беларуска-іншамоўных, руска-беларускіх і беларуска-рускіх слоўнікаў тэрміналагічнай лексікі, а таксама распрацаваны планы выпуску першачарговых выданняў навучальнай і навучальна-метадычнай літаратуры на беларускай мове» і г. д.

І ўсё ж, мяркую, нам рана заспакойвацца: ёсць безліч праблем і ў кнігадрукаванні, і ў тэатры, і ў той жа школе.

**КАР.: — Мяркую, Камісія па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны і надалей будзе шляхам заканадаўчай ініцыятывы стымуляваць працэс адраджэння нацыянальнай культуры!**

**А. Т.:** — Акрамя законаў аб культуры і адукацыі, камісія працуе над цэлым блокам законаў, якія накіраваны менавіта на адраджэнне беларускай культуры. Гэта новы закон аб ахове помнікаў гісторыі і культуры, закон аб бібліятэках, закон аб музеях у БССР, закон аб архівах у БССР, а таксама пастанова ВС БССР, накіраваная супраць парнаграфіі, кітчу і пошласці ў мастацтве, маецца на ўвазе перш за ўсё кіна- і відэапрадукцыя.

**КАР.: — Як вы мяркуеце ажыццявіць гэту пастанову! Будзе ўведзена своеасаблівая цэнзура!**

**А. Т.:** — Да цэнзуры мы наўрад ці калі-небудзь вернемся, бо, як кажуць, гісторыя паўтараецца спачатку ў выглядзе трагедыі, а потым фарса. Будзе створана спецыяльная камісія, надзеленая паўнамоцтвамі прымяняць санкцыі — штрафаваць, абкладаць падаткамі тых, хто парушае этычныя нормы, разбэшчвае непаўналетніх, прапагандуе гвалт, пошласць, цынізм. Мы павінны абараніць грамадства ад той хвалі нізкапробнай прадукцыі, якая запаланіла наш рынак. Эратычнае мастацтва таксама павінна кіравацца законамі этыкі і маралі, адпавядаць нармальнаму агульнаеўрапейскаму ўзроўню.

**КАР.: — Нідзе ў свеце кітч не мае такога камерцыйнага поспеху, як у нас, у Савецкім Саюзе. І гэта нядзіўна — ён дзецішча нашага, як вы казалі, таталынага бескультур'я. Адны мі пастановамі і законамі яго не перамагчы. Яго трэба выцясняць крок за крокам — выхаваннем, павышэннем агульнага культурнага ўзроўню народа, паляпшэннем матэрыяльных умоў жыцця. Нармалізуецца эканоміка, палепшыцца наш дабрабыт, і ён знікне, як зніклі распаўсюджаныя некалі пасля вайны алені, прыгажуні, лебедзі, намаляваныя фарбай на коўдрах...**

**А. Т.:** — Вы маеце рацыю. Жыццё развіваецца не толькі па чалавечых, але і па сваіх уласных законах...

Фота Віктара ДРАЧОВА.

Сяргей ГРАХОЎСКІ



## Прыгажосць

Усмешка і ласка, і добрае слова
Іскрынкай жывою ў вачах заблішчаць.
І гэта пачатак, і гэта аснова,
Каб шчырую песню і дружбу пачаць.

Адкрыю душу без трывогі і страху,
Другая душа азавецца ў адказ,
Каб рэшту прайсці незваротнага шляху,
Каб зайздрасць і злосць не прысталі да нас.

Душа — да душы, і дарога даўжэе,
І рады адзін аднаму чалавек.
Ад ласкі аблічча ў яго прыгажэе,
Ад злосці становіцца страшным навек.

9/IX—90 Іслач.

## Страты

Разумных і шчырых, адданых і смелых
Залічвалі дурні ў вар'яты,
Яшчэ маладых і даўно пасівелых
Сілком заганялі за краты.

Злачынцаў палохала горкая праўда,
Разумныя ў іх — вінаваты.
Іх крэсла трымала, аклад і пасада,
Сумленных — «псіхушкі» і краты.
Трымалі іх доўга, ахоўвалі дбайна
Маёры-ўрачы і салдаты,
Злачынства лічылі «дзяржаўнаю тайнай»,
Надзейнай апораю — краты.

Бяздарнасць парой геніяльнай бывае,
Каб звесці дашчэнту багацці
Урадлівай зямлі неабдымнага краю
І страту паставіць на страце.

А самі? А самі — заўсёды з вусамі,
І вусы — у тлушчы і ў мёдзе,
Заўзята клянуцца з трыбунаў басамі,
Што дбаюць заўжды аб народзе.

Дзяржаўных «разумнікаў» нават шахцёры
Не выпруць ніяк з кабінетаў,
Яны ж памнажаюць пакуты і гора,
Саромячы нас перад светам.

Пакорны народ, і цярплівы, і дужы,
Ламаны, страляны, таптаны і біты,
Ты сцерпіш нястачы, і голад, і сцюжы
І толькі не сыдзеш з надзейнай арбіты,
Бо воля і праўда душу раскавала,
І след недаверу сплыве напрадвесні,
Нарэшце і гэтая пройдзе навала,—
Народ акрыяе, народ уваскрэсне.

## Камуналка

Пятнаццаць прымусаў шыпела
На пліце і на сталах,
А што там прэла і кіпела,
Не дазнаўся б сам Алах.

Хтось чытаў у туалеце,
Нехта гнуўся у дугу,
Стукаліся ў дзверы дзеці
І нізаліся ў чаргу.

Быццам вымпелы, пялёнкі
Аздаблялі калідор,
Нечыя зяці і жонкі
Лаяліся з даўніх пор,

Што агульную падлогу
Затапталі, як на зло,
То крычалі на старога,
Што не выключыў святло,

Што іграў на фартэп'яна
Глухаваты піяніст,
І да ўсіх чапляўся п'яны
Прафсаюзны актывіст,

Што цыбуліну укралі,
Што гарлалі давідна,
Бо была гулянка ў кралі
І судзімасць не адна.

Не даваў усім спакою
За сцяной дзіцячы плач,
А ў маленечкім пакоі
Жыў уважлівы стукач.

Усміхаўся ён ласкава
І дапытваўся, чаму
Скрозь і па якому праву
Забіраюць у турму.

Часам скардзіўся, што змалку
Чуе сваркі і выццё,
Бо загналі ў камуналку
І, відаць, на ўсё жыццё.

Хто маўчаў, хто абураўся,
Што нямала ў нас нястач,
З кожным ветліва згаджаўся
Задаволены стукач.

Часам слоўца, як запалку,
Падтыкне ён, і таму
За паўгода камуналку
Перавёў на Калыму.

Сталі там усе сябрамі,
Без лістоў і перадач
Горка плакалі бабрамі,
А ў раскошы жыў стукач.

22—25/IX—90.

## Стук

Я баюся стуку уначы,
Нават калі дома не начую,
Бо запомніў, як звіняць ключы,
І з юнацтва плач і стогны чую.

Сцюжа працінае да касцей,
Калі нехта тупае за мною,
Каб паслаць няпрошаных гасцей
З ордэрам і страшнай навіною.

Я не сплю спакойна па начах
Вось ужо амаль што паўстагоддзя,
Бо дагэтуль не праходзіць страх.
Злітуйцеся! Толькі стукаць годзе.

## Прызнанне

Мы з табой дачасна пасівелі,
Разышоўся рамантычны дым,
Разам выйшлі з вогненнай купелі,
Саступіўшы месца маладым.

Кажуць, кропля нават камень точыць,
А гады насечкі на чале
Пакідаюць непрыкметна ўночы,
Каб маглі заўважыць пры святле.

Заўважаем і не заўважаем
Мы ў раі старога шалаша,
Як сваёю робіцца чужая
І чужою ўласная душа.

Паглядаем яснымі вачыма
Ў радасці, у горы і ў журбе,
І ужо расстацца немагчыма
І прайсці паўкроку без цябе.

Страшна прыслухоўвацца да стуку,
Калі ў вечнасць падаюць гады,
І чакаць з трывогаю разлуку,
Хоць і з горкім светам назаўжды.

10/IX—90. Іслач.

## Надзея

І за слова каты забівалі,
Слова распіналі на крыжы,
Словам краты і мячы кавалі,
Назаўжды сціралі рубяжы.

Слова заганяла ў душагубкі,
Гарады сцірала да асноў,
Слова перамолвала ў абрубкі
Нечыіх унукаў і сыноў.

Неслі гора ўсім хлусня і змова.
Толькі б дачакацца нам, калі
Пераможа праведнае слова
І ўваскрэсне праўда на Зямлі.

6/IX—90. Іслач.

## Ахвяры

Ахвяры лічым на мільёны,
І ўсіх не можам палічыць,
І век суровы і шалёны
Пакуль нічым не залячыць.

Не гояцца старыя раны,
І яшчаркі шукаюць спрат
У чарапах непахаваных
Яшчэ з тае вайны салдат.

А іх дасюль чакаюць маці,
«Без вестак» страчаных дарма.
Ні месца ім на людным сваце,
Ні нават пенсіі няма.

Бязгучна ў апусцелых хатах
Яшчэ жыве нязводны жах
І плач па тых, што ў Курапатах
Закончылі апошні шлях.

О колькі іх, не пахаваных
І не акропленых слязой,
Навечна юных і каханых
Пад мохам і пад дзеразой.

Ніхто ахвяр не злічыць зроду,
Галодных, кінутых на звод,—
Дзяцей тых «ворагаў народа»,
Што так любілі свой народ.

З пустых вачніцаў Курапаты,
Як і даўней, у гэты час
Глядзяць з папрокамі, што каты
Усё яшчэ цікуюць нас.

11/IX—90. Іслач.

## Ростань

Хутка заваліць снягамі зіма
Сцежкі, дарогі і поле.
Можа, ты часам прыпомніш сама
Нашую ростань да болю.

Снег завіваўся і ветры гулі,
Ад завірухі нідзе не схавацца.
Тройчы вярталіся, бо не маглі
Мы аніяк развітацца.

Хутка завеюць дарогі снягі,
У шыбу пастукае ранне,
І засмыліць успамін дарагі —
Ростань, сустрэча і зноў развітанне.

Больш на спатканне надзеі няма,—
Усё нечакана і проста:
Снегам даўно зараўняла зіма
Нашу апошнюю ростань.

24/VIII—90.

◆

Караюць нас і неба, і зямля
За ўсе грахі перад людзьмі і Богам,
І голад крадзецца здаля,
І мор стаіўся за парогам.

◆

Шапацяць лісты на пожні,
Следам ходзіць доўгі цень.
Можа гэта мой апошні
Месяц, тыдзень або дзень.

◆

Пакутую начамі да світання
І за цябе ад гора галашу
За сорам твой, пустыя абяцанні,
За ботам растаптаную душу,

За страты, здзек і святатацтва,
За безліч страчаных сыноў.
Каб гора абмінула і жабрацтва,
Малюся і маліцца буду зноў.

◆

Бежанцы вандруюць па зямлі,
Жабракі брыдуць, і дзеці плачуць.
Дык чаму ж дагэтуль у Крамлі
Іх ніхто не чуе і не бачыць?

## Хто вінаваты?

Хто ўдвая падняў зарплату?
Апаратчык — апарату,
А дакладней — сам сабе,
Гроб і ў дзве рукі грабе.

А пяцёрку ветэрану
Доўга з'езд шукаў старанна
Ў тытуні і ў пене піва,
Ды знайсці ніяк не змог.
Ветэран даспеў, як сліва,
І паехаў прама ў морг.

Толькі сын адчуў віну,
Бо пазычыў на труну.

## Перспектыва

Трэба «дзякуй» гаварыць:
Аграпром у нас на месцы —
Адвучыў піць і курыць
І адвучыць есці.
І ўсё ж на лепшы час
Спадзяюцца людзі,
Калі стане меней нас
І чаргі не будзе.

## Пара

Наменклатурныя чынушы
Нажэрліся да дурнаты,
Пазалівалі лоем душы,
Аж дух стаіць за паўвярсты.

Вы з даўніх пор пры камунізме
Жылі, жывеце і цяпер.
І бачыце ў ружовай прызме
Усё, што бралі напавер.

Мільёны вас на горб народу
Усселіся, як павукі,
І робіце за шкодай шкоду,
А вас трываюць дзівакі.

Сабе узводзіце харомы,
Дабро спрабуеце схаваць,
А нас Дзяржплан і Аграпромы
У свет пусцілі жабраваць.

Дакуль жа мы цярпець павінны?
Ці не настаў нарэшце час
Падняцца, выпрастаўшы спіны,
І у чаргу паставіць нас?

У палескім пяску грузнуць ногі, і магчыма таму жанчыны ў чорных хустках ідуць нетаропка. Няшмат іх засталося, і нясуць яны з году ў год адвечны сум.

Кажуць, яшчэ ад самай вайны ў гэты дзень яны разам выходзяць за вёску на бальшак — тую самую дарогу, што павяла іхніх мужоў на вайну, ды назад не вярнула.

Кажуць, чуюць яны на гэтай дарозе крокі сваіх мужоў і нават галасы.

Цяпер яны ўжо не галосяць, як раней, не вераць у вяртанне і не чакаюць. Але ўсё роўна ідуць. І я пайшоў за імі, каб зрабіць гэты здымак...

— На ўсё воля Бога,— гаворыць удава, якой так і не выпала зведаць мацярынскае шчасце. Другая ўдавіца ўспамінае пра свайго вясёлага, прыгожага і ласкавага саколіка і пра тое, што так і не знайшла ягонае магілкі. Трэцяя, у чорнай хустцы, праз скупыя слязінкі шкадуе ці то сябе хворую, ці то мужа-нябожчыка, ці то дачку-сіраціну. Чацвёртая — толькі моўчкі паглядзела ў вочы: відаць, адгаварыла ўжо, адплакала. Пятая рагатала на ўсю вуліцу і брудна лаялася...

Хадзіў я ад хаты да хаты і думаў: няўжо і сапраўды лёсам была наканавана Бармутам гэтакая злосная доля? Чуў і не хацеў верыць чутаму: з гэтай вёскі не вярнуўся з вайны ніводзін салдат. Амаль з кожнай хаты праз цёмныя шыбы цікаваў удовін пагляд...

Я не хацеў трывожыць іхнія болькі. Гэта іх дзень, названы Пераможным, сумам адбіўся на тварах. А я, выхаваны на суцэльным савецкім патрыятызме, ніяк не мог разгледзець на пасечаных часам тварах мужнасці і жыццястойкасці, а бачыў толькі пакутлівае пасляваеннае існаванне, безнадзейнае чаканне свайго так і не спраўджанага шчасця ды цяжкую нежаночую працу. У чорных хустках, у іх бабульчыных постацях сканцэнтравалася для мяне ўся трагедыя Вялікай Перамогі. І думалася міжволі, што не за такую долю-нядолю сваіх жонак і дзяцей склалі галовы Салдаты.

І кепска і балюча было ад гэтых думак. І засталіся на здымку чорныя хусткі — іх з кожным годам менее ў Бармутах.

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
**Фота аўтара.**

# чорныя хусткі

# ЧАРЫ РАБЫНІ ТЭКЛІ

Светлым майскім ранкам, уздымаючы клубы пылу, па дарозе імчала карэта. Пяцёра пасажыраў, разморaныя ласкавым італьянскім сонцам, драмалі. Побач, у футлярах, драмалі музычныя інструменты, нотныя аркушы, пагойдваліся на сценах карэты тэатральныя касцюмы. Дарога мелася быць нялёгкай — сотні кіламетраў аддзялялі прыгонных артыстаў пана Міхала Казімежа Агінскага, якія тры гады вучыліся тэатральнаму мастацтву ў італьянскіх майстроў, ад далёкай Беларусі.

Нечакана карэта спынілася ад рэзкага штуршка. Напалоханыя артысты ўбачылі, што шлях ім перагарадзіла карэта з завешаным акном, насустрач ужо бег маленькі смешны чалавечак у фраку.

— Прашу прабачэння,— задыхана прагаварыў ён,— вы так хутка ад'ехалі, што я не паспеў развітацца...

На перагаворы выйшаў дужы шыракаплечы мужчына — ён суправаджаў прыгонных артыстаў на чужыне. Чалавек у фраку занерваваўся:

— Зноў вы! Я хацеў бы пагаварыць з маімі сябрамі, а не з вамі!

З карэты выйшлі астатнія пасажыры — дзве жанчыны і двое мужчын,— і чалавек у фраку кінуўся да іх:

— О, вы ўсё ж ад'язджаеце! Нягледзячы на мае прапановы! Няўжо вы не разумееце, што вас чакае там? Вы зноў будзеце рабамі. Няўжо вы не можаце парушыць абяцанне, дадзенае пану, і застацца ў нас?

Чалавек у фраку хацеў яшчэ нешта сказаць, але яго перапыніла прыгажуня ў белай сукенцы:

— Прабачце, пан Антоніо. Мы тры гады не былі на радзіме, і нам хочацца вярнуцца не да свайго пана, а — дадому. І не ўгаворвайце: мы ўсё даўно вырашылі.

— Тэкля,— амаль прастагнаў Антоніо,— ты не разумееш, што зараз гаворыш. Твае сябры проста цудоўныя спевакі, а ты ж — вялікая актрыса. У цябе талент ад Бога, ён належыць не толькі табе. Я мог бы зрабіць, каб табе, твайму чароўнаму голасу пакланялася ўся Еўропа...

— Прабачце,— рэзка павярнулася прыгажуня і накіравалася ў карэту. Астатнія паспяшаліся за ёй. Карэта рванулася з месца, і слуп пылу з ног да галавы ахутаў італьянца...

Міхал Казімеж Агінскі быў проста шчаслівы. Спевакі, што вярнуліся з Італіі, вельмі парадавалі яго сваімі дасягненнямі. Галасы — чыстыя, прыгожага тэмбру, вялікага дыяпазону. Цяпер яго тэатр, які ўжо некалькі гадоў з'яўляецца адным з самых вядомых цэнтраў культуры і асветніцтва Беларусі, зможа, урэшце, падняцца да еўрапейскага ўзроўню. А заўтра — першы спектакль з новым складам трупы, у галоўных ролях — лепшыя артысты, брат і сястра, Кандрат і Тэкля Верабейчык!

...Узнялася заслона, і на гасцей пана Агінскага хлынулі патокі цудоўнай музыкі. Але ўсё ж з найбольшай увагай сачыў за сцэнічным дзеяннем пан Тэафас Ваўкавыцкі. Пасля спектакля ён падышоў да Агінскага:

— Як імя гэтай чараўніцы?

— О, гэта — гонар маёй трупы! Яе завуць Тэкля. Чароўны голас у дзяўчыны, праўда?

— Голас неблагі, але яна мне больш падабаецца целам. Няўжо вам у голаў не прыходзіла, што яна магла б стаць гаспадыняй пры любым мужчыне?

— У мяне ж ёсць жонка,— паціснуў плячамі Міхал Казімеж.

— У мяне таксама,— адказаў пан Тэафас.— Але калі б вы мне прадалі сваю пяюху, я б усім даказаў, што гаспадыняй можа быць не толькі жонка.

— Вы жартуеце,— паспрабаваў усміхнуцца Агінскі, але адразу ж зразумеў: усё, што сказана,— усур'ёз.

— Ну, дык прадасце мне Тэклю? — працягваў угаворваць Ваўкавыцкі.— Я добра заплачу.

— Хіба дзеля гэтага я вучыў яе тры гады ў Італіі?

— Я аплачу ўсе выдаткі, звязаныя для вас з Італіяй,— пераконваў Ваўкавыцкі.

Збянтэжаны Міхал Казімеж пачаў нешта гаварыць пра вялікае Мастацтва, пра сваё пачуццё адказнасці перад тымі, каго вывеў з духоўнай цемры да святла гармоніі, прыгажосці...

— Дык вы не хочаце прадаць мне сваю рабыню? Ну што ж, ваша воля. Але пройдзе час і вы пашкадуеце, што не прадалі...— у роспачы сказаў Ваўкавыцкі і пакінуў маёнтак.

Хутка забыўшыся пра непрыемную размову, Агінскі з галавой акунуўся ў тэатральныя справы. З раніцы да вечара рэпеціраваў са сваімі выхаванцамі новыя спектаклі, музыку для якіх пісаў сам. Усе былі задаволены, але з кожным днём усё больш змрочным рабіўся твар панскага аканома. Аднойчы ён прызнаўся Агінскаму, што яны знаходзяцца на мяжы разарэння. Пан Ваўкавыцкі скупіў усе вэксалі ў крэдытораў Агінскага і цяпер патрабуе іх тэрміновай аплаты.

— Я бачу толькі адно выйсце,— сказаў аканом.— І калі вы не згодзіцеся са мною, я мушу пайсці ад вас, бо жабраку аканом не патрэбен.

— Гавары,— сумна адказаў Міхал Казімеж,— я зраблю так, як ты параіш.

— Праз два тыдні ваш маёнтак будзе апісаны, і ўсё пойдзе з малатка. Але ёсць чалавек, які можа выратаваць вас. Сам крэдытор знішчыць усе вашы вэксалі.

— Гэта немагчыма. Ваўкавыцкі — няўмольны чалавек.

— Учора я размаўляў з ім: ён згодзен пайсці вам насустрач, калі вы аддасце яму Тэклю Верабейчык.

— Ні ў якім разе! — закрычаў Агінскі.— Гэты чалавек давёў мяне да разарэння. Я ненавіджу яго! Я не аддам яму Тэклю!

— Не будзьце наіўным, пан Агінскі. Неўзабаве ўвесь ваш тэатр разам з маёнткам і зямлёю пяройдзе да Ваўкавыцкага. Ён знішчыць вас, калі вы не падорыце яму Тэклю.

Пасля доўгага маўчання Міхал Казімеж запытаўся: — Хіба гэта выратуе мяне? Мне прыйдзецца і надалей пазычаць грошы.

— Я падумаў і пра гэта. Трэба прадаць тэатр. І не спрачайцеся. За вашых артыстаў абяцаюць добра заплаціць. Іх купяць паны Радзівілы. Выручаных грошай хопіць, каб распачаць адну вельмі выгадную справу, якая праз два гады верне вам былое багацце. Мы выпішам з Францыі дзесятак ангорскіх коз разам з вопытнымі жывёлаводамі. А з цягам часу вы зможаце вярнуцца і да свайго тэатра.

Сярод ночы, горка плачучы, Тэкля Верабейчык прарвалася ў спальню Міхала Казімежа. Следам за ёй убеглі слугі:

— Сюды нельга! Нельга! Пан адпачывае!

Дзяўчына кінулася да ног Агінскага:

— Паночку мой! Даражэнькі! Не аддавайце мяне Ваўкавыцкаму! Малю вашай літасці! Вы ж заўсёды былі добрым і справядлівым. Дык няўжо цяпер кінеце мяне ў абдымкі гэтага жорсткага чалавека, якога самі не паважаеце? Няўжо вы хочаце маёй смерці? Я ж не перажыву ганьбы!

У адказ Агінскі прашаптаў дрыготкім голасам:

— Прабач мяне, Тэкля...

Ён падняў дзяўчыну з каленяў і, абхапіўшы абедзвюма далонямі яе твар, сказаў:

— Такі ўжо лёс, і мы павінны падпарадкоўвацца яму. Твой жа лёс не такі ўжо і дрэнны. Ну не станеш ты спяваць — нічога ж не здарыцца. Дзякуй богу, што табе не давядзецца корпацца ў зямлі. Ты ж будзеш жыць у цяпле і раскошы...

І тут Тэкля заўважыла, што пан Агінскі хавае ад яе вочы. Яна вызвалілася з ягоных рук і ціха пайшла да дзвярэй.

— Тэкля! Куды? — дагнаў яе воклiч Міхала Казімежа.

Не спыняючыся, спявачка адказала:

— Я ўсё зразумела. Вы былі добрым гаспадаром, і цяпер я павінна вам аддзячыць за гэта. Заўтра ж выканаю вашу волю.

Праз два дні ў маёнтку пана Ваўкавыцкага адбыўся няшчасны выпадак. Падораная гаспадару Агінскім актрыса па неасцярожнасці перавярнула на сябе свяцільню. У адно імгненне на ёй успыхнула вопратка, і дзяўчына ператварылася ў жывую паходню. Выратаваць яе не змаглі.

Неўзабаве стала вядома, што па дарозе да сваіх новых гаспадароў збег артыст трупы Кандрат Верабейчык.

Усе гэтыя весткі так моцна падзейнічалі на Міхала Казімежа, што ён захварэў. І калі з Францыі прыбыла першая партыя ангорскіх коз, заказаных аканомам, ён адмовіўся нават глянуць на іх. Хутка козы былі прададзены суседняму пану, які шырока разгарнуў справу. З цягам часу гэтыя мясціны людзі пачалі называць Казлаградам, хаця новы пан даў свайму маёнтку больш гучнае імя — Альбярцін — у гонар любімага сына.

Невядома, як удалося Агінскаму выбрацца з даўгоў, але вядома, што да канца жыцця ён не мог пазбавіцца самоты, хоць некалькі разоў, каб развеяцца, ездзіў за мяжу. Дарэчы, у апошні свой прыезд у Італію ён наведаў Міланскі оперны тэатр «Ла Скала» і са здзіўленнем заўважыў, што адзін са спевакоў вельмі падобны на Кандрата Верабейчыка.

Але калі пасля спектакля Агінскі зайшоў за кулісы і, схапіўшы за рукаў спевака, запытаў: «Кандрат! Адкуль ты тут?», у адказ пачулася:

— «Вас іс дас?»,— і халодны злосны пагляд прыкаваў да месца пана-мецэната...

Ірына **МАСЛЯНІЦЫНА.**



**А. МАРАЧКІН.**
«Чароўны голас». З цыкла «Народныя паданні».

# «ГІСТОРЫЯ ЗАЙМАЕЦЦА ТЫМ, ШТО БЫЛО, МАСТАЦТВА — ТЫМ, ШТО МАГЛО БЫЦЬ...»



Начная дарога ў Крэва.



Перакрыжаванне.

I

Паэзія існуе ў часе, жывапіс — у прасторы. Абое — і паэзія і жывапіс — падуладны магіі і не маюць часам іншага апірышча, як суб'ектыўнасць творцы. Вялікія старыя эпохі — Готыка і Барока, Рэнесанс і Мадэрн — сёння не больш як фрагменты, візуальныя цытаты з мінулага.

Стыхія сучаснага мастацтва — індывідуальны праект.

Праект Міхала Анемпадзістава — перад вамі.

Усялякія тлумачэнні залішнія, калі глядзіш на гэтыя каляровыя пратуберанцы, гострыя лісты, малады месяц, калі прастора карціны ўзрываецца музыкай альбо заціхае ў маўчанні. Вытлумачыць — значыць перакласці ў словы, але як можна перакласці Лад, калі ўсё займае сваё, менавіта СВАЁ месца!

Што ж застаецца крытыцы, якая свядома адмаўляецца разглядаць і ацэньваць прастору ўнутры карціны! Адказ для мяне відавочны: традыцыя і кантэкст.

Традыцыя: Усходняя Еўропа, руіны годнай старой цывілізацыі.

Кантэкст: Еўрапейскі калідор, забраны край, дзе за апошнія два стагоддзі было зруйнавана або вывезена і падзелена паміж суседзямі ўсё, што ўяўляе якую-небудзь мастацкую каштоўнасць.

Менавіта тут знаходзіць сябе сучаснае беларускае мастацтва. Ягоны лёс — не столькі працяг таго, што было і адбылося, як змяненне, засваенне варожай і фальшывай таталітарнай прасторы. Толькі ў гэтым лёсе знаходзяцца і супадаюць у адной традыцыі такія розныя мастакі, як Савіч і Савіцкі, Басалыга і Селяшчук, Марачкін і Кашкурэвіч. У гэтай традыцыі знаходзіць сябе і Міхал Анемпадзістаў.

Мы сядзім у Міхалавай майстэрні — у невялічкім кутку кухні, п'ём каву. Я задаю пытанні.

II

— Міхал, ты бярэш пэндзлі, фарбы, пачынаеш маляваць. Што значыць для цябе гэтая дзея? Ці ўсведамляеш ты яе як акт мастацтва?

— Для мяне гэта найперш праца. Я знаходжу час, рыхтую матэрыял, пачынаю працаваць. Узнікае пэўны стан. Магчыма, гэта тое, што Картасар назваў «прарывам» — дзіўнае выпадзенне з часу і прасторы, стан медыума, падпарадкаванне сябе вышэйшым сілам. І ўжо не я малюю карціну, а карціна малюецца праз мяне.

— Атрымліваецца, што крытэрыі мастацтва знаходзяцца ў сферы містыкі?

— Так, і гэта трэба прымаць як факт, не робячы далёкіх высноў.

— Як жа існуе традыцыя, калі тое агульнае, што вызначае яе, для самога мастацтва другаснае, неістотнае?

— Традыцыя — гэта ўмоўнасць. Яна ўзнікае, калі культура «засвойвае» мастацтва, уводзіць яго ў нацыянальны ці канфесіянальны міф. Мастацтва пачынаюць «вывучаць», ім пачынаюць «ганарыцца», яго пачынаюць рабіць аргументам. Але адначасова адбываецца і адваротны працэс — мастацтва стварае агульнакультурны кантэкст, фарміруе асяроддзе, уплывае на духоўныя каштоўнасці і развіццё самой культуры.

— Як ты ставішся да спроб падзяліць мастацтва на Беларусі на «беларускае» і «небеларускае»?

— Такі падзел рэальна існуе. Толькі ён не ўкладваецца ў схему 1+1. Усё значна складаней. На Беларусі як у мастацтве, так і на побытавым узроўні існуе некалькі этнакультурных традыцый. Існуе, нарэшце, традыцыя савецкая і, хочам мы таго ці не, гэты вірус у нас у крыві.

Беларускім будзе тое мастацтва, якое засвоіць наша культура, а пра стан нашай культуры мы ўсе ведаем. Сёння ж такую мяжу правесці немагчыма, бо спачатку трэба ведаць, што ёсць Беларусь.

— А што такое Беларусь?

— На жаль (ці на шчасце?), агульнабеларускага міфа сёння не існуе.

Сярэдні «русіфікаваны» беларус пры назве сваёй Бацькаўшчыны згадвае ў лепшым выпадку «Песняроў», падручнік «Родная літаратура» для восьмага класа і лапці з краязнаўчага музея.

Ёсць Беларусь «нашаніўская», ёсць БНРаўская, Беларусь Ластоўскага, Купалы, Ларысы Геніюш.

Ёсць Беларусь Ігната Канчэўскага. Ёсць Беларусь Уладзіміра Караткевіча...

— А твая?

— Мая недзе там... На ядлаўцовых пустэчах Валожыншчыны.

— І апошняе пытанне. Што ты можаш сказаць пра сваё пакаленне?

— Маё пакаленне яшчэ толькі ўваходзіць у мастацтва, у культуру. Гэта пакаленне 80-х. Але тады, на пачатку 80-х, за пяць гадоў да перабудовы зверху, пачаўся рух, які мог бы стаць лакальнай рэвалюцыяй знізу.

— Што ты маеш на ўвазе?

— Надзвычайную актывізацыю моладзі. Мы тады з зайздрасцю і болем глядзелі на Польшчу. Слухалі праграмы польскага радыё. У Мінску заснавалася Майстроўня, па ўсёй Беларусі ўзнікалі нефармальныя аб'яднанні. Заварушыліся хіпі і пацыфісты, па ўсім Саюзе пачаўся моцны рок-рух. Моладзь не хацела чакаць 1985-га.

III

Перайначваючы Арыстоцеля: гісторыя займаецца тым, што было, мастацтва — тым, што магло б быць.

Што магло б быць на гэтых начных тэрыторыях, у цяні месій, за небакраем Еўропы!!

Беларусь!

Ігар БАБКОЎ.

# СПАДЧЫНА І ЛІТАРАТУРА



*Слынны продак! Магілы твае без аздобы,*
*Там ніхто не паставіў слупоў мармуровых,*
*Там бярозы рассыпалі цені жалобы*
*Па каменні імшыстым ды крыжах хваёвых.*

*Слынны продак! Бязлітаснай праўды анёла*
*Бог пашле, каб твае абудзіліся дзеці;*
*І натхніцца тваёй дабрачыннасцю моладзь,*
*І вякі залатыя над намі засвецяць...*

*Ян БАРШЧЭЎСКІ.*

**Рэдакцыя часопіса выносіць на прысуд чытачоў новую рубрыку: «Кантэкст». Мэта рубрыкі — знаёміць нашых чытачоў з найбольш цікавымі часопіснымі публікацыямі і кніжнымі выданнямі.**
**Але «Кантэкст» — гэта не кнігапіс, з яго статычнай рэкламна-бібліяграфічнай прэзентацыяй сотняў кніг, і не традыцыйны літаратурны агляд, з яго прэтэнзіяй на шырокую панарамнасць і аналітычную грунтоўнасць.**
**Звяртаючы ўвагу чытачоў на пэўныя публікацыі і кнігі, вядучы рубрыкі мяркуе разглядаць не столькі самі літаратурныя творы, колькі гісторыка-літаратурныя кантэксты, у якіх узніклі і да якіх «прыпісаны» гэтыя творы.**
**Няведанне канкрэтнае літаратурнае сітуацыі, адсутнасць неабходнае сістэмы каардынат, адарванасць ад шырокага мастацкага кантэксту — вось тыя перашкоды, якія нават пры добрым гусце не дазваляюць сучаснаму, заклапочанаму шматлікімі жыццёвымі праблемамі чытачу адчуць дастатковую эстэтычную асалоду ад самастойнага прачытання літаратурнага твора.**
**Спадзяёмся, рубрыка «Кантэкст» дапаможа чытачам часопіса арыентавацца ў сучаснай беларускай літаратуры.**

Беларуская літаратура ўзбагачаецца зараз двума шляхамі: за кошт напісанага сёння і за кошт сёння рэабілітаванага. Першы шлях — больш перспектыўны, бо скіраваны ў будучыню і таму бясконцы. Другі — больш плённы, бо вядзе ў мінуўшчыну і таму мае сваё завяршэнне.

Беларуская літаратура жыве сучаснасцю, але жывіцца здабыткамі мінулага. З'яўляюцца — пачаткоўцы, вяртаюцца — класікі. Новае імя выклікае цікавасць, уваскрэслае — павагу. На небасхіле літаратуры 80-х гг. з'явілася нямала новых зорачак, але хіба можна параўнаць іх мігатлівы бляск з магутным ззяннем вернутых з нябыту зорак першай велічыні: Алесем Гаруном, Казімірам Сваяком, Андрэем Мрыем і інш.? Вяртаюцца не проста імёны, не проста творы, вяртаюцца перарваныя традыцыі, забытыя арыенціры. Ларыса Геніюш не толькі самая папулярная сёння беларуская паэтка, але і самая творчаўплывовая.

Публікацыя забароненых раней твораў пісьменнікаў першай трэці XX ст.— важная, але не адзіная праява рэабілітацыі нашай літаратурнай спадчыны. Пераклад на сучасную беларускую мову лацінскіх і польскіх твораў пісьменнікаў XVI—XIX стст.— таксама ў нейкім сэнсе рэабілітацыя, толькі не палітычная, а моўная.

Пачалася гэтая «моўная рэабілітацыя» значна раней за палітычную: яшчэ ў 70-х гг. у выніку перагляду літаратуразнаўствам многіх састарэлых канцэпцый і ацэнак у вывучэнні беларускай літаратуры, у выніку частковага пераадолення вульгарна-сацыялагічнага падыходу да з'яў культуры і мастацтва. Старажытнабеларуская літаратура перастала ўрэшце атаясамлівацца выключна з творчасцю на старабеларускай мове праваслаўных па веравызнанні аўтараў, паступова пачала прыцягваць да сябе ўвагу даследчыкаў шматмоўная літаратура Беларусі XVI—XIX стст. Адначасова з многіх твораў, створаных у асяроддзі беларускай шляхты і арыстакратыі, былі зняты аднабаковыя негатыўныя ацэнкі, дадзеныя вульгарна-сацыялагічнай навукай 30—50-х гг.

Пашырэнню даляглядаў беларускага літаратуразнаўства садзейнічалі працы вядомага рускага вучонага І. М. Галянішчава-Кутузава, які неаднаразова звяртаў увагу на метадалагічныя памылкі рускай і польскай літаратуразнаўчых школ у падыходзе да гісторыі і культуры Рэчы Паспалітай.

Значнай падзеяй стала вяртанне беларускаму народу творчасці выдатных навалацінскіх паэтаў эпохі Адраджэння Яна Вісліцкага і М. Гусоўскага. Пераклады Я. І. Парэцкага і Я. І. Семяжона, артыкулы і даследаванні У. А. Калесніка, В. І. Дарашкевіча, Я. І. Парэцкага паклалі пачатак усебаковаму вывучэнню спадчыны першых паэтаў у гісторыі беларускай літаратуры.

Вялікі кантынгент твораў на лацінскай і польскай мовах беларускіх аўтараў XVIII—XIX стст. быў уведзены ў кантэкст гісторыі беларускай літаратуры ў выніку даследаванняў А. І. Мальдзіса, тым самым была даказана перспектыўнасць вывучэння полілінгвістычнай літаратуры Беларусі і ранейшага перыяду.

Аднак увесці лацінамоўны ці польскамоўны твор у кантэкст гісторыі беларускай літаратуры — не значыць вярнуць (увесці) яго ў беларускую літаратуру. Зрабіць першае — задача даследчыка, здзейсніць другое — прызначэнне перакладчыка. Даследчыку дастаткова назваць аўтара, прасачыць яго жыццёвую і творчую біяграфію, падкрэсліўшы яе непарыўную сувязь з Беларуссю, ды збольшага прааналізаваць творы — і мэта дасягнута, імя пісьменніка будзе фігураваць ва універсітэцкіх падручніках і акадэмічных даведніках. Але колькі ні пішы, напрыклад, аб прыналежнасці да беларускай літаратуры польскамоўнай паэмы Андрэя Рымшы «Дзесяцігадовая аповесць ваенных спраў князя Крыштафа Радзівіла», колькі не даследуй яе мастацкія і гістарычныя вартасці, а пакуль не з'явіцца пераклад паэмы на сучасную беларускую мову — набыткам беларускай літаратуры гэты твор не стане і не акажа ніякага ўплыву на сучасную эпічную паэзію і гістарычную прозу.

У падобным недарэчным становішчы знаходзілася да нядаўняга часу і кніга выдатнага пісьменніка першай паловы XIX ст. Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». Лёс гэтай кнігі такі ж містычны, як і яе змест. Напісаная па-польску беларусам, для беларусаў і пра Беларусь, па нейкіх фатальных прычынах не перакладзеная на родную мову аўтара, кніга Я. Баршчэўскага ўвесь час нябачна прысутнічала ў беларускай літаратуры, як легенда, як прывідны фантом. Прыцягвала яна да сябе дзеячаў нацыянальнага адраджэння пачатку XX ст. і пісьменнікаў 20-х гг.; Максім Гарэцкі браўся за яе пераклад, але абмежаваўся пасля толькі адным апавяданнем. Была яна адной з самых любімых кніг Уладзіміра Караткевіча, а праз яго фантазію — і Алеся Загорскага з рамана «Каласы пад сярпом тваім»; Караткевіча таксама спакушала задума перакласці «Шляхціца Завальню..», што, аднак, было цалкам нерэальна для чалавека, які яшчэ ў маладосці склаў план свайго ўласнага ледзь не стотомнага Збору твораў. Янка Брыль неяк трапна заўважыў, што толькі сапраўдныя беларусы маглі да гэтага часу не перакласці з польскай мовы Я. Баршчэўскага, і... пераклаў з польскай мовы Б. Пруса і М. Канапніцкую (а можа, спачатку — пераклаў, а пасля — заўважыў). Меў намер перакласці «Шляхціца Завальню...» Уладзімір Мархель. Адно апавяданне пераклаў і змясціў у хрэстаматыі «Беларуская літаратура XIX стагоддзя» Вячаслаў Рагойша. Пры ўсім тым імя аўтара нефартуннай кнігі і яе назва спраўна фігуравалі ва універсітэцкіх падручніках і акадэмічных даведніках, а выкладчыкі (у тым ліку, прызнаюся, і я) патрабавалі ад студэнтаў-філолагаў ведання творчасці Я. Баршчэўскага.

Не думаю, што лёс «Шляхціца Завальні...» можна вытлумачыць выключна несвядомасцю і нядбаласцю беларусаў, хаця вышэйзгаданы дакор Я. Брыля трэба прызнаць за справядлівы. Здаецца, аднак, вытокі падобнага лёсу кнігі Я. Баршчэўскага тояцца ў самім яе містычным змесце, у нейкіх метафізічных, ірацыянальных прычынах па-за чалавечай свядомасцю і , несвядомасцю. Таму найбольш здзіўляе «шчаслівы фінал» гісторыі вяртання-ўвядзення гэтага шэдэўра ў скарбонку беларускай літаратуры: на пачатку 1991 года, пазначаная 1990 годам (зноў містыфікацыя?) кніга Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Уклаў, пераклаў з польскай мовы і пракаменціраваў кнігу Мікола Хаустовіч (вершаваныя творы — С. Сокалаў-Воюш), адрэдагаваў на грамадскіх асновах Анатоль Сідарэвіч, афіцыйным рэдактарам быў Уладзімір Арлоў (літаратары, за выключэннем перакладчыка-дэбютанта, беларускаму чытачу добра вядомыя). Выдатныя малюнкі да кнігі зрабіў Валерый Славук. Цяжка пераацаніць зробленае перакладчыкам і яго паплечнікамі, і ўсё ж той неверагодны факт, што «Шляхціц Завальня...» нарэшце прыйшоў да нацыянальнага чытача, вытлумачваць суб'ектыўнымі намаганнямі асобных людзей было б занадта спрошчана. Далібог, без містыкі тут не абышлося, і таму асабліва ўражваюць і насцярожваюць апакаліпсічныя матывы кнігі, якія на зыходзе другога тысячагоддзя эры Хрыста гучаць асабліва актуальна.

Герой апавядання «Жабер-трава» Адольф выкрадае ў духа Фарона чароўную жабер-траву, прыкладае яе да скроні і бачыць будучыню свайго краю: «Там, на пагорку, сярод бярэзін стаяў мураваны касцёлік,— а цяпер ад дрэў тых толькі пянькі тырчаць з зямлі, касцёл у руінах, без дзвярэй і даху. Дзе была вёска — цяпер пустка, дзве старыя грушы толькі засталіся, якія нядаўна бачыў у садзе. Тут жа, ля яго, некалі буйнае каласавала жыта — цяпер тая ніва дзікаю пакрыта травою, быццам колькі гадоў не бачыла ратая».

Герой апавядання «Дзіўны кій» Алешка трапляе ў княства Вялікага Чарнакніжніка: «І вось бачыць Алешка перад сабою смутную краіну, дзе знямела ўся прырода; ані звера, ані чалавека. На пагорках узвышаліся руіны старых замкаў, а ў далінах відаць былі нейкія скамянелыя постаці, падобныя да жабракоў у сумным одуме, дзе-нідзе ў тумане стаяць на грудах ніцыя бярозы, а над зацвілаю вадою — самотныя вербы. У некаторых мяс-

цінах былі чорныя лясы, але ніводная птушка не абзывалася ў тых лясах, толькі крумкачы лёталі паўсюль».

І нарэшце сам аўтар у «Думках самотніка» папярэджвае: «О, людзі вялікага свету! Гляньце на неба з вашых высокіх і пышных гмахаў! Над горадам вісяць густыя воблакі, а з іх нараджаюцца ўгары дзіўныя прывіды, у паветры будуе нехта велізарны замак, валы і сцены акружаюць яго, вырастаюць высокія гмахі і вежы, непадалёк становяцца ў баявы парадак на конях волаты-рыцары, а праз колькі хвілін відаць толькі руіны, а ўсё войска перамянілася ў клубы дыму; як вужака, прабегла вогненная маланка пасярод хмары.

О, людзі вялікага свету! Гляньце на неба з вашых высокіх і пышных гмахаў, зразумейце гэтыя знакі ў пэўных абрысах аблокаў, якія заўсёды перад вашымі вачыма; Божая рука папярэджвае вас, што няма нічога сталага на зямлі, гмахі вашы ператворацца ў руіны, моц, багацці, гонар і слава рассеюцца і зікнуць, як лёгкі дым у паветры».

Кнігу Яна Баршчэўскага параўноўваюць з казкамі «Тысячы і адной ночы», аповесцямі нямецкага рамантыка Э. Т. А. Гофмана, раннімі творамі М. Гогаля. Спіс аналогій можна было б падоўжыць, прыгадаўшы, напрыклад, «Фламандскія легенды» Ш. дэ Кастэра, «Рукапіс, знойдзены ў Сарагосе» Я. Патоцкага і іншыя шэдэўры фантастычнай, «таямнічай» прозы. Пералік гэты не толькі характарызуе ўскосным чынам эстэтыку «Шляхціца Завальні...», асаблівасці яго кампазіцыі і стылю, але і ставіць пытанне аб сусветным узроўні і сусветным значэнні кнігі беларуска-польскага рамантыка першай паловы XIX ст.

«Шляхціц Завальня...» — выдатны падарунак беларускаму чытачу, якога ні класічная літаратура, ні наша сучасная не радавалі асабліва з'яўленнем чытэльных, захапляльных казачна-фантастычных твораў. Надзвычай цікавая кніга Я. Баршчэўскага і для даследчыкаў літаратуры, што пацвярджаюць змешчаныя ў выданні «Мастацкай літаратуры» артыкулы сучасніхаў пісьменніка Рамуальда Падбярэскага і Юльяна Барташэвіча, а таксама артыкулпаслясловее перакладчыка Міколы Хаўстовіча.

Выданнем «Шляхціца Завальні...» Я. Баршчэўскага і «Года беларуса» Старога Уласа «Мастацкая літаратура» распачала новую серыю «Спадчына». На працягу года павінны з'явіцца кнігі В. Каратынскага, М. Гарэцкага, К. Лейкі, М. Арла, І. Замоціна, Л. Гмырыка, А. Мрыя, Л. Калюгі, а таксама тры першыя кнігі з не менш цікавай серыі «Літаратурныя помнікі Беларусі»: «Жыціі. Хаджэнні», «Летапісы. Хронікі» і мемуары С. Пільштовіча «Авантуры майго жыцця».

Такім чынам, наша размова аб спадчыне і літаратуры будзе працягнута.

Сяргей **КАВАЛЕЎ**.

СУБ'ЕКТЫЎНЫЯ РАЗВАГІ

# Зніта



## НАЗІРАННІ ЗА ПАЭЗІЯЙ «ЧЫСТАЙ КРАСЫ» Ў БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ XX СТАГОДДЗЯ

«КАЛІ ГАМОНЯЦЬ гарматы — музы маўчаць» — даўно прыкмецілі нашыя суседзі па кантыненту, французы. Праўдападобна, што ў паэтаў у неспакойныя часы і сапраўды трохі перацінае дых. Але, мабыць, і грамадства не жадае асабліва прыслухоўвацца да паэзіі ў «судзьбаносны» момант свае гісторыі, калі гэтая паэзія не выбівае барабанны пошчак, пад які так ёмка яднаць шыхты.

Ідэалагічная вайна на Беларусі палымнее ўжо не першы год. Рука, якая чэпка ляжала на глотцы іншадумства, аслабла, і рэдкія раней «дыверсійныя акты» ў нашай паэзіі, накшталт замаскіраванага У. Караткевічам бел-чырвона-белага сцяга ў радках: «У крыві краіны нашай бель», ці то конніка-Пагоні, якая ў Алега Мінкіна ляціць па вулках сучаснага Полацка, змяніліся на шырокую, незацугляную і, аднак, моцна спалітызаваную плынь. Зноўку ўзляцеў увышкі прыхаваны на паўстагоддзя бел-чырвона-белы сцяг, зноўку загрукатаў пошчак крыўскай Пагоні, і зоры на небе над Беларуссю спакваля скляліся ў шасцікантовы Ярылаў Крыж.

І мы пакуль ніяк не можам нацешыцца гэткімі праявамі сапраўднае волі. Зніто́ўваюцца абарваныя ніці, злятае фальшывая луска, публіцыстычная паэзія набывае адметнае, вольнае і адначасна запраграміраванае ходам развіцця нашае нацыі аблічча.

Зусім заканамерна, што ў гэты час непасрэднага ўздзеяння прыгожага пісьменства на грамадскія працэсы праяўляецца цікавасць да мастацка-эстэтычнага пачатку ў беларускай паэзіі, цікавасць да так званае паэзіі «чыстае красы» (гл. анкету «ЛіМа» за 28 ліпеня 1989 года). Антон Луцкевіч, прафесійны палітык і крытык у адной асобе, у свой час тлумачыў гэта тым, што «пасьля бур, пасьля вострых перажываньняў душа шукае супакою, адпачынку. Думка кіруецца ў тыя сфэры, дзе пануе чыстая краса і гармонія». У згаданай намі лімаўскай анкеце гучала два пытанні: «Як Вы думаеце, ці ёсць у нас паэзія «чыстай красы»? Ваша стаўленне да яе?» Адказы на гэтыя бяскрыўдныя пытанні дазваляюць вызначыць некаторыя рысы, характэрныя для сягоняшняй беларускай паэзіі як З'ЯВЫ.

Паэтка Ніна Мацяш адказвае даволі песімістычна: «Магчыма, я кепска ведаю сучасную беларускую паэзію, але, мне здаецца, паэзіі «чыстай красы» ў нас няма». Святлана Яўсеева, руская паэтка, бачыць у «чыстай красе» запраграміраванасць і як вынік — гатоўнасць да дзеяння, калі не саму барацьбу. А. Пісьмянкоў выказаўся супраць схематызацыі творчасці пісьменнікаў (у прыватнасці М. Багдановіча) і гэтым самым, трэба меркаваць, не ўхваліў гэткі «вузкі» тэрмін, як «чыстая краса». В. Тарас, папярэдне даўшы сваё разуменне «чыстае красы» як — «багацця мовы, гукапісу, смелай, свежай, нечаканай метафары, вынаходлівай рыфмы, раскаванасці інтанацыі», залічыў да яе «Блакаду» Р. Барадуліна, «Прыстасаванцаў» П. Панчанкі ды «На Куццю» Янкі Купалы.

Нічога новага не даў і працяг анкетавання ў наступным нумары «ЛіМа» за 5 жніўня таго ж года. Вось такая разбежка — ад непрыняцця самога тэрміну і скептычных адносін да яго рэальнай напоўненасці — да атаясамлівання яго з нечым усё ж такі інішым.

Галоўны ідэолаг тэорыі «чыстае красы» ў беларускім творстве Антон Луцкевіч толькі намеціў яе агульныя рысы, адзначыўшы суб'ектыўнасць, выбарковасць яе ўспрымання: «Праўдзівая краса праманўляе да душы і сэрца кожнага, хто здолен яе адчуваць». А хто не здольны? Ды і ці ўва ўсіх аднолькавыя ўяўленні пра красу? І тым не менш яна, «чыстая краса», існуе, інакш не было б і мастацтва.

Разглядаючы генезіс класічнага разумення красы ў артыкуле «Праблемы красы й мастацтва ў творах Максіма Багдановіча», Антон Луцкевіч вызначае духоўную сутнасць яе: «**Краса** па-за эстэтычнай эмоцыяй, якая павышае ў нас жыцьцёвы тонус, не дае ніякае іншае карысьці», а таксама яе аўтаномнасць, самадастатковасць: «Маючы задачай быць «спажыткам дзеля душы», даваць **эстэтычную эмоцыю** і гэтым выклікаць у нас **рост душы,— краса ня можа служыць іншым багом**».

Крытык вызначае таксама суадносіны паміж зместам і формаю мастацкай творчасці, зауважаючы: «І мастацтва, якое — маючы перад сабою тыя ці іншыя грамадзкія мэты,— забылася бы хоць на адзін мамэнт аб тым, што істотай яго зьяўляецца буджэнне **эстэтычнае эмоцыі**, такое мастацтва ўтрацілаб адразу і ўвесь свой сэнс, і сваю чарадзейную сілу, што прымушае мацней біцца сэрцы людзкія, і сваю ўладу над душамі». Згодна А. Луцкевічу, «чыстая краса» валодае інтэрнацыянальнымі ўласцівасцямі. Менавіта на яе аснове складаецца сусветная культура. І таму, дзякуючы паэтам «чыстае красы», народы маюць магчымасць паразумецца духоўна, бо расцвітае «чыстая краса» на выключна нацыянальнай аснове. Акрамя прасторавага ўздзеяння, «чыстая краса» валодае і часавым уздзеяннем, сцвярджае крытык: «Пясняр Чыстае Красы ніколі ня можа быць забыты і будзе таксама праманўляць да душы і сэрца нашых унукаў, як праманўляе цяпер да нас».

В. Тарас у адказе на лімаўскую анкету слушна пералічыў асноўныя прыкметы паэзіі «чыстае красы», не назваўшы хіба толькі таго, што звязвае іх у адно — асаблівы лад мыслення паэтаў «чыстае красы», спецыфіку ўспрымання імі навакольнай рэчаіснасці, уменне ды і ўнутраная неабходнасць шукаць і бачыць прыгожае ва ўсіх праявах навакольнага свету.

**ЯК МЫ БАЧЫМ**, паміж сённяшнім ды «класічным» разуменнем «чыстае красы» існуюць істотныя разыходжанні. Яны заключаюцца, як мне здаецца, у першую чаргу ў недаацэнцы эстэтызму сучасными паэтамі. Ды і наўрад ці пасля стольків гадоў змагання ўсяе грамады з «гнілым эстэтствам», з «ізмамі», пасля магутнай плыні паэзіі «сацыялістычнага рэалізму», у якой, хочаш не хочаш, давялося з галавою намачыцца ўсім, наўрад ці можна чакаць нечага выключна іншага. Усе мы дзеці свае эпохі. Але, але... розныя дзеці. І хто — ішоў у нагу з часам, а хто шукаў нечага свайго, і ў «чыстай красе» таксама. Бо былі ўсё ж магутныя традыцыі, была чароўнасць слова, якая, бы матылькоў на святло, няспынна прыцягвала сваіх абраннікаў.

Я не прэтэндую на акадэмічную выверанасць сваіх ацэнак. Вельмі верагодна, што чытачу бачацца іншыя асобы з нашае літаратуры, што складаюць ланцужок паэтаў «чыстае красы». Я не збіраюся скрупулёзна пералічваць усіх і ўсё, што магло б, а часам і павінна было б легчы ў зададзеную канву. Мая задача — пlivназіраць за гэтым адвольным ланцужком і давесці яго да нашых дзён.

У вышэйцытаванай анкеце «ЛіМа» А. Пісьмянкоў слушна гаворыць пра, як звычайна, шырокі паэтычны дыяпазон творцы. Але зноў жа, звычайна рэдка калі гэтая паэтычнасць захоўвае аднолькавую вышыню. Застаецца нейкая тэма, накірунак, а часам нізка вершаў ці адзін верш (так, для сябе зусім нядаўна адкрыў я паэтку Ніну Тарас з яе цудоўным вершам «Сонца за хмаркамі»).

Максім Багдановіч пісаў публіцыстычныя і сацыяльныя вершы, сярод якіх такія магутныя як «Пагоня», што стала сапраўдным гімнам сучаснага нацыянальнага адраджэння, але ён для нас у першую чаргу «паэта чыстае красы», бо як слушна заўважыў А. Луцкевіч, «**чыстай красе**, нікому і нічому не пакараючайся, з поўнай свядомасьцяй служыў Максім Багдановіч». Апроч усяго і публіцыстычныя вершаваныя практыкаванні паэтаў «чыстае красы» грунтуюцца на абавязковым эстэтычным падмурку і можа таму прыміраюць, звычайна, і чытачоў — прыхільнікаў «чыстае красы» і прыхільнікаў вершаванае публіцыстыкі.

Вяршыняй эстэтызму Максіма Багдановіча, сутнасцю яго як творцы я ўсё ж такі лічу вершы «На могілках», «Непагодай маёвай», «Зімой», і прыгажосць іхнюю і дасканаласць не перадаць ніякімі перакладамі. Мабыць і гэтыя наднацыянальныя паняцці валодаюць у вялікай ступені нацыянальнымі ўласцівасцямі.

У 20-я гады пагляд мой спыняецца на некалькіх прызабытых імёнах і найперш — пражскага песняра Уладзіміра Жылкі ды заходнебеларускай паэткі Наталлі Арсенневай. Яны падхапілі ліру Максіма Багдановіча, адкрыта прызнаючыся ў гэтым, ды надалей працягнулі

# ванасць

ягоныя традыцыі ў нашай паэзіі, сцвярджаючы ідэю «чыстае красы».

У. Жылка актыўна выкарыстоўвае класічныя формы верша — санет, ле, пентаметр, гекзаметр ды іншыя, імкнучыся спалучыць нацыянальныя матывы з філасофскім асэнсаваннем рэчаіснасці, ён ставіць усе гэтыя часткі творчага пошуку на службу галоўнаму свайму Богу — хараству. Зачараваны паэт спрабуе адкрыць загадку дасканаласці і хараства, захапляе міжволі і нас:

**Няясны і трывожны сны людства́,**
**І блудны цёмныя яго дарогі,**
**Але па-над будзённых трывогі**
**Узносіць нас туга да хараства.**

**Так дробная, вясковая дзятва**
**З-пад курных стрэх**
**(прытулак іх убогі)**
**Да рэчкі бег кіруе на разлогі,**
**Дзе яснасць вод і золата**
**жарства...**

Філасофска-эстэтычны напрамак у паэзіі «чыстае красы», закладзены Максімам Багдановічам і бліскуча працягнуты Уладзімірам Жылкам, на жаль, не атрымаў далейшага развіцця ў беларускай паэзіі. Невысокі ўзровень адукацыі, філасофская «зашоранасць» грамадства адбіваецца міжволі й на паэтах. Выключэнне, бадай што — Алесь Разанаў. Ды ў яго, відочна, рацыя бярэ верх над эмоцыяй.

Вялікай стратаю для паэзіі «чыстае красы» трэба лічыць раннюю смерць ад сухотаў Ігната Канчэўскага (памёр у 1923 годзе). Ягоныя філасофскія доследы (выдаў у 1921 годзе кніжку «Адвечным шляхам») спалучаліся з плённымі вершаванымі спробамі. Часам яшчэ недашліфаваныя радкі яго дыхаюць неперадавальным хараством:

**Так прыгожы старажытныя**
**званіцы,**
**Блізкі сэрцу — крыжы**
**на растаях**
**у тыя белыя бяз сонейка раніцы,**
**Калі ціха дзень засмучаны**
**ўпаўзае...**
**А ў сэрца — радасць**
**плыве нечакана.**
**Шыбкі вецер, сам адзін, цалуе**
**Божы раны...**

**УСПЫХНУЎ ТАДЫ** ж і хутка прытух, рэалізаваны ў іншай дзейнасці, непаўторны талент Алеся Смаленца, гэтага па-высакароднаму стрыманага жаўнера ды адначасна «пяўца вайны», які найперш бачыць у ёй гора, але ўсё там шукае праявы «чыстае красы»:

**Ужо празвінела трубкі рытурнэль,**
**Вушмі пранyўшы задрыжэлі коні.**
**На штандару чырвоным знак**
**Пагоні**
**Яскрава свеціць...**
**Трэснула шрапнэль.**
**Праменя слонца заліваюць блоні.**
**Перад вачмі як быццам акварэль.**
**Мацней сціскаеш шаблю ў далоні**
**І чуеш, як ляціць яшчэ шрапнэль.**

Наталля Арсеньева — надзвычай тонкая лірычная паэтка, якая свой талент засяродзіла на дасканалай перадачы ледзь улоўных змен у прыродзе, у чалавечым настроі, у іх суадносінах і ўзаемадачыненнях. Лад яе жыцця, а пражыла Н. Арсеньева на Беларусі літаральна некалькі гадоў, аддаленасць доўгі час ад актыўнага нацыянальнага асяроддзя, натуральна скіроўвалі музу яе на асвятленне суб'ектыўнага стану душы, развіцця экзістэнцыяльнага пачатку ў яе паэзіі:

**Сплёў вечар вянок прамяністы**
**з шыпшыны і макаў чырвоных,**
**у небе завесіў прачыстым,**
**на ясных нябёсных загонах...**
**А сонцу вянок спадабаўся,**
**у чырвані сонцу да твару...**
**Так — захад у хварбы прыбраўся,**
**так вечар заняўся пажарам.**
**Усё, што такім было знаным,**
**адразу зрабілася дзівам:**
**настольнікам, золатам тканым,**
**паслаліся жытнія нівы,**
**агнём загарэліся стрэхі,**
**сады і вяршыліны бору,**
**і густа праз хмараў узрэхі**
**сыпнулі, як зерняты, зоры.**
**Бярозаў зялёныя рукі**
**застыглі, бы ў часе малітвы,**
**прачнуліся начныя гукі,**
**нячутыя ў дзень працавіты,**
**затросся лазняк з пераляку,**
**пачуўшы крок чорнае ночы...**
**І росамі вецер заплакаў,**
**у змроку хаваючы вочы...**

Разбіць створаны паэткаю свет надзвычайнага хараства здолелі толькі падзеі другой сусветнай вайны. Грамадзянскаю паэтычнаю творчасцю Наталля Арсеньева, безумоўна, дапоўніла сябе, але наўрад ці пераўзышла.

40-я — 50-я гады тут, у Савецкай Беларусі, «чыстай красе» ў паэзіі не далі бадай нічога. Пасля дзвюх жудасных навалаў, што праcаціліся па Беларусі, у тых, каму пашчасціла выжыць, ужо мабыць аўтаматычна рыфмавалася што-небудзь накшталт: «Камуністы, гэта слова бы са сталі...». Але не нам іх судзіць. Вольнымі ад ідэалагічных абцугоў сталінскага сацыялістычнага рэалізму аказалася ўсяго толькі жменька беларускіх паэтаў-эмігрантаў. Не будзем зараз абмяркоўваць тыя жыццёвыя шляхі, па якіх яны прайшліся перад эміграцыяй. Адзначым толькі, што амаль ва ўсіх там значылася Калыма... Нягледзячы на нешматлікасць, беларуская эміграцыя, аднак, запоўніла няўтульную пустку на гэты час у нашай паэзіі «чыстае красы».

Найперш гэта вышэйўспамянёная Наталля Арсеньева, затым маладзейшыя таленавітыя: Алесь Салавей, Міхась Кавыль, Янка Юхнавец. Ёсць пэўная заканамернасць у тым, што да паэзіі «чыстае красы» ў нас звяртаюцца людзі, адарваныя ад Радзімы.

Найбольш бліскучымі, з пункту погляду вышкталцонасці, дасканаласці формы, на маю думку, з'яўляюцца вершы А. Салаўя, які пры спрыяльных умовах мог бы зрабіць значна больш, чым паспеў:

**Малым дзічком ты быў**
**у маладосці**
**і жыў між дрэў, між траў.**
**Плыла рака.**
**Зігцела высь. Бязмежжа**
**весялосці**
**гушкала свет на крылах**
**ветрака.**
**Ці-б не хацеў паўтору**
**тэй любосці!..**
**Старчма тырчыць шчаціннe**
**ў вепрука.**
**Ні сонца йшчэ, ні зоры йзноў,**
**ні знічы**
**Не вернуць больш нявіннай**
**ранняй дзічы.**

Аўстралія. 1952.

**САПРАЎДНАЙ ПАДЗЕЯЙ** у нашым летапісе гісторыі «чыстае красы» трэба лічыць зборнік Алега Мінкіна «Сурма» (1985 год). У рэцэнзіі на зборнік, зыходзячы, мабыць, з навучальных мэт, Анатоль Сідарэвіч добра-такі адхвастаў Алега Мінкіна, аднак «Сурма», безумоўна, паказала нам аўтара з выразнай яркай эстэтычнай канцэпцыяй, для якога «напачатку было Слова». А. Мінкін праз прызму эстэтызму бачыць такі недасканалы, але такі прывабліві для яго свет і прымушае нас зірнуць на «прывідную красу» праз чароўнае шкельца свайго таленту:

**Дык пойдзем, сябра мой**
**маўклівы,**
**У княства фарбы і журбы,**
**Дзе ў спрэчцы з гронкамі**
**каліны**
**Палаюць гронкі арабін.**
**Дзе на імшарыне-кіліме**
**Жаўрэюць кроплі журавін,**
**Бы слёзы тыя, што згубілі**
**Сягоння ноччу жураўлі.**

Алег Мінкін, на маю думку, распачаў новую хвалю паэзіі «чыстае красы» ў нашай літаратуры. Яго з'яўленне заканамернае. Крызіс афіцыйнае ідэалогіі ў грамадстве прымушаў не затлумленае траскучымі лозунгамі пакаленне шукаць уласныя шляхі. Традыцыі намацваліся не сярод жывых, пазначаных пячаткаю брэжнеўшчыны, папярэднікаў, а сярод пачынальнікаў, ахвярнікаў нашае літаратуры, ідэі адраджэння нацыі. Таму такая моцная сувязь у А. Мінкіна з Максімам Багдановічам (верш «Максіму Багдановічу», цыкл «Наследаванні народнаму» ды інш.).

Бадай што нікому з сучасных беларускіх паэтаў, як Алегу Мінкіну, не ўдаецца так згарманізаваць у вершах свае публіцыстычныя развагі. Гэтаму дапамагае ярка індывідуальны погляд паэта на з'явы рэчаіснасці, іх акрэслена эстэтычнае ўспрыманне. Спачатку ён адчувае «красу», бо такі лад ягонага светабачання.

Першай і пакуль што адзінай кніжкай вершаў у агульным зборніку «Крыло» (1985) прыкметна вылучаўся сярод іншых Уладзімір Сцяпан. Прываблівалі ягоныя да дробязяў дакладныя, вытрыманыя заўсёды ў спакойных тонах вершы-акварэлі. У гэтым «адсутным» стылі паэт працуе і ў апошні час:

**Зімовы сад — спляценні,**
**скрыжаванні.**
**Заблытанасць штрыхоў**
**і крэйды і вугля.**
**Крышталяў шэрані халоднае**
**мігценне**
**На чорным дроце нерухомага**
**галля.**
**Фантастыка аснежаных абрысаў**
**Стварыла сну дакладны краявід.**
**Дыханне комінаў празрыстай**
**рысай**
**Стаіць зімой умацаванае**
**ў блакіт...**

Але цяжка вызначыць пакуль — відочная запраграміраванасць ягоных вершаў,— ці яна будзе спрыяць развіццю рацыянальнага, я б сказаў, халаднаватага, асабістага шляху паэта, ці ўсё ж дазволіць яму ўнесці сваю спецыфіку ў настраёвую, непрадказальную, здаецца, і для аўтараў плынь «чыстае красы».

Іншая справа — Едрусь Акулін. У 1988 годзе ў калектыўным зборніку «Лагодны промень раніцы» выйшла ягоная кніжка «Лес дзённага асвятлення». Тады ж у маладосцеўскай кніжачцы «Тутэйшых» — «...І надзея, і лёс, і ўспамін» была выдрукавана вялікая падборка вершаў Е. Акуліна. Аб'яднаныя разам, яны даюць цэльнае ўяўленне аб аўтары, найбольшыя знаходкі якога бачацца мне якраз на шляхах паэзіі «чыстае красы». Едрусь арыентуецца пераважна на вобразнае ўспрыманне сваіх вершаў:

**Пунсовы ветразь плыў па лесе...**
**Нібы святло свячы ў сутонні.**
**Пунсовы ветразь — ліс на снезе,**
**агонь блукаючы на волі.**
**Плыві, прыгожы, покуль вецер**
**тваіх слядоў не пакідае,**
**і абмінуць здалей дасвецце,**
**дзе лёс-ганчак цябе чакае.**

Паэт свядома шукае хараство ў акаляючым яго жыцці. Рэчаіснасць у яго перавіваецца з уявою, і найлепш яму ўдаюцца карціны ўнутрана і знешне эстэтычна ўраўнаважаныя:

**Акрэсленасць цёмных ліній.**
**Завершанасць белых лілій.**
**Срэбнае зерне поўні**
**лебедзям не здзяўбаць...**
**У пяшчоце абвіўшы шыі,**
**яны спяць.**

**З МАЛАДЗЕЙШАГА ПАКАЛЕННЯ**, што аддаюць даніну «чыстай красе», вылучаецца яшчэ Анатоль Дзбіш — адточанасцю слова, сугучнасцю рыфмаў, зычнасцю і звонкасцю верша.

А вось імя Іны Тарасавай і зусім наўрад ці каму што скажа. Хіба што згадае хто-небудзь яе па семінары ў Каралішчавічах. Пазалетась пасля гомельскага філфака паехала яна настаўнічаць на Лоеўшчыну, пакінуўшы пасля сябе нізку прыгожых вершаў ва універсітэцкай газеце. І прыходзяць на памяць радкі:

**Яшчэ зялёныя лісты**
**Не растаптаны.**
**Нібы крывавыя бінты,**
**Ляжаць цюльпаны...**

Ці вось гэта:

**Гасла сонца. Чырванелі**
**Бляск вітрын і ЦУМ,**
**Парк, маўклівыя алеі,**
**Дзе спакой і сум.**

**Ззяў на небе цёмна-шэрым**
**Сіняй плямай Сож —**
**Гэта ў горадзе вячэрнім**
**Пачынаўся дождж.**

Ды незаўважныя яе вершы ў час гучнага трэску дзід. Як не надта чуцён у агульным публіцыстычным хоры і голас больш сталых паэтаў «чыстае красы». І часопіса ці альманаха свайго яны не маюць. А можа і не патрэбен ён ім. Часопіс гуртуе, пры натуральным развіцці літаратуры, як правіла, «школу». А ці ёсць у іх усведамленне аб'яднальнага пачатку — сваёй «школы»? Мо яна ўзнікне ў Бярэсці, бо там — Алег Мінкін і Анатоль Дзбіш? Пабачым. Але ж і раскіданыя па Беларусі, як і ім падобныя — па ўсім свеце,— пакланяюцца яны адзінаму Богу свайму — «чыстай красе», якая, па словах Антона Луцкевіча, «быццам тыя Багдановічавы васількі ў жыце, аздабляе і ўзбагачывае жыццё, незалежна ад таго, ці ёй выяўлены нейкія к а р ы с н ы я з сучаснага пункту гледжання думкі,— бо краса паводле справядлівага азначэння Максіма Багдановіча, сама ўжо ёсць «спажытак дзеля душы».

Алесь БЯЛЯЦКІ.

# ПАМЯЦЬ І БЯСПАМЯЦТВА

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ**

Дзень Перамогі, першы Дзень Міру...

Чым памятны гэты дзень, перад якім, пачаўшы свой адлік, шарэнгай выстройваюцца гады? Трыумфам салдат-пераможцаў ля звергнутага рэйхстага, прыбранымі ў кветкі эшалонамі, што рухаліся ў зваротны шлях ад Берліна, водбліскам салюту на твары воіна, які заснуў ля танка, чыстымі, белымі лілеямі, перададзенымі дзяўчынай у загрубелую ад аўтамата далонь,— і цішынёй, што аглушыла людзей, якія адвыклі ад яе за чатыры доўгія гады вайны.

Дзень Перамогі... Бадай, няма ў нас чалавека, для якога б гэтая гістарычная дата не была свяшчэннай. Бо кожнае пражытае за сорак шэсць гадоў імгненне народжана гэтым днём. Захоўваюцца ў сем'ях франтавыя лісты на тленнай паперы, асыпаюцца напісаныя алоўкам паспешлівыя радкі, але не сціраецца — памнажаецца, вырастае сэнс сказанага ў іх. Глядзяць на нас салдацкія вочы з фотакартак. Нават калі на глянцы, пажоўклым і ломкім, адлюстраваны невядомы салдат, міжволі цягне даведацца — ці жывы ён, які яго лёс, ці многага дасягнуў у жыцці пасля Перамогі? І не дзеля пустой цікаўнасці. Не. Гэтыя людзі жылі і ваявалі ў гераічным мінулым, якое стала для нас Гісторыяй.

Усё гэта жыве ў сэрцы. Але чаму, чаму ў кожнае новае свята мне ўсё больш трывожна, чаму шчыміць душа нейкім неасэнсаваным да канца неспакоем, нявыказанай, не зразумелай нават сабе жальбаю, нявыплаканай слязою? Адкуль адчуванне віны?

Давайце прыгледзімся да ветэранаў у будні, і адразу станучь заўважнымі няўпэўненасць, разгубленасць былых разведчыкаў, снайпераў, сапёраў... Думаю, не таму, што заканчваецца жыццё. Хіба ж старых салдат можа напалохаць старая з касою? Іх цяперашняя разгубленасць і боль ад нашых з вамі стрэлаў у спіны ім, ветэранам. Ад бяспамяцтва, зласлівасці і ваяўнічага невуцтва тых, хто папракае іх кавалкам каўбасы ў ветэранскіх пайках, ільготнымі чэргамі. Хто абвінавачвае іх у сённяшнім крызісе краіны. Ад маладых вандалаў, што малююць на сценах свастыкі і разбураюць магілы франтавікоў.

Усё растуць легіёны «праўдашукальнікаў». У тогу рэвізораў Вялікай Айчыннай апрануліся многія рэпарцёры газет і тэлебачання, выдаючы ў свет тона-кіламетры «кампрамату». Калі верыць ім, то і баявых узнагарод франтавікам было раздадзена замнога. І беларускіх партызан хвалявалі толькі сівуха ды чужыя кажухі. І нашы знакамітыя лётчыкі — зусім не паветраныя асы, калі гітлераўцы больш як па сто савецкіх самалётаў знішчалі...

Нас настойліва пераконваюць у нікчэмнасці і непатрэбнасці пройдзенага шляху — ён, маўляў, быў поўнасцю памылковым. Нагледзеўшыся і наслухаўшыся маладых тэлепрарокаў, іншы раз самому пачынае здавацца, што выжылі ў мінулым толькі сексоты і абалваненыя прадстаўнікі натоўпу. А шаноўны народны дэпутат, прафесар, і іх пераплюнуў, заявіўшы з трыбуны Крамлёўскага Палаца з'ездаў: «...калі б мы не перамаглі Гітлера, то жылі б цяпер, як немцы...» Быццам гэта мы захацелі крыві, мы вераломна напалі, а не на нас. І гэта сказаў прадстаўнік таго народа, які панёс найбольшыя ахвяры. Дастаткова напомніць толькі некалькі лічбаў: больш як 2,2 мільёна грамадзян Беларусі фашысты расстралялі, павесілі, спалілі, задушылі ў камерах-душагубках. 380 тысяч чалавек вывезена ў Германію, многія з іх там загінулі. Разбурана і спалена 9200 гарадоў, пасёлкаў і вёсак. Па няпоўных даных за гады фашысцкай акупацыі мы недалічыліся каля трох мільёнаў суайчыннікаў.

Вось чаму некаторыя нашы ветэраны сарамліва хаваюць ордэны і медалі, баяцца гаварыць аб сваёй маладосці, быццам павязаны нейкай агульнай віною перад чалавецтвам. Паглядзіце ў іх твары ў натоўпе гарадскога рынку. Аб чым думаюць яны, калі ідуць ля прылаўкаў з вар'яцкімі цэнамі, заціснуўшы ў кішэні рэшткі жабрацкай пенсіі? І ці не трывожна ў іх на сэрцы за нашу мараль, калі яны набліжаюцца да кіёскаў, нашпігаваных календарамі і газецінамі з сучаснымі секс-бомбамі?

Ці такой яны ўяўлялі сваю будучыню ў тым далёкім і радасным 45-м? Трэба прызнацца, позна м[illegible] пачалі гаварыць аб ветэранах, аб н[illegible] абходных для іх увазе і клопаце. Многія ж з іх так і не дажылі да гэтых дзён, пайшлі з жыцця, забраўшы з сабою сваю крыўду і збянтэжанасць. Прыязджаючы на магілу бацькоў, кожны раз з сумам заўважаю новыя просценькія помнікі — усё менш і менш у нашым Залужжы застаецца былых франтавікоў і партызан. І ўсе яны жылі ў асноўным на 20-рублёвую калгасную пенсію, ніхто з іх ні разу не адпачываў на цёплым і чыстым моры, не карыстаўся дэфіцытнымі лекамі. Успаміналі аб іх, калі калгас, а затым саўгас задыхаўся ад нехваткі рабочых рук ды ў Дзень Перамогі: на круглыя даты ўручалі каму насценны гадзіннік, каму заляжалую на ўвесь гарантыйны тэрмін электрабрытву.

І такі лёс напаткаў многіх ветэранаў вайны не толькі майго Ляхавіцкага раёна. Разгарніце любую рэспубліканскую газету — і вы пачуеце крык душы старых бездапаможных людзей. Брыгадзір-самадур не [illegible]каня, каб засадзіць соткі... Хата р[illegible]вальваецца, а старшыня калгаса корміць абяцанкамі... Сорак гадоў аддаў заводу, але адміністрацыя выкрэсліла са спіскаў на паляпшэнне жыллёвых умоў... На пратэзным заводзе прыніжаешся перад п'яным майстрам, каб хутчэй зрабілі цяжкі грубы пратэз...

Сацыяльная трагедыя многіх ветэранаў — гэта не толькі іх бяда. Гэта



праблема ўсяго нашага грамадства. Не ведаю, на якім этапе, але неяк непрыкметна мы растрацілі шмат з таго, што складае чалавечую сутнасць: сумленне, міласэрнасць, добразычлівасць, ды і проста людскасць. Пад напорам ханжаства і крывадушнасці агрубелі нашы сэрцы, ачарсцвелі душы. Эгаізм і рвацтва выцясняюць дабрачыннасць. Ці не гэта — жыватворная глеба для бюракратызму, які аблытаў нас з галавы да пят?

Разважаючы аб прычынах душэўнага застою, хачу падкрэсліць, што памяць аб тых, хто прынёс нашчадкам і будучым пакаленням магчымасць мірнага жыцця, патрабуе не слоў, хай нават прыгожых, не клятваў. Памяць гэта патрабуе спраў і сумленных адносін да ветэранаў. Яны, старыя салдаты, прайшлі праз агонь, праз нечалавечыя выпрабаванні, але сэрцы вынеслі жывымі і чыстымі. Трапяткімі і чуйнымі да няпраўды і няшчырасці. А мы ў тыя сэрцы — абразу і пакуты...

Успамінаецца, ля мінскага Дома гандлю даўжэзная чарга: давалі мужчынскі абутак. Наперад пачаў нясмела прабірацца сівы ветэран з ордэнскімі калодкамі на пінжаку — і адразу ж дзесяткі маладых галасоў: «Куды прэш, стары?» А доўгавалосы, джынсавы дзяцюк гэтак здзекліва кінуў: «І як гэта ты, дзед, умудрыўся ўцалець? Таксама крычаў «ура правадыру і настаўніку»?» Чарга зарагатала. І толькі адна пажылая кабета цяжка ўздыхнула: «І як язык паварочваецца такое гаварыць?».

Так, ветэранаў сёння запісваюць у беспрасветныя сталіністы. Аднак многія з іх ацэньваюць культ асобы па заслугах. І думаю, лішні грэх на душу бярэ той «культафіл», які спрабуе выступаць ад імя ўсіх франтавікоў. Па сведчанню многіх з іх, лозунг «За Радзіму, за Сталіна!» быў спушчаны зверху, па распараджэнню Галоўпалітупраўлення арміі, якім кіраваў сумна вядомы Мехліс. Гэты лозунг у пэўных выпадках з'яўляўся строга абавязковым. За гэта галавой адказвалі нампаліты і палітрукі. І не сакрэт, што часта даваўся прамы загад падымаць полк, батальён, роту, узвод у атаку іменна з такімі, а не з якімі-небудзь іншымі словамі.

— Няўжо ты сапраўды верыш, што, кідаючыся насустрач кулям, я думаў пра Сталіна ці аб сваіх пачуццях да яго? — пытаннем на пытанне адказваў неяк мой зямляк, поўны кавалер ордэна Славы Алесь Малевіч.— Ды і байцы майго ўзвода аб ім не думалі — гэта дакладна. Пра дзяцей сваіх успаміналі, пра маці, жонак... Яны давалі нам сілы і мужнасць, а не Сталін.

«Гэты лозунг — такі ж баявы кліч, як і традыцыйнае «ўра!»,— піша ў рэдакцыю былы франтавік Антон Дзенісюк з Брэста.— Да спадчыны Сталіна, да яго асобы і тым больш да яго злачынстваў ён не мае ніякіх адносін».

Згодны, мы павінны ведаць усю праўду аб вайне. А ўся праўда шматбаковая. І бясслаўных старонак у ёй нямала. Дагэтуль помню сустрэчу з абаронцам Масквы Пятром Кірылковым са Слаўгарадскага раёна, яго глухі голас і заплаканыя вочы.

— Мне толькі дзевятнаццаць стукнула — і на фронт, пад Маскву, на перадавую. На нас пруць танкі Гудэрыяна, а ў кожнага байца па адной гранаце і на пяцярых — адна вінтоўка... Як застаўся жывым — аднаму Богу вядома.

Нельга забыцца і пра драконаўскі загад за нумарам 221, і пра бяссэнсавую абарону таго ж Кіева, і пра дзесяткі непрадуманых паспешлівых баявых аперацый, у выніку якіх ахвярамі станавіліся цэлыя палкі, а то і дывізіі. І тады камандна-адміністрацыйная сістэма сціскала свой сталёвы абруч, дабіваючыся гераізму з-пад палкі. Дзеля пераможных рапартаў у Стаўку, некаторыя камандзіры ішлі па трупах сваіх байцоў. І хіба ж можна гэтую суровую праўду выдаваць зараз за паклёп ці падкопы буржуазнай прапаганды? А такое, на жаль, здараецца.

Я не хачу ідэалізаваць, кананізаваць старых ваякаў. Як і ўсе мы, вельмі яны розныя. І настырныя трапляюцца, выбіваючы легкавушкі і гарнітуры для дзяцей і ўнукаў, і надакучлівыя, якім усё карціць змагацца, выкрываць, раззбройваць, а ў выпадку непаразумення апеляваць да высокіх інстанцый: не прыслухоўваюцца да ветэранаў, страцілі пільнасць, зневажаюць прынцыпы... Жыццё ідзе, і не кожны знаходзіць у сабе мудрасць зразумець яго няўхільную логіку, згадзіцца з ёю. Але давайце будзем мудрымі мы, праявім разуменне з-за адной простай, дараванай нам перавагі: запасу часу на пераасэнсаванне. Занадта доўгімі і жорсткімі былі ўрокі «Кароткага курса», каб імгненна развітацца з многімі ўбітымі ў галаву ідэямі. Пашкадуем жа такіх: эпоха калечыла не толькі іхнія целы. Незваротна калечыла душы і розумы.

З горкім гонарам гаворым мы, што вайна зачапіла кожную савецкую сям'ю, што гэта сапраўдны ўсенародны боль. Чаму ж тады адбылася інфляцыя паняццяў «абавязак», «патрыятызм», «памяць»? Чаму ж тады многія, калі не большасць дзяцей, не ведаюць, дзе ваявалі і як загінулі іх дзяды? Ці не таму, што ваенна-патрыятычнае выхаванне ў школе нярэдка абмяжоўваюць завучаннем вершаў да Свята Перамогі, а наведванне абеліска на плошчы Перамогі ў Мінску ўваходзіць у вясельны рытуал? Сотні піянерскіх і камсамольскіх атрадаў адпраўляюцца штогод па месцах баявой славы. І многім з іх няўцям, што слава побач, на іхняй вуліцы, у хаце па суседству.

Ніхто не вечны на гэтай зямлі. Яшчэ можна пачуць жывых удзельнікаў баёў. Але яны пакідаюць нас. І будзе час: іх галасоў не пачуе ўжо ніхто. Таму так важна ўвасобіць для будучых пакаленняў усё, чаму былі сведкамі і ўдзельнікамі гэтыя людзі. Запісаць на паперу, на магнітафонную стужку, зняць для кіно. Сучасная тэхніка дазваляе данесці да нашчадкаў не толькі галасы, але і воблік тых, хто рабіў і сёння робіць Гісторыю. А тое, што зроблена і заваявана імі,— не мае цаны.

Якімі доўгімі, празмерна цяжкімі былі тыя 1418 дзён і начэй вайны. Але кожны папярэднічаў гэтаму дню — Дню Перамогі. Мы выходзім сёння на вуліцы, каб адчуць сябе адзінай сям'ёй, што згуртавалася ў бядзе і радасці.

Няхай узнімуцца да ўзроўню той Перамогі нашы мірныя працоўныя справы і не барабанныя рапарты гучаць аб іх, а праўдзівыя зводкі, якія не ўтойваюць няўдач і пралікаў. Няхай не пакідае нас грамадзянская мужнасць, атрыманая ў спадчыну ад салдацкай. Няхай дружней згуртоўваюцца нашы грамадскія парадкі на галоўных рубяжах перабудовы. Вялікая Перамога крочыць па зямлі ў настойлівай працы і нялёгкіх выпрабаваннях.

Паклонімся ёй, сябры!

Афармленне
Анатоля **АЛЕКСАНДРОВІЧА**.



# СТАРАЯ ЗБРОЯ
## З НОВЫМ... ПРЫЦЭЛАМ?

У ваенных камісарыятах, КДБ, міліцыі і злачынным свеце добра ведаюць: знайсці ў Беларусі авіябомбу або пісталет, міну ці кулямёт зусім няцяжка. У свой час народным дэпутатам паведамілі канкрэтныя адрасы ржавых арсеналаў (у лясах, рэках і на палях), аднак інжынерна-сапёрныя падраздзяленні з'яўляюцца там — прынамсі, як і раней — толькі пасля «гарачых» заявак на абясшкоджванне боепрыпасаў. І то не заўсёды аператыўна. За ўвесь мінулы год было каля 1.500 небяспечных знаходак. Знішчана 85 авіяцыйных бомб, прыкладна 4.600 снарадаў і мін, каля 2.000 гранат.

Вечар. Па тэлевізары — праграма «Час». Паток навін. І раптам дыктар пачынае гаварыць аб сенсацыйнай і невясёлай падзеі ў Брэсцкай крэпасці...

Пачуццё трывогі (асабліва пасля таго, як яе абгрунтаванасць пацвердзілі ў МУС БССР) не пакідае і сёння: для сапёраў у Брэсцкай крэпасці і вакол яе работы яшчэ шмат, і можа здарыцца непапраўнае, калі ў чарговы раз іх апярэдзяць хлапчукі, аматары авантурных прыгод або сучасныя «баевікі».

Дарэчы, калі яшчэ 2—3 гады таму падлеткі шукалі (і знаходзілі) снарады для «феерверкаў», напрыклад, у ноч на Івана Купалу, а пісталеты і вінтоўкі бралі, галоўным чынам, паляўнічыя ды аматары мужчынскіх «сувеніраў», то цяпер зброя — прадмет актыўнага гандлю. Тэндэнцыя гэта (а пра яе непазбежнае з'яўленне неаднойчы папярэджваў часопіс «Беларусь») развіваецца імкліва. Чым больш напружаная атмасфера ў грамадстве — тым большы попыт на арсеналы. А попыт нараджае прапанову.

Спадзявацца, што «праверкі» на дарогах і пасты спецкантролю ў аэрапортах моцна перашкаджаюць перакупшчыкам стралковага і іншага ўзбраення,— наіўна. Хаця рахунак канфіскаваных у пасажыраў «ствалоў», гранат, розных выбуховых прыстасаванняў і г. д. ідзе на сотні адзінак, усё роўна пападаюцца далёка не ўсе (і, што самае страшнае, толькі самыя неспрактыкаваныя) гандляры вайсковым рыштункам.

У дзялкоў небяспечнага бізнесу дзве крыніцы новых паступленняў «тавару»: па-першае, яны выязджаюць далёка не ў патрыятычныя экспедыцыі на месцы буйных баёў часоў мінулай вайны; па-другое, як гэта ні сумна, гандлююць зброяй паблізу вайсковых часцей. Адсюль высновa: усе новыя і новыя фарміраванні «баевікоў», добра экіпіраваныя банды і проста адзінокія рабаўнікоў не ўдасца да канца абеззброіць, пакуль... Пакуль усё застаецца, як ёсць. Няхай суткамі не спіць міліцыя, КДБ — усё роўна нічога не атрымаецца. Дзе ж выйсце?

Рэспубліка перанасычана войскамі. З-за мяжы, з краін — удзельніц Варшаўскага дагавора, штодзень прыбываюць новыя часці. Перадыслакацыя велізарная. Але мы, мірныя жыхары, маем права патрабаваць ад генералаў поўнага парадку ў падначаленых ім дывізіях і больш маштабнай, эфектыўнай работы інжынерна-сапёрных падраздзяленняў.

Сорак сем гадоў пасля баёў — дастатковы тэрмін для ачышчэння беларускай зямлі ад іх страшных слядоў, ад «законсерваванай», прытоенай смерці.

**Юрый ЛАРЫН.**

І СЁННЯ КРАВАТОЧЫЦЬ У СЭРЦАХ ЛЮДЗЕЙ АФГАНІСТАН.
ГЭТА — НАШ БОЛЬ НАЗАЎСЁДЫ.
ЦЯПЕР ШМАТ ЯКІЯ АЦЭНКІ ТЫХ ТРАГІЧНЫХ ПАДЗЕЙ ПЕРААСЭНСОЎВАЮЦЦА, АЛЕ ЗАЎСЁДЫ БЯССПРЭЧНЫМ ЗАСТАНЕЦЦА ТОЙ ФАКТ, ШТО ПРАЗ ПЯКЕЛЬНУЮ АФГАНСКУЮ МЯСАРУБКУ ПРАЙШЛІ ТЫСЯЧЫ І ТЫСЯЧЫ НАШЫХ СУМЛЕННЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ,
НАШЫХ ПАПЛЕЧНІКАЎ, НАШЫХ БРАТОЎ, БАЦЬКОЎ, СЫНОЎ.
І НЕ ІХ ВІНА, ШТО БЫЛІ ЯНЫ ТАМ.
ЧАС АД ЧАСУ МЫ ВЯРТАЕМСЯ (І БУДЗЕМ ВЯРТАЦЦА) ДА ДАКУМЕНТАЛЬНЫХ СВЕДЧАННЯЎ ЖЫВЫХ УДЗЕЛЬНІКАЎ АФГАНСКІХ ПАДЗЕЙ, КАБ ЯШЧЭ І ЯШЧЭ РАЗ ВЫЯВІЦЬ, СПАЗНАЦЬ, АДЧУЦЬ: ШТО Ж ТАМ БЫЛО ТАК, А ШТО НЕ ТАК...
НІЖЭЙ ПАДАЁМ ДАКУМЕНТАЛЬНЫЯ НАТАТКІ НАШАГА ЗЕМЛЯКА, ГЕНЕРАЛ-ЛЕЙТЭНАНТА УЛАДЗІМІРА ІВАНОВА,
ЯКІ Ў 1987—1988 ГАДАХ ПРАЦАВАЎ САВЕТНІКАМ ЦК НДПА ПА ПАГРАНІЧНЫХ ПЫТАННЯХ. УЗНАГАРОДЖАНЫ АФГАНСКІМ ОРДЭНАМ ЧЫРВОНАГА СЦЯГА.
ДАРЭЧЫ, У ГЭТЫМ МЕСЯЦЫ, У МАІ, АДЗНАЧАЕЦЦА ДЗЕНЬ ПАГРАНІЧНІКА.
НЯХАЙ ДА ЯГО І БУДЗЕ ПРЫМЕРКАВАНА НАША ПУБЛІКАЦЫЯ.



# «Я ПАКЛЯЎСЯ ЯГО ЗАБІЦЬ...»

У кустоўе, глуха ляснуўшы, нешта ўпала.

Граната?!

Я ляжаў на сцяжыне, усім нутром адчуваючы хаду часу: секунда, яшчэ секунда...

А выбуху ўсё няма. І няма большай пакуты, чым такое чаканне.

Не вытрымаўшы, устаў, дакараючы сябе за слабасць, абтросся і, паклікаўшы вартавога, пачаў разам з ім шнарыць па кустоўі. На «гранату» натрапілі хутка. Гэта быў ...камень з прымацаванай да яго запіскай.

Незвычайнаму спосабу дастаўкі інфармацыі як бы адпавядаў і яе нечаканы змест: у запісцы паведамлялася, што Майлон-хан прапануе сустрэцца праз два дні для перагавораў.

У правінцыі, у якую я прыбыў для аказання дапамогі афганскім пагранічнікам, Майлон-хан быў чалавекам вядомым. Кіраўнік аднаго з буйнейшых душманскіх аб'яднанняў, ён на працягу некалькіх гадоў займаўся кантрабандай наркотыкаў, грабяжамі і разбоем, утрымліваючы пад сваім кантролем нямала кішлакоў.

Апошнім часам, як інфармавала наша разведка, яго людзі сталі ўсё часцей удзельнічаць у перакідцы праз граніцу рэспублікі караванаў са зброяй, у правадцы іншых мяцежніцкіх злучэнняў. Праўда, пасля нядаўняй паспяховай аперацыі, праведзенай супраць Майлон-хана пагранбрыгадай, ён пайшоў у горы: патрабаваўся час, каб хоць неяк папоўніць склад фарміравання, разжыцца на тэхніку і ўзбраенне.

Ну, а запіска? Заставалася толькі здагадвацца, што тоіцца за прапанова аб сустрэчы — правакацыя, спроба звесці рахункі ці сапраўднае жаданне пайсці на кантакт?

Пасля нарады ў штабе пагранбрыгады прыйшлі да вываду: так ці інакш, а ісці на сустрэчу трэба.

Апоўначы прыбылі на месца. Да прызначанага часу заставалася мінут трыццаць. Вадзіцель і два салдаты — хоць нейкая мера перасцярогі — заляглі ў кювеце, а мы з перакладчыкам пайшлі да развалін, што цямнелі справа.

Нервы былі, што нацягнутыя струны. У любую секунду мог ударыць ва ўпор аўтамат ці рвануць мінны выбух...

Калі нарэшце дайшлі да развалін, я, стомлена прыхіліўся да сцяны. Страшэнна хацелася курыць, хаця і без гэтага ў роце было горка.

Раптам пачуліся крокі. Праз імгненне я разгледзеў постаці, што набліжаліся да нас.

Ішлі двое. Зрабіўшы яшчэ колькі крокаў, яны спыніліся.

Мы павіталіся па мусульманскіх традыцыях.

— Я Майлон-хан,— важна прамовіў адзін з візіцёраў і наблізіўся да мяне.— Я і мае людзі хочам перайсці на бок народнай улады. Але для гэтага павінны быць вытрыманы дзве неабходныя ўмовы. Першая: з нашых людзей фарміруецца асобны полк. Другая: камандзірам гэтага палка буду я.

— Добра, пан Майлон-хан, вашы пажаданні і патрабаванні я перадам Сарвару. Ён — старшыня Савета абароны правінцыі, яму і вырашаць гэтае пытанне. Дый увогуле, вам лепш было б сустрэцца з ім, а не са мной.

— Шаноўны! Я добра ведаю Сарвара, як, дарэчы, і тое, што гэтыя пытанні трэба вырашаць менавіта з ім. Але мне ўсё ж захацелася спачатку перагаварыць з вамі... Словам, калі ёсць згода дапамагчы нам, то прапануем наступную працэдуру пераходу. Праз тры дні, уранні, на школе і крайняй хаце кішлака Шыва ўзнімуцца два чырвоныя сцягі — гэта будзе сігнал, што народная ўлада гатова нас прыняць. Пасля, яшчэ праз суткі, у пяць гадзін раніцы мы выйдзем з цясніны Заболь і будзем рухацца ў накірунку кішлака Хугені. Там, у кішлаку, мы і арганізуем пераход нашых людзей на бок урада.

— Я вас зразумеў. Спадзяюся, усё адбудзецца менавіта так, як мы дамовіліся. Сустрэнемся ў суботу ў Хугені. Да пабачэння!

— Бамоне худа![1] — адказаў Майлон-хан і гэтак жа непрыкметна, як і з'явіўся, растаў у цені развалін.

[1] — З Богам!

Мы павольна пайшлі да машыны.

У ноч з пятніцы на суботу падраздзяленні брыгады скрытна занялі пазіцыі ўздоўж меркаванага маршруту выхаду людзей Майлон-хана да кішлака Хугені.

Ці то я празмерна часта пазіраў на гадзіннік, ці то па нейкай іншай прычыне, але здавалася, што час проста спыніўся.

І ўсё ж надышла хвіліна, калі камандзір брыгады Фарахі, які неадрыўна назіраў за кішлаком, выгукнуў:

— Ідуць!

Я ўзяў бінокль і разгледзеў, як выцягваецца з цясніны калона душманаў.

— Не менш як трыста чалавек,— ціха прамовіў Фарахі.

— Гэта добра,— адказаў я.— Меней у гарах застанецца.

Калона павольна набліжалася. Твары тых, хто ішоў папераздзе, ужо даволі выразна бачыліся скрозь павелічальныя шкельцы бінокля.

І раптам мы як аслупянелі: з нашых пазіцый глуха застракатала кулямётная чарга.

Хто страляе?! Гэта што — правакацыя?

Душманы пачалі падаць, ратавацца за прыкрыццямі.

— Спыніць агонь! — закрычаў у мікрафон радыёстанцыі Фарахі, але было позна: аперацыя сарвалася. Душманы, агрызаючыся кароткімі аўтаматнымі чэргамі, адыходзілі ў горы.

Хвілін праз дваццаць страляніна спынілася.

Я сеў на камень, закурыў. Гэта быў, канечне, правал. Разважаючы, да чаго ён мог прывесці, я з нецярпеннем пазіраў на дарогу.

Урэшце пад'ехаў Фарахі. З аўтамашыны выцягнулі звязанага салдата.

— Гэта ён страляў...— стомлена кінуў Фарахі.— Яго б на месцы варта было прыстрэліць, але аддам пракурору. Няхай разбіраецца...

Салдат быў да сінечы бледны, яго праціналі нервовыя дрыжыкі.

Па маёй просьбе затрыманага развязалі.

— Вы чаму стралялі? — спытаўся я ў яго праз перакладчыка.

У адказ салдат пачаў нешта выкрыкваць, узрушана махаючы рукамі. Перакладчык ледзь паспяваў за яго стракатаннем.

— Я пазнаў яго... Брудны шакал... Я адпомсціў... Я стрымаў слова — я забіў яго!

— Супакойцеся! Гаварыце па праве,— паспрабаваў я астудзіць арыштаванага і дадаў ягоным канваірам: — Няхай сядзе. І дайце яму вады.

Клацаючы зубамі аб шклянку, ён вялікімі глыткамі выпіў ваду і неяк адразу абмяк.

— Я пазнаў яго. Гэта быў Кушан. Тры гады назад ён прыходзіў у наш кішлак. З ім было шмат душманаў. Яны забілі майго бацьку, пасля — маці, а сястру забралі з сабой. Я ўсё бачыў. Я пакляўся знайсці яго і забіць. Я адпомсціў.

Салдат змоўк.

Гледзячы на яго, маўчалі ўсе, хто быў навокал...

Праз тыдзень на вуліцы да мяне падбег маленькі хлопчык і перадаў запіску. Майлон-хан прапанаваў яшчэ раз сустрэцца. Былі названы дзень і дакладная гадзіна, а таксама месца будучай сустрэчы. Сустрэчы, адмаўляцца ад якой я не меў права, нягледзячы на непазбежную рызыку.

Тупа ныла сэрца. Наперадзе была яшчэ адна бяссонная ноч.

# ЛЁС

Цяжка, з металічным скрыгатам, загрукаталі вінты.

Хмара пылу.

Узлёт.

Ідзём парай на гранічна малой вышыні, старанна абыходзячы ўсе няроўнасці зямной паверхні. Ілюмінатары адкрыты, аўтаматы — на каленях.

Ляцім да граніцы, у адзін з афганскіх пагранічных батальёнаў. Палёт непрацяглы — недзе 30—35 хвілін.

Пасадка ў воблаку пылу. Нас сустракае група людзей у паўваеннай форме, нехта нават у тапках, амаль усе аброслыя, з аўтаматамі.

# ВІЗІТ ДА АНВАР-ХАНА

Кароткі даклад камандуючаму пагранічных войск генерал-маёру Абдуле. Традыцыйныя поціскі рук, і мы ўсе кіруем да глінабітных пабудоў, дзе размясціўся батальён. Тым часам, зароўшы рухавікамі, верталёты адлятаюць назад.

Сагнуўшыся ў тры пагібелі, прабіраемся ў напаўцёмнае памяшканне. Тут штаб батальёна. Рассаджваемся. Неўзабаве прыносяць чай. Камандзір батальёна старшы лейтэнант Мір Саіб Файс, даўгалыгі сімпатычны малады чалавек, дакладвае:

— Становішча не з лёгкіх. Групы праціўніка і караваны са зброяй практычна бесперашкодна абцякаюць батальён. Мала людзей. Няма гаручага. Кепска з харчаваннем.

Недзе зусім побач грымнулі падва выбухі. Са столі пасыпалася зямля. Мы пераглянуліся.

— Гэта Ваім-хан. Вядзе прыцэльны агонь з бліжэйшых вышынь,— растлумачыў камбат.— Угледзелі, што прыляцелі верталёты, вось і пачалі. У нас заўсёды так. Зараз адкажам.

Хвіліны праз тры-чатыры пачалі страляць гарматы.

Калі страляніна спынілася, мы выйшлі ў двор невялікай глінабітнай крэпасці. Востра пахла згарэлым порахам. Людзі хаваліся ва ўкрыццях, і толькі дзе-нідзе на верхавінах сцен можна было заўважыць назіральнікаў.

Частку батальёна сабралі ў бліндажы. Людзі парассядаліся на цыноўках. Абдула пачаў гутарку. Ён гаварыў пра агульнапартыйную канферэнцыю, Лоя Джыргу, пра выбранне прэзідэнта, аб ходзе палітыкі нацыянальнага прымірэння.

Наверсе зноў два разы рванула. Але салдаты сядзелі спакойна, не выяўляючы сваіх эмоцый. Пытанняў не было, і Абдула згарнуў гутарку.

Пайшлі па падраздзяленнях. У глінабітных норах і бліндажах, у траншэях размяшчаліся салдаты. З кожнай пазіцыі добра праглядаліся нават аддаленыя подступы да гарнізона.

Высокае блакітнае неба, сонца. Ля сцяны ленавата пасецца вярблюд з падвязанай нагой.

Не хочацца верыць, што ў любы момант гэтую цішыню зноў могуць разарваць выбухі і стрэлы.

Тут, на пазіцыях, людзі больш гаваркія. Высветлілася, што салдаты больш за чатыры месяцы не атрымлівалі грошай, кепскія справы з абмундзіраваннем і медыкаментамі.

— Дзе начальнік тылу брыгады? — абурана звярнуўся да людзей Абдула.

Аднекуль ззаду па траншэі праціснуўся сярэдняга росту афіцэр.

— Падпалкоўнік Назім! — адрэкамендаваўся ён.

— Дык у чым справа? — утаропіў у яго свой позірк Абдула.

— Яны самі вінаватыя, таварыш камандуючы. Тры месяцы таму засада гэтага батальёна абстраляла сваю ж калону. Аўтамашына, якая везла грашовае ўтрыманне батальёну, згарэла. А ў ёй было сем мільёнаў афгані! І мы вырашылі: паколькі самі вінаватыя, то няхай самі і выкручваюцца.

Абдула наліўся чырванню.

— Вы, падпалкоўнік, альбо лайдак, альбо сабатажнік. Я здымаю вас з пасады. Паедзеце ў 14-ю пагранбрыгаду на радавую работу,— рэзка вымавіў камандуючы.— Калі застанецеся жывы, то праз паўгода паглядзім.

Падпалкоўнік спалатнеў.

— Я ўсё папраўлю... Я буду старацца... У мяне шасцёра дзяцей. Даруйце мне...

Ён гаварыў яшчэ нешта, азартна і хутка.

— Хопіць апраўданняў і просьбаў! Збірайцеся, паедзеце з намі,— жорстка падсумаваў Абдула.

Я з непакоем зірнуў на гадзіннік: да наступлення цемры заставалася зусім нямнога. А да суседняга батальёна належала праехаць па пустыні больш за дваццаць кіламетраў.

Хутка сфарміравалі невялікую калону: два бронетранспарцёры і дзве аўтамашыны з салдатамі.

Я размясціўся наверсе, у люку механіка-вадзіцеля. Тут і агляд лепшы, і, калі наскочым на міну, больш шанцаў застацца жывым.

Па пустыні ехалі хутка і неўзабаве выкараскаліся на дарэшты разбітую, некалі асфальтаваную дарогу. Тут магчымасць падарвацца на міне стала зусім рэальнай: на абочынах часта сустракаліся абпаленыя і разбітыя аўтамашыны, а палатно дарогі скрозь было пакрыта варонкамі ад фугасаў і мін.

— Едзь дакладна па каляіне той машыны, што ідзе паперадзе, і трымайся далей ад яе! — загадаў Абдула вадзіцелю бронетранспарцёра.

Той рашуча скінуў хуткасць, імкнучыся пры гэтым паўтараць літаральна ўсе зігзагі папярэдняй машыны. Я бачыў яго напружаную шыю і змакрэлую ад поту спіну.

Кіламетры праз тры напружанне крыху спала. Генерал Абдула, які месціўся побач, у другім люку, дастаў цыгарэты.

І ў гэты момант спераду і крыху злева, за дзесяць—дванаццаць метраў ад нас, заскакалі фантанчыкі пылу і адначасова пачулася стракатанне кулямётнай чаргі. Я паваліўся ў бронетранспарцёр. Павалічыўшы хуткасць, ведучы агонь на хаду, мы памчаліся ўперад.

Спачатку мне падалося, што па нас страляюць з развалін кішлака, які бачыўся за паўкіламетра злева. Але пасля я зразумеў, што агонь вядзецца з зялёных зараснікаў, якія языком выпіралі са шчыліны.

На паваротцы мы з'ехалі ў кювет, і наш агонь стаў больш прыцэльным. Па гэтым «языку» цяпер палілі ўсе: нашы людзі, пост царандоя, які стаяў на ўзгорку, і калона з бронетранспарцёра і дзвюх аўтамашын, што падаспела ўжо. Відаць, гэта і вырашыла справу: душманы змоўклі. Хвілін праз 15—20 спынілі стральбу і мы.

Абдула загадаў праверыць людзей і разабрацца з тэхнікай. Неўзабаве яму далажылі, што адна машына падбіта, усе людзі на месцах, няма толькі начальніка тылу.

— Уцёк, сабака. Трэба было яго арыштаваць,— са скрухай прамовіў Абдула.— На ўсялякі выпадак яшчэ раз агледзьце мясцовасць. Толькі хутка!

Салдаты разышліся абапал дарогі.

— Ён тут! — данёсся раптам крык аднаго з байцоў.— Ён забіты!

Метраў за сорак ад нас, у кювеце, ляжаў забіты падпалкоўнік. Куля трапіла яму ў галаву. Ён ляжаў на баку, заціснуўшы ў далоні жмут сухой травы.

«Лёс»,— падумаў я і, закурыўшы, пасунуўся да бронетранспарцёра.

— А гэта хто? — выскачыўшы з верталёта, спытаў я ў афіцэра, які нас суправаджаў, паваротам галавы паказваючы на рослага мужчыну ў нацыянальнай апратцы, з аўтаматам. Побач з ім, таксама з аўтаматам і перакрыжаванымі на грудзях кулямётнымі стужкамі, трымаўся хлопчык гадоў дзесяці. Яны стаялі за два крокі ад групы камандавання пагранбрыгады, але ў той жа час як бы асобна, адасоблена і горда.

— О, гэта Анвар-хан з сынам,— амаль шэптам паведаміў афіцэр.— Вялікі чалавек. У яго дзве тысячы ўзброеных людзей!

«Анархісты. Чыстае кіно»,— прамільгнула думка, і я ледзь стрымаў усмешку.

Над галавой вінты са свістам маладзілі паветра, смерчам закручвалі пыл навокал. Прытрымліваючы рукамі галаўныя ўборы, генерал Абдула, я і група суправаджэння хутка адышлі ад верталётаў.

Пасля прывітанняў накіраваліся ва ўпраўленне брыгады.

Традыцыйны чай. Ветлівая гаворка.

— Як справы, Анвар-хан? — звярнуўся да госця Абдула.— Ці ўсё ў вас добра?

Анвар-хан з задавальненнем, як мне падалося, прыступіў да гутаркі:

— У нас усё добра. Тры месяцы як мы перайшлі на бок урада. Мае людзі надзейна прыкрылі тры караванныя маршруты на граніцы, і мяцежнікі тут не ходзяць. Неяк, праўда, паспрабавалі, але мы наладзілі засаду, і цяпер на ўчастку спакойна. Яны нас баяцца!

Ён засмяяўся. Заўсміхаліся і астатнія.

— А гэта ваш сын? — Абдула кіўнуў у бок хлопчыка, які ўвесь гэты час, не варухнуўшыся, сядзеў з аўтаматам на каленях.

— Так, мой нашчадак! — Анвар-хан з любоўю паглядзеў на хлопчыка.— А ўсяго ў мяне 19 дзяцей: дзесяць хлопчыкаў і дзевяць дзяўчынак. І хутка будзе яшчэ чатыры.— Заўважыўшы, відаць, маё здзіўленне, удакладніў: — У мяне шэсць жонак.

— А колькі ж вам гадоў? — не ўтрымаўся я ад пытання.

— Дакладна не ведаю, але думаю, што 45 ці 46. Словам, я яшчэ пажыву! — і ён зноў рассмяяўся.

Дапіўшы чай, Анвар-хан сказаў, што яму трэба ехаць і што ён з вялікім задавальненнем працягнуў бы нашу гутарку за вячэрай у яго кішлаку.

— Каларытны мужчына і, відаць, не пустасловіць,— заўважыў я, калі Анвар-хан пайшоў.

— Вы, шаноўны саветнік, пакуль яшчэ недастаткова ведаеце псіхалогію старэйшын афганскіх плямёнаў,— запярэчыў Абдула.— Усе яны добра гавораць, але не ўсе і не заўсёды добра робяць. Анвар-хан — буйны кантрабандыст, мае справу з наркотыкамі... Урэшце, хай будзе так. Гэта лепей, чым тут пачалі б гаспадарыць мяцежнікі.

Пачало цямнець. У кабінет зайшлі Абдула і камандзір брыгады.

— Анвар-хан прыслаў сваіх людзей,— далажыў Абдула.— Ён чакае нас на вячэру. Што будзем рабіць?

— А колькі часу язды да яго нага кішлака?

— Прыкінься, кіламетраў восем — дзесяць...

— Увогуле, трэба было адразу адмовіцца, а цяпер давядзецца ехаць. Пазнаёмімся з ханам бліжэй: сяброў трэба ведаць добра.

Залезлі ў бронетранспарцёр. Камандзір брыгады выстраіў калону. Наперадзе, ззяючы стоп-сігналамі, павольна рухаліся некалькі аўтамашын з салдатамі і два бронетранспарцёры.

На дарозе, праз кожныя адзін—два кіламетры, траплялі паўгрузавыя «Таёты» з групамі ўзброеных людзей і ДШК у кузавах. Гэта Анвар-хан выставіў пасты для нашай бяспекі.

Раптам наперадзе пачулася частая страляніна, цёмнае неба расквецілі шматлікія трасёры, угару ўзляцелі асвятляльныя ракеты.

— Што гэта? — спытаў я Абдулу.

— Па-мойму, гэта Анвар-хан, вітаючы наш прыезд, наладзіў сціплы салют,— паспрабаваў схаваць за жартам занепакоенасць ён.

На ўездзе ў кішлак абапал дарогі стаяла не меней як сотня людзей, якія бесперапынна смалілі ўгору.

— Так яны вынішчаць усе ўласныя боепрыпасы,— крыкнуў я ў бок Абдулы.

— Мяркую, іх хопіць і на наш ад'езд,— з горкай усмешкай адгукнуўся ён.

У святле фар бронетранспарцёраў, якія паўкругам разгрувапаліся вакол дома, мы саскочылі на зямлю і былі ветліва сустрэты Анвар-ханам. Ён запрасіў нас у дом. Ахова засталася ў двары.

Мы ўвайшлі ў прасторнае, скрозь засланае тоўстымі персідскімі дыванамі, памяшканне. Расселіся на курпачах ля сцен. У куце відэамагнітафон круціў нейкую стужку. Чацвёра маладых мужчын хутка разлілі чай. Пачалася ветлівая, нетаропкая гаворка.

Нечакана, прыклаўшы руку да грудзей і злёгку пакланіўшыся ў мой бок, Анвар-хан звярнуўся да Абдулы:

— Мне вельмі спадабаўся ваш саветнік, шаноўны Абдула! Адчуваю, што ён талковы спецыяліст і прыстойны чалавек.

— Так, наш паважаны саветнік вельмі вопытны работнік, ён дапамагае нам вырашаць шмат якія пытанні,— адказаў Абдула.

— У нас таксама быў саветнік. Амерыканец. Разумны. Але калі мы пераходзілі на бок урада, то здалі яго ўладам. Шкада, добры чалавек,— па-ўсходняму тонка закругліў тэму Анвар-хан.

Што гэта? Намёк? Пагроза? Папярэджанне?

Занепакоіўся і Абдула:

— Амерыка далёка, а Савецкі Саюз блізка. Рускія нашы даўнія сябры...

Абдула яшчэ нешта гаварыў, імкнучыся як бы прыглушыць і няёмкасць, і наш агульны неспакой.

(Заканчэнне на 30-й стар.).



# РАЗМОВА ЛЯ

Бадай, першае ўяўленне аб беларускім сядзібным інтэр'еры звязана ў нашай свядомасці з імёнамі Радзівілаў і Сапегаў, Кішкаў і Говартаў, Плятэр-Зібергаў, Энгельгартаў, Паскевічаў, а разам з імі і з імёнамі славутых еўрапейскіх дойлідаў: Бернардоні і Сака, Бекера і Глаўбіца, Спампані і Пёпельмана. У шматлікіх пакоях замкаў у Нясвіжы ці Міры меліся не толькі залы для баляў, музычныя і тэатральныя гасцёўні, але і галерэі карцін, рыцарскія залы, бібліятэкі і г. д. Абсталяванне жыццёвага асяроддзя людзей, якія адыгралі вялікую ролю ў гістарычным лёсе Беларусі, адпавядала самым высокім эстэтычным і мастацкім запатрабаванням сваіх часоў.

І ўсё ж пераважную большасць беларускай шляхты складалі паны, якія калісьці атрымалі дазвол прычапіць да пояса адзнаку свайго шляхецкага паходжання — шаблю, а цяпер больш налягалі на саху, аддавалі сваіх дзяцей на працоўнае выхаванне ў сялянскія сем'і. З добрай іроніяй можна ўспомніць і пана Быкоўскага з «Паўлінкі», і фанабэрыстую «Пінскую шляхту». Дробнае панства імкнулася падкрэсліць сваю высакароднасць, хоць па ўмовах жыцця і працоўнай дзейнасці стаяла блізка да простага народа. Невялічкі фальварак, засценак ці авулек выглядаў проста: сядзібны дом з ганкам на двух слупах і стромкай саламянай ці драніцнай страхой, насупраць ганка — невялічкі пляц з клумбай, у сярэдзіне якой узвышаўся слуп з сонечным гадзіннікам ці радавым гербам, некалькі свірнаў, лямус, сырніца. Вакол усяго гэтага — плот з брамай, далей — гаспадарчыя пабудовы (хлявы, піваварня, гумно), вось бадай і ўсё, чым валодаў сярэдні шляхціц. А колькі славутых, таленавітых людзей нарадзілася ў такіх невялікіх маёнтках, дзе чалавек адчуваў еднасць і з прыродай, і з простым людам,— Адам Міцкевіч (фальварак Завоссе на Навагрудчыне), Францішак Багушэвіч (Кушляны пад Смаргонню), Кастусь Каліноўскі (Мастаўляны) і многія іншыя.

Па сваёй планіроўцы фальварачны маёнтак быў блізкі да таго тыпу сялянскага жылля, які звычайна завецца хатай на дзве палавіны. У цэнтры такой пабудовы знаходзіліся ганак і сенцы, якія мелі скразное выйсце ў двор; злева і справа размяшчаліся жылыя пакоі. Адрозненне бадай што было ў колькасці пакояў, якая абумоўлівалася заможнасцю ўладара.

Наглядна ўявіць сабе тагачасную абстаноўку дапамагаюць педантычныя радкі старадаўніх інвентароў, якія перыядычна складаліся, каб засведчыць стан маёмасці гаспадара для вызначэння дзяржаўных падаткаў, афармлення продажу, арэнды ці спадчыны. Вось, напрыклад, інвентар панскага двара ў Смаргоні, які належаў жонцы Брэсцкага ваяводы Хрыстафора Зяновіча Хвядоры, датаваны 28 чэрвена 1621 года (даецца ў скарачэнні): «Вялікія двухстворкавыя вароты... Над варотамі вежка без шара. На гэтую вежку вядзе лесвіца... На шляху ад гэтых варот, на левым баку,— прысада з агароджай з пафарбаваных у чырвоны колер шчытоў. Ля ўвахода ў прысаду двухстворкавая брамка... Над гэтай брамкай крыты балкон з акном з дзесяці шкельцаў на петлях... На гэтым жа баку вялікі дом. Уваход у яго праз сенцы... Два акны з балясамі. У гэтых жа сенцах невялічкая скрыня на петлях. У гэтых жа сенцах — ачаг з невялічкімі трыножкамі і падстаўкамі.

З сянец уваход у вялікую сталовую святліцу... Пяць вялікіх акон. У кожным акне па дзевяць фортак... Аканіцы двухстворкавыя на жалезных петлях. Уздоўж сцен — лавы, тры сталы, табурэт. Буфет пафарбаваны ў зялёны колер... Буфет агароджаны балясінамі. Кафляная печка. Каля яе два ўслончыкі.

Уваход у пакой яго міласці праз дзверы на жалезных петлях з унутраным замком, кручкамі і дзвюма ручкамі. Каменны стол. Другі стол, інкруставаны дрэвам розных парод, з укленай шахматнай дошкай. Трэці столік малы, просты. Дзве лаўкі. Наверсе — мансарда з балясамі, афарбаванымі ў зялёны колер... У ёй малы пісьмовы стол... Печка кафляная. З гэтага пакоя ў другі — дзверы на петлях з унутраным замком і кручком... Стол сталярнай работы, і другі маленькі столік. Прыбіральня. Дзверы на петлях з кручком.

Ля ўвахода ў пакой яе міласці — дзверы на петлях з унутраным замком, кручком і дзвюма ручкамі. Адно вялікае дзевяцістворкавае акно. Двухстворкавыя аканіцы на петлях. Уздоўж сцен — лаўкі. Стол сталярнай работы. Другі стол ля печкі са скрынкай на ўнутраным замку. Печка кафляная. Каля яе дзве лаўкі.

З пакоя яе міласці ў другі пакой... Навокал лаўкі. Стол зялёны са скрынкамі на ўнутраных замках. Другі столік малы, фарбаваны, з унутраным замком. Ля каміна трэці столік. Камін цагляны. Нізенькі ўслончык сталярнай работы, каля выхаду з гэтага пакоя, збоку, маленькая святліца...

З гэтага пакоя ўваход у алькоў яе міласці... У ім малы зялёны столік... Два ўслончыкі для адзення, зялёнае крэсельца з малымі балясамі. Сядзенне абцягнута зялёным сукном з махрамі. Сам алькоў абцягнуты чорным сукном. Пяць зашклёных вокнаў на петлях з прутамі і кручкамі. Аканіцы, якія засоўваюцца, на пазах. Ля выхаду з гэтага пакоя ў сені — дзверы на петлях з кручком, ручкамі і ўнутраным замком. Зашклёнае акно з жалезнымі кратамі. Шафа з дзверцамі... З гэтых жа сянец уваход у святліцу... Просты столік. Кафляная печка...

Вакол гэтага дома галерэя з балясінамі... Пад гэтым вялікім домам дзве святліцы. Першая з бакоў прысады... Дзве лаўкі. Кафляная печка. З гэтай святліцы дзверы... у сенцы, дзе захоўваюцца дровы. Другая святліца каля падклеці. Перад уваходам у яе — сенцы... Просты стол, вакол лаўкі. Печка кафляная. Дзверы ў прыбіральню на круку.

Пад гэтым жа домам падклець... У гэтым доме чатыры вялікія трубы: тры трубы з жалезнымі кратамі. У пакоі перад альковам — камін».

Як бачым, асноўнымі памяшканнямі панскай сядзібы былі сенцы, сталовая, два вялікія пакоі іх міласцей, некалькі пакойчыкаў для гасцей і алькоў. Мелася характэрная для маёнткаў галерэя, цокальны паверх і падклець (відаць, склеп). Адразу заўважаеш характэрныя для таго часу дэталі інтэр'ера — наяўнасць камінаў, кафляных печаў, інкруставанай мэблі, аздабленне сцен сукном. Нават аканіцы ў той час яшчэ засоўваліся і, відаць, мелі паходжанне ад вокнаў курнай сялянскай хаты, якія закрываліся засаўкай (валаковыя вокны).

Неад'емным элементам маёнтка з XVIII стагоддзя становіцца бальная зала. Звычайна па плошчы яна была блізкай да вестыбюля і разам з ім стварала аб'ём, дзякуючы якому ўвесь план дома ўвогуле набываў форму крыжа. Вестыбюль і парадная зала стваралі ў планіроўцы прамавугольнік, падзелены на два квадраты. Але эпоха барока сфарміравала новае ўяўленне аб прасторы парадных памяшканняў: з'явіліся залы авальнай ці круглай формы. Можна меркаваць, што вытокамі такой моды маглі быць і стылёвыя рысы ратонды, прыстасаваныя для прасторы інтэр'ера. Акрамя сувязі з вестыбюлем, зала мела выхады ў анфіладу пакояў, бліжэйшыя з якіх маглі быць кулуарамі, аванзальнымі памяшканнямі, што павышала эмацыянальнае ўспрыманне інтэр'ернай прасторы да кульмінацыйнага моманту — выхаду ў залу.

Для будаўніцтва маёнтка выбіраліся заўсёды зручныя месцы з прыгожымі краявідамі. Нярэдка сядзібы ўзводзіліся на крутым беразе ракі, над поплавам, як, да прыкладу, маёнтак Хальч у Веткаўскім раёне (пачатак XIX стагоддзя) на левым высокім беразе Сажа. Адсюль адкрываецца цудоўная краявіды на шырокі поплаў з серабрыстай стужкай ракі, абшары лясоў, гарадок Ветку, які месціцца на другім беразе. І бачыць усё гэта можна дзякуючы прасторнаму балкону, упісанаму ў калонны порцік. Цёплым вечарам тут прыемна было з асалодай дыхаць паветрам з барой, любавацца зіхаценнем вады, слухаць прыгонных музыкаў.

Калі маёнтак знаходзіўся на пакатым схіле, каля ракі, як, напрыклад, сядзіба Сёмкава другой паловы XVIII стагоддзя, якую, як мяркуюць, будаваў славуты Карла Спампані, бальная зала магла мець вокны і выхад у парк, што таксама рабіла яе ўтульным месцам адпачынку.

Той жа Спампані ў XVIII стагоддзі збудаваў маёнтак Радзівілімонты (зараз вёска Чырвоная Зорка Клецкага раёна). Гэта бадай адзіны помнік драўлянай архітэктуры, які ўвасобіў так трапна і вытрымана далікатныя рысы класіцызму ў драўляным дойлідстве — яны і ў порціку дарычнага ордэра, у карнізных паясах і дзвярных і аконных ліштвах, і ў шалёўцы сцен, якая імітуе мураваную кладку «палаца». За порцікам — аванзала (вестыбюль), з яе парадныя дзверы вядуць у прасторную залу, якая на палову сваёй даўжыні выступае за лінію сцен будынка і мае паўакруглае завяршэнне з прасторнымі вокнамі. Дарэчы, сцены залы — мураваныя. Па баках яны маюць выхады ў сумежныя гасцёўні. Столь залы падтрымліваюць чатыры стромкія калоны. Налева ад залы, праз сені з лесвіцай на другі паверх,— выхад у калідор, паабапал якога размешчаны жылыя пакоі. У планіроўцы вылучаюцца дзве гасцёўні з калонамі, вуглавымі печкамі і камінамі і ўтульная камерная зала з альковам з чатырма калонамі карынфскага ордэра. У канцы левага крыла — мураваная паўцыркульная веранда з шыро-



● **Фрагмент кафлянай печы канца XIX — пачатку XX стагоддзяў.**

● **Камін у сталовай на сядзібе Добасна Кіраўскага раёна.**

● **Інтэр'ер бальнай залы ў маёнтку Вялікія Прусы Капыльскага раёна.**

**Фота з архіва Беларускага праектна-рэстаўрацыйнага інстытута.**

# КАМІНА



кімі вітражнымі вокнамі. Тут мелася і печка, гэта значыць, адпачывалі тут і зімой.

Інтэр'ер Радзівілімонтаўскага палаца можа служыць прыкладам, як жылую прастору драўлянай пабудовы можна ператварыць у казачны свет мастацтва і прыгажосці. Тут былі светлыя тынкаваныя сцены, аздобленыя карнізнымі паясамі, профілямі і роставеркамі з ордэрным арнаментам. Калоны іанічнага і карынфскага ордэра імітавалі каляровы мармур і граніт. Печкі і каміны мелі аздобу з кафлі, былі ўпрыгожаны мудрагелістымі карнізамі, пакрытымі пазалотай. Цёмныя тоны масіўнай мэблі яшчэ мацней падкрэслівалі белізну сцен, прасякнутую святлом утульнай прастору.

У канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзяў прафесар архітэктуры Віленскага універсітэта Міхал Шульц, а потым знакаміты дойлід Іосіф Пусье ўзводзяць у Залессі (Смаргонскі раён) мураваны палац у сядзібе Міхала Клеафаса Агінскага, таго самага, што ўдзельнічаў у паўстанні пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі і напісаў славуты паланез «Развітанне з Радзімай». І тут аблічча маёнтка створана ў лепшых традыцыях класіцызму. Цэнтральная частка палаца мела чатырохкалонны порцік, вежу з гадзіннікам на чатыры бакі. У шары, над вежай, змяшчаўся гадзіннікавы звон. Утульна спланаваная прастора перад маёнткам улетку набывала казачны выгляд: сюды выносілі з аранжарэі вазоны з экзатычнымі кветкамі і раслінамі (рыса характэрная для сядзібнага побыту XVIII—XIX стагоддзяў). З вестыбюля можна было трапіць у анфіладу парадных пакояў: музычны салон, ружовую гасцёўню, сталовую, більярдную. Далей — яшчэ адна гасцёўня, з якой можна было перайсці ў аранжарэю, дзе вырошчваліся самыя рэдкія экзоты. На другім паверсе знаходзілася бібліятэка і галерэя з вокнамі на парк, сажалку, звярынец.

Калі аздабленне маёнтка ў якім-небудзь фальварку, які налічваў некалькі чалядніка ў і вёску з дзесяці двароў, складалі атынкаваныя і пабеленыя сцены з цёмнымі паясамі дубовых філянговых панеляў, гэткая ж мэбля, то бытавая абстаноўка знакамітага ўладальніка, які ўвесь час знаходзіўся на казённай службе ў Варшаве, Вільні ці Пецярбургу, а сядзібай кіраваў толькі аканом, выглядала больш прывабна. У такіх маёнтках сцены ў XVIII — XIX стагоддзях упрыгожвалі шпалерамі, габеленамі, карцінамі з тонкага аксаміту, упрыгожанага арабескамі, якія выраблялісяна радзівілаўскіх мануфактурах у Міры і Нясвіжы, Альбе і Слуцку, мануфактурах Сапегаў у Ружанах і Дзярэчыне, на каралеўскіх мануфактурах Тызенгаўза ў Гародні. Над тэхналогіяй і арнаментыкай гэтых тканін працавалі майстры з Францыі і Германіі, Галандыі і Бельгіі, Швейцарыі і Аўстрыі. Для стварэння малюнка тканіны браліся не толькі мясцовыя, традыцыйныя ўзоры, а і сюжэты са славутых палотнаў сусветна вядомых мастакоў. Так, на Слонімскай мануфактуры Міхала Клеафаса Агінскага выраблялі тканіны накшталт французскіх, узору XV стагоддзя. Тканыя з тонкага аксаміту карціны ўпрыгожвалі сцены палаца Радзівілаў у Альбе.

Неад'емны элемент інтэр'ера маёнтка — кафляныя печы. Незвычайным попытам у XVIII стагоддзі карысталася паліхромная кафля мануфактуры М. К. Агінскага ў Целяханах і прадукцыя радзівілаўскай фабрыкі ў Свержані. Беларускія майстры не толькі ўвасобілі ў кафляных вырабах самабытныя нацыянальныя рысы, але і здолелі развіць і даць новую інтэрпрэтацыю матывам саксонскай і французскай кафлі.

Фаянс, фарфоравы і шкляны посуд рабілі асяроддзе і інтэр'еры гасцёўняў, сталовых, камінных і кабінетаў утульнымі, цешылі вока прыгажосцю форм і гульнёю святла. Паколькі ў XVIII стагоддзі рэдкі і дарагі кітайскі фарфор быў даступны далёка не ўсім, шырокае распаўсюджанне атрымалі маёлікавы посуд і, нарэшце, саксонскі фарфор. У XVIII стагоддзі М. К. Агінскі робіць спробу адкрыць фаянсавую мануфактуру ў Целяханах. У сярэдзіне XVIII стагоддзя ўжо дзейнічаюць фаянсавыя мануфактуры ў Гародні, Свержані, Карэлічах, на якіх вырабляюць вазы, сталовы посуд, пісьмовыя прыборы, цацкі і г. д. Са шкляных мануфактур былі шырока вядомы мануфактуры Радзівілаў ва Урэччы і Налібоках. Акрамя арнаменту посуд для парадных прыёмаў аздабляўся гравіраванымі манаграмамі, гербамі.

Дапаўнялі інтэр'ер маёнтка люстры і бра, кандэлябры і падсвечнікі. У іх формах і аздабленні ўжываліся розныя варыяцыі расліннага і зааморфнага паходжання, мудрагелістыя дэкаратыўныя элементы стылю барока і ракако. Крыштальныя люстры налібоцкіх майстроў карысталіся попытам і за межамі Беларусі. У модзе былі настольныя, насценныя, камінныя гадзіннікі, як правіла, замежнай вытворчасці. У мастацкім аздабленні футаралаў з дрэва, фарфору, бронзы выкарыстоўваўся кветкавы антураж, кампазіцыі з фігурамі анёлаў і міфічных істот. Стылі барока, ракако, ампіру, часам не вытрыманыя дакладна, заўсёды знаходзілі адлюстраванне ва ўнутраным убранні пакояў маёнтка.

Чалавечае жытло заўсёды красамоўна сведчыць пра густ і культуру яго гаспадароў. У інтэр'еры маёнткаў у поўнай меры адлюстраваліся густы, звычкі, інтарэсы тых, хто прадстаўляў розныя плыні беларускай нацыі: палітычную, эканамічную, культурную, духоўную. Але ствараліі гэтыя дэкаратыўныя шэдэўры, гэтае культурнае асяроддзе, у першую чаргу, тыя майстры, што працавалі ва Урэччы і Налібоках, Слоніме і Гародні, Слуцку і Копысі. Вось чаму сядзібы, якія з'яўляюцца помнікамі не толькі архітэктуры, але і прыкладнога і садова-паркавага мастацтва, сёння павінны быць выратаваны ад запусцення і закінутасці, недарэчнага прыстасавання пад склады і гаспадарчыя пабудовы.

Некалькі помнікаў сядзібнай архітэктуры захавалася, у прыватнасці, на тэрыторыі сённяшняга Мінска. Гэта маёнткі паноў Любанскіх у Лошыцы, Валенція Ваньковіча ў Верхнім горадзе і ў Сляпянцы, пана Курасава ў Белай дачы (зараз тут філіял мастацкага музея). Трэба чакаць, што хутка яны расчыняць перад наведвальнікамі дзверы сваіх салонаў і гасцёўняў, дзе калісьці віселі славутыя габелены і карціны, гучалі музыка і вершы ў асяроддзі, створаным рукамі вядомых і невядомых народных майстроў.

**Аляксандр ЛАКОТКА,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**● Інтэр'ер гасцёўні ў фальварку Кушляны. Дом-музей Ф. Багушэвіча.**

**● У залах музея народных рамёстваў у Белай дачы — былой сядзібе пана Курасава.**

**Фота Яўгена КОКТЫША**
**і з архіва Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры.**















**Раіса БАРАВІКОВА**

З аповесцей

# ПРА МІЖПЛАНЕТНАГА ПАЖАРНІКА

*Ад аўтара*

*Завуць яго мамурык. І шукаць яго трэба, калі б ён спатрэбіўся, на планеце Мамурыя, дзе заўсёды жылі і, напэўна, жывуць і цяпер — мамуры. Да гэтага трэба дадаць яшчэ адно. Калі я расказала пра яго знаёмай дзяўчынцы, яна адразу сказала, што мамурыкам яго завуць таму, што ён увесь час каля мамы. Але гэта няпраўда. Мама яго не перастае непакоіцца: «Дзе ён? Дзе ён? Дзе ён?» І знайсці яго не так і проста.*

*Калі б нават нехта на ўвесь вялікі неабдымны Космас з усёй сілы крыкнуў: «А-у-у-у!» — мамурык наўрад ці адгукнуўся б. Па-першае, ён мог бы быць недзе вельмі і вельмі далёка, а па-другое, ён заўсёды настолькі заняты сваёй справай, што здаецца, нішто не можа яго адарваць ад яе. Асабліва ў пару зарападу.*

*У мамурыка ёсць пікі-пак. Ён нечым падобны да зямнога верталёціка, але кабіна ў яго ўся празрыстая.*

*Астранаўты на шматлікіх касмічных трасах нярэдка прымаюць яго за страказу і заўсёды здзіўляюцца: «Адкуль узялася страказа ў Космасе?!»*

*Але гэта не страказа. Гэта проста пікі-пак. Так аднойчы назваў яго мамурык. І гэта было тады, калі мамурык упершыню вылецеў у Космас, але не дзеля звычайнай цікавасці.*

*У мамурыка ёсць сачок, амаль такі ж самы, якім усе дзеці на Зямлі ловяць матылёў. Але мамурык матылёў не ловіць. Ён ловіць зоркі. Тыя самыя зоркі, якія нехта ў пару зарападу назваў на Зямлі знічкамі. Таму што зоркі ў пару зарападу ляцяць... ляцяць... і знікаюць. Ды гэта няпраўда. Нікуды яны не знікаюць. Іх ловіць сваім сачком мамурык. І робіць ён гэта толькі дзеля таго, каб нідзе, ні на адной планеце, куды можа ўпасці неслухмяная зорка, не ўзнікла пажару.*

*Калі пра гэта я расказала сваёй знаёмай дзяўчынцы, яна адразу сказала:*

*— Ах, ды ён жа не проста мамурык! Ён жа яшчэ і міжпланетны Пажарнік!*

*І я пагадзілася з ёю.*

*Мамурыка сапраўды можна назваць міжпланетным Пажарнікам, і я прапаную маленькім чытачам часопіса «Беларусь» урывак, які называецца*



## ЭКСТРЭМАЛЬНАЯ СІТУАЦЫЯ, У ЯКОЙ АПЫНУЎСЯ МІЖПЛАНЕТНЫ ПАЖАРНІК

Мамурык усё яшчэ глядзеў на экран, чакаючы, што сімпатычная галоўка з чырвонымі банцікамі з'явіцца зноў, таму што адлюстраванне раптоўна знікла. Але перад ім, на экране, была толькі звыклая карціна Космасу. І ён паглядзеў у акенца, спадзеючыся, што хоць на знічкі яму пашанцуе, якія тут, у гэтых вышынях, амаль зусім не трапляліся.

Знічак не было, затое раптам паблізу блiснула яркая ўспышка і праз нейкае імгненне пачуўся моцны грукат.

Успышка паўтарылася.

Мамурык паглядзеў на экран — там было цёмна. Увогуле, ніякага адлюстравання. І тут мамурык ажно задрыжаў. Ён выразна пабачыў за акенцам пасмачкі дыму, так яму здалося.

— Я, напэўна, пралятаю непадалёку ад газападобнай зоркі,— падумаў мамурык.— Але ж мінулы раз яе не было на маім шляху. Няўжо памылілася Бамбарыза!

Успышкі рабіліся больш яркімі. Грукат чуўся над ім і пад ім. Пікі-пак трымцеў, ды так, што любы хлопчык альбо дзяўчынка, якія выпадкова апынуліся б у ім, маглі падумаць, што яны зусім і не ў Космасе, а на моры, дзе пачаўся страшны шторм.

Мамурык разгубіўся. Ён глядзеў то за акенца, то на экранчык і не ведаў, што яму трэба рабіць. Ён баяўся, што ўрэжацца ў газападобную зорку. І тут мільганула выратавальная думка: у мяне ж на пікі-паку ёсць ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ, маленечкі камп'ютэр, які можа растлумачыць, што да чаго! Праўда, ён помніў і словы Вялікага мамура, які нярэдка гаварыў, што да паслуг Энцыклапедыі трэба звяртацца ў самай экстрэмальнай сітуацыі. Ды хіба ж гэтая сітуацыя не экстрэмальная?

Камп'ютэр-Энцыклапедыя быў побач з кнопачкамі радыёсувязі, і міжпланетны Пажарнік імкліва націснуў на тры маленечкія клавішы, набіраючы словы: УСПЫШКА, ГРУКАТ, ДЫМ! Праз некалькі хвілін пачуўся хрыплаваты голас камп'ютэра:

— Прычын для хвалявання няма! Ляці па вызначаным маршруце! Ты трапіў у навальнічныя аблокі! Пад імі — планета!

Камп'ютэр-Энцыклапедыя замоўк.

— Ах, навальнічныя аблокі! — з палёгкаю ўздыхнуў мамурык і ўспомніў, як аднойчы Вялікі мамур гаварыў, што ёсць планеты, у атмасферы якіх адбываюцца падобныя з'явы. Як жа ён сам не здагадаўся пра гэта! І мамурык зноў паглядзеў у акенца.

Цяпер пад ім калыхалася роўнядзь. На ёй можна было разгледзець цёмныя квадрацікі і больш светлыя лініі. Але гэта працягвалася толькі імгненне. Акенца пікі-пака пакрывалася кропелькамі, якія расплываліся, і мамурык не мог ужо бачыць, што было ўнізе. Ды дастаткова было і таго аднаго імгнення, каб ён хутка націснуў на кнопачку мяккай пасадкі.

Пікі-пак набліжаўся да паверхні Зямлі, і міжпланетны Пажарнік пакуль яшчэ не ведаў, што ён прызямліцца непадалёку ад таго ўзлеску, дзе цяпер знаходзілася Брыся, і што была яна ў самым адчайным становішчы. Але гэта ўжо новая частка аповесці пра мамурыка, якога адна мая знаёмая дзяўчынка назвала міжпланетным Пажарнікам.



ЭКАЛАГІЧНЫ

КУТОЧАК

Уладзімір ЯГОЎДЗІК

# БУСЕЛ

Напэўна, вясёлы жартаўнік прыдумаў гэты жарт. Ён кароценькі. Ты яго, дружа, адразу запомніш.

Ходзіць бусел па балоце,
Работы не мае.
Траву смыча,
Дзюбай тыча
Ды ўсё пазяхае.

Між тым ад буслава пазяхання не надта весела жывецца жабам, вадзяным жукам ды ўсялякім казюркам, мышам-палёўкам. І не толькі ім. Часам нават гадзюкі і вужы трапляюць на спажыву цыбатаму паляўнічаму. А паляваць яму даводзіцца з самага ранку да позняга вечара. Асабліва на пачатку чэрвеня, калі ў гняздзе-капелюшы з'яўляцца бусляняты — жывыя пухнацікі. Птушаняты апераюцца і растуць хутка. Абы хапала корму. Праз два месяцы ў бусляняцы становіцца цесна. Чарнадзюбыя маладыя буслы нецярпліва падскокваюць у гняздзе, ускідваюць над сабою крылы — спрабуюць іх сілу.

Неўзабаве прыходзіць празрысты жнівеньскі дзень, калі ўся бусліная сямейка пакідае роднае жытло. У канцы жніўня, перад вандроўкай у далёкую Афрыку, буслы збіраюцца ў вялікія чароды і падоўгу кружацца ў небе. Высока-высока, пад самымі воблакамі. Проста над буслянкамі. Так яны развітваюцца з радзімаю да наступнай вясны.

А ці ведаеш ты, мой дружа, адкуль з'явіліся на нашай зямлі буслы і чаму яны любяць жыць па вёсках, сярод людзей? Не чуў? Тады слухай.

Калісьці вандраваў па белым свеце добры чараўнік. І заблукаў ён на Беларусь. Бачыць — прыгожая тут зямля. Векавыя пушчы, ураджайныя палеткі, не злічыць рэчак і азёраў... Адно кепска: развялося шмат розных паўзучых гадаў. Жыцця ад іх няма ні людзям, ні жывёле. Паспачуваў дабрадзей нашым прашчурам. Узяў вялізную торбу і сабраў туды рознае плюгаўства. Ніводнай жабы і гадзюкі не пакінуў.

Вядома, стаміўся ад такой нялёгкай работы. Не хапіла сілы самому падняць і занесці тую торбу, каб укінуць у бяздонную багну-дрыгву. Таму і гукнуў на падмогу хлопца, які сена касіў на лузе. Узваліў яму чараўнік торбу на спіну ды загадаў не развязваць па дарозе.

А дзяцюк, як на тое, аказаўся вельмі цікаўны. Закарцела яму зірнуць, што ў торбе варушыцца ды сыкае. Схаваўся ён за бухматы куст вербалозу і развязаў торбу. Як развязаў — дык самлеў ад страху. Гады тым часам вылезлі і зноўку распаўзліся па ўсёй зямлі.

Добры чараўнік не схацеў другі раз з імі пэцкацца. Начапіў ён парожнюю торбу неслуху-касцу на плячо — выправіў яго збіраць выпушчанае плюгаўства. Толькі дзяцюк злавіў першую жабу — як ператварыўся ў бусла.

З таго часу і дыбае бусел, нібы касец, па лугах-балотах. Босы, з чырвонымі нагамі, у белай кашулі і з чорнаю торбаю за спінай. Потым чараўнік зліітасціўся над небаракам, паслаў яму на падмогу жонку-бусліху і дзетак-буслянят. А жыць дазволіў у вёсцы, сярод людзей, каб не забыліся, што вядуць свой пачатак ад чалавечага роду. Людзі таксама помняць пра гэта, таму ніколі не крыўдзяць буслоў, шануюць іх, як родных братоў.

# Спічынка

**РАЗ, ДВА, ТРЫ, ЧАТЫРЫ...**

Раз, два, тры, чатыры,
Кошку грамаце вучылі:
Не чытаць, не пісаць,
А за мышкамі скакаць.

**СЕМ СЕМЯРЭЙ...**

Сем семярэй
І сямёра свіней.
Свінка і свінчын брат
І сямёра парасят.

**САЛОМІНКА**

Саломінка,
Яромінка
Прэла,
Гарэла,
На мора
Ляцела.
Касцюк,
Масцюк,
Радзівон,
Выйдзі вон.

Алесь БАДАК

## *КАМАР*

Ох і цяжкі
Камарыны лёс!
У яго ж
Такі даўжэзны нос!

Гэта вам не смешкі,
У аўторак
Пралятаў камар
Праз наш надворак.

Зачапіўся носам ён
За плот
І зваліўся
Прама ў агарод.

Патаптаў там
Шчаўе і цыбулю.
Добра,
Хоць не бачыла
Бабуля!

Ох, відаць,
Тады б ужо нямала
Ад бабулі
Камару папала!

## *ПАВУЧОК І КОНІКІ*

1

У траве гулялі ў хованкі
Конікі
І парвалі свае новыя
Штонікі.
І пайшлі яны прасіць
Сябрука,
Працавітага шаўца,
Павучка.
І сказалі яму сумныя
Конікі:
— Калі ласка, зашый нашы
Штонікі!

2

Уздыхнуў павучок:
— Ох і гора мне!
Ну няўжо вам ніколькі
Не сорамна?!
За адзін толькі тыдзень
Парвалі
Тры кашулі
І восем сандаляў!
Вы парвалі
Дванаццаць штаноў,
І сягоння прынеслі іх
Зноў!

3

Прабубнілі яму
Конікі ў адказ:
— Ну ў апошні-прыапошні
Раз!
А кашулі мы свае
Папарывалі,
Калі сцежку каля лесу
Падмяталі.
А дванаццаць парвалі
Штонікаў,
Калі з рэчкі выцягвалі
Сонейка.
А сандалі свае мы
Парвалі,
Калі разам з ваўком
Танцавалі.
Вось прыходзь заўтра
З намі гуляць,
Мы навучым
Цябе
Танцаваць!



Малюнкі
Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.
Фота Дзмітрыя ЛУПАЧА.

● І ўсё ж тут вырасце дрэва дружбы. Здымак зроблены ў горадзе Імам-Сахіб.



(Заканчэнне. Пачатак на 24-й стар.).

Па нейкім не заўважаным мной знаку тыя ж чацвёра хутка прыбралі чай і прынеслі вячэру: вараную і смажаную бараніну, курэй, плоў, гародніну і фрукты. Нам паставілі залатыя посуд, прыборы. «Што ж, раз у жыцці і з золата не грэх паесці»,— падумаў я, накладваючы ў свае блюда гарачыя кавалкі мяса...

Званая вячэра закончылася. Трэба ад'язджаць. Усе выйшлі правесці нас.

З палёгкай пакідалі мы гэты кішлак. Належала, праўда, адолець тыя ж кіламетры ў адваротным накірунку.

А на дарозе па-ранейшаму стаялі «Таёты» з ДШК: людзі Анвар-хана былі на месцах.

Калі пад'язджалі да брыгады, Абдула весела заўважыў:

— Добра ўсё-ткі, што яны не стралялі пры праводзінах!

Зірнуўшы на яго, я падумаў, што гэта быў не проста жарт.

# АПОШНІ ДЗЕНЬ

Ішоў чацвёрты дзень нашай работы ў пагранічнай брыгадзе. На двух верталётах мы лямалі па батальёнах і пастах, сустракаліся з людзьмі, спрабуючы скласці рэальнае ўяўленне аб надзейнасці прыкрыцця граніцы.

Над пустыняй гэта не было асаблівай праблемай: на вышыні ў 10—15 метраў мы былі застрахаваны ад душманскіх ракет.

Да вечара мы разлічвалі перабрацца ўжо ў іншую брыгаду. Гэта недзе каля гадзіны лёту. Небяспечна, але не больш чым заўсёды: пойдзем нізка, не губляючы часу на набор вышыні. Праўда, некалькі кіламетраў прыпадуць на «зялёнку».

Генерал Абдула, які добра валодаў рускай мовай, заспакоіў:

— Прарвёмся! Няхай рыхтуюць верталёты. А я пакуль перагавару з камандаваннем брыгады.

І адступіўся ад групы афіцэраў, якія сабраліся на двары.

Пад'ехала аўтамашына, і афіцэр, які выскачыў з яе, далажыў Абдуле, што прызямліўся самалёт, яны яго прытрымалі, і калі мы хочам, дык можам даляцець да месца на самалёце.

— Ну, што будзем рабіць? — звярнуўся да мяне Абдула.— Можа, паляцім на самалёце?

— А які самалёт?

— Ён кажа: Ан-32. Добрая машына, хутка набірае вышыню, паталок нармальны.

— Добра, паляцім на самалёце.

Абдула загадаў, каб верталёты загрузіўшы параненых, сёе-тое з грузу, адляталі.

Хвілін праз пятнаццаць мы выехалі на аэрадром.

Мы моўчкі адзяваем парашуты, падцягваем лямкі.

Урэшце ўзлятаем. Робіцца крыху халадней.

Самалёт кругамі ходзіць над аэрадромам, набіраючы вышыню. Праз кожныя пяць секунд з шыпеннем разлятаюцца па баках цеплавыя ракеты, якія адстрэльваюцца нашым самалётам.

— Святочны феерверк,— вымаўляе нехта, але жарт завісае ў агульным маўчанні.

Побач перакладчык ніяк не здолее падагнаць і замацаваць лямкі парашута. Гэта яго першы палёт.

Хвіліны праз тры, крануўшы мяне за плячо, перакладчык нясмела пытаецца:

— Добра. Уявім, што мы паспеем выскачыць, парашуты раскрыюцца, удала прызямлімся, а ўнізе — душманы. Што рабіць?

— Страляць,— як мага больш спакойна адказваю я.— Калі паспееце... А пакуль лепш паспіце.

— Паспрабую,— ён прыхінуўся да абшыўкі і заплюшчыў вочы.

А самалёт працягваў закручваць спіраль, выходзячы на бяспечную вышыню.

Праз паўгадзіны палёту ўнізе паказаліся гарадскія пабудовы. Самалёт рэзка спікіраваў да зямлі і хутка сеў.

Ні сустракаючых, ні машын — нікога...

— У гэтай брыгадзе, паважаны саветнік, ніколі не было парадку. Я асабіста гаварыў з камандзірам брыгады пра наш прылёт, і вось бачыце! — Абдула нервова захадзіў па полі.

— Супакойцеся. Рознае здараецца,— паспрабаваў я зняць напружанне.— Трэба знайсці машыну і дабрацца да брыгады.

На пошукі транспарту адправілі двух афіцэраў, якія неўзабаве вярнуліся да нас на «Таёце». Сяк-так размясціўшыся ў ёй, паехалі ў гарнізон брыгады.

Калі мы зайшлі ў кабінет камандзіра брыгады, той ускочыў, як уджалены, і неяк дзіўна ўтаропіўся ў нас.

— У чым справа, палкоўнік?! — ледзь стрымліваючы сябе, спытаў Абдула.

— Мы вас сустракалі. Мы больш за гадзіну былі на аэрадроме. Але сорак хвілін назад мне паведамілі, што верталёт, на якім вы ляцелі, збіты гранатамётам у раёне Каджакі. Экіпаж і пасажыры згарэлі. Я накіраваў туды разведроту.

Мы пераглянуліся.

«Вясёленькая гісторыя,— падумаў я.— Зноў зладзейка памылілася».

І дадаў уголас.

— Тут, шаноўны Абдула, трэба кіравацца адным правілам: чым менш мы будзем гаварыць пра свае планы, тым больш будзем жыць!

— Гэта правільна, вельмі правільна,— задуменна прамовіў ён, асядаючы на крэсла.



● На вайне як на вайне...

— У муніцыпальную паліцыю,— загадаў камісар шафёру.
У муніцыпальнай паліцыі Мегрэ адразу ж накіраваўся ў аддзел кадраў. Праз некалькі хвілін яму паведамілі, што паліцэйскі па прозвішчы Машэр сапраўды служыў тут сяржантам, але яго забілі два гады назад у вулічнай бойцы. Пражываў у той час на вуліцы Даменіль. Удава атрымлівае пенсію. Дзяцей няма.
Мегрэ запісаў адрас. І, пазваніўшы ў аддзяленне, выклікаў да тэлефона Люка.
— Ну як, гаспадыня нікому не званіла?
— Не яшчэ.
— А ёй?
— Ёй — не. Званілі адной з жанчын, Вользе, наконт прымеркі сукенкі.
Мегрэ вырашыў паабедаць пазней. Ён выпіў у бары шкляначку аперытыву і зноў сеў у машыну.
— На вуліцу Даменіль.
Ехаць прыйшлося доўга. Будынак быў бедны, стары.
— Скажыце, калі ласка, дзе жыве пані Машэр? — спытаўся ён у кансьержкі.
— На пятым паверсе, налева.
Ліфт падымаўся рыўкамі — здавалася, зараз спыніцца між паверхамі.
Вельмі чысты дыванчык перад дзвярамі, зіхоткая медная ручка. Мегрэ пазваніў. Недзе ў глыбіні кватэры пачуліся крокі.
— Хвілінку! — Жанчына, мабыць, надзявала сукенку. Відаць, гаспадыня была не з тых, што сустракаюць гасцей у халаце.
Адчыніўшы дзверы, яна моўчкі паглядзела на Мегрэ.
— Камісар Мегрэ.
— Праходзьце.
Было відаць, што прыход такога госця ўсхваляваў жанчыну.
Яна была такая, якой і ўяўляў яе сабе Мегрэ: высокая, мажная, спакойная. Акуратна прычасаныя валасы, строгая сукенка, усе гузікі зашпілены.
Паркет ззяў.
— Я вам тут напэцкаю...
— Нічога страшнага.
Абсталюнак прыкладна такі ж, што і ў доме Турэ. Амаль такія ж забаўкі на палічках. Фатаграфія паліцэйскага, да рамкі прымацаваны медаль.
— Я прыйшоў пагаварыць з вамі пра пана Луі.
— Я гэтага чакала.
Яна не заплакала, хоць твар у яе быў маркотны.
— Сядайце, калі ласка.
— Дзякую. Вы былі блізкімі сябрамі, ці ж не так?
— Ён быў вельмі добры да мяне.
— І толькі?
— Магчыма, кахаў мяне. Ён жа ніколі не быў шчаслівы ў сям'і.
— Ваша сувязь пачалася з таго часу, як вы працавалі ў Капланаў?
— Што вы?.. Тады быў яшчэ жывы мой муж.
— І Турэ нават не спрабаваў зблізіцца з вамі?



# Чалавек на лаўцы

У дзесяць яны былі ўжо перад домам Турэ. Ля ганка, на незаасфальтаваным тратуары стаялі людзі пад парасонамі. Усяго іх было чалавек пяцьдзесят. Віднеліся людзі і ў суседніх дварах.
Спачатку прыбыў катафалк. Затым таропкімі крокамі прайшлі святар і хлопчык, які нёс крыж.
Нішто не спыняла парываў ветру, мокрая адзежа прыставала да цела. Труна адразу ж намокла.
— Нікога не пазнаеш? — запытаўся Мегрэ ў Невэ, калі працэсія рушыла.
Невэ пакруціў галавою.
Жанчына, якой Турэ падараваў пярсцёнак, напэўна, не прыйшла. Праўда, на адной жанчыне быў лісіны каўнер, але камісар заўважыў яе яшчэ раней, калі яна выходзіла з дому насупраць і запірала дзверы на ключ. І з прысутных мужчын нікога нельга было ўявіць завсёднікам лавак на бульварах.
І усё ж Мегрэ застаўся на пахаванні да канца.
Камісар двойчы сустрэў позірк Монікі. І кожны раз адчуваў, як сціскаецца яна ад страху.
На могілках было па калена гразі: магілу выкапалі на новым участку, куды яшчэ не праклалі дарожкі.
Калі пані Турэ сустракалася позіркам з камісарам, яна кожны раз уважліва аглядвала прысутных, паказваючы, што памятае аб ягонай просьбе. Калі ён падышоў да сям'і, якая выстраілася ў рад ля магілы, каб выказаць спачуванне, удава шапнула:
— Я нікога не заўважыла...
У камісарыяце было сыра і холадна, на падлозе віднеліся брудныя сляды.
— Нічога новага, Люка?
— Званіў Лапуэнт. З бістро на плошчы Рэспублікі. Ён знайшоў пакой.
— Пакой Турэ?
— Ён так думае. Але гаспадыня не надта гаваркая.
— Выклікалі яе сюды?
— Не. Можа, вы самі лепш туды сходзіце?
Мегрэ і праўда думаў пайсці да Лапуэнта, а не сядзець тут у кабінеце.
Калі Мегрэ ўвайшоў у бістро, ён адразу ж знайшоў Лапуэнта: той сядзеў ля каміна і піў каву.
— Адзін грог! — заказаў камісар.
— Дзе гэты пакой? — запытаўся ён у Лапуэнта.
— За два крокі адсюль. Знайшоў зусім выпадкова. Дом у спісах не значыцца.
— Ты не памыліўся?
— Не. На вуліцы Ангулем я ўбачыў аб'яву: «Здаецца пакой». Трохпавярховы дом, без кансьержкі. Я пазваніў і папрасіў паказаць пакой. Гаспадыня ў гадах, колісь, мусіць, была прыгажуня, але цяпер сівая,

Жорж СІМЯНОН. Працяг. Пачатак у №№ 1—4.



плашча і шпагі, два-тры дэтэктывы. Відаць, дэтэктывы яму не спадабаліся і ён перастаў іх чытаць.
Крэсла стаяла ля акна. Побач маленькі столік. На ім — фатаграфія жанчыны гадоў сарака з чорнымі валасамі ў чорным. Напэўна, гэта быў здымак тае жанчыны, пра якую казаў прадавец з ювелірнага магазіна. На ім яна — такая ж мажная. Такіх кабет у пэўным асяроддзі лічаць прыгожымі.
— Гэта яна прыходзіла?
— Яна.
У шуфлядзе стала камісар знайшоў яшчэ некалькі здымкаў. На адным з іх Турэ быў у сваім «экстравагантным» капелюшы.
Ніякіх іншых асабістых рэчаў, апрача дзвюх пар шкарпэтак і некалькіх гальштукаў, у пакоі не было — ні кашуль, ні трусоў, ні папер, ні лістоў — нічога.
Мегрэ паставіў крэсла да шафы, стаў на крэсла і зазірнуў на самы верх шафы. Там быў густы слой пылу, які, аднак, не паспеў яшчэ асесці на квадраце памерам прыблізна з канверт. Відаць, на гэтым месцы ляжала зусім нядаўна нейкая рэч. Але камісар нічога не сказаў гаспадыні, якая ўважліва назірала за ім.
— У яго быў ключ ад пакоя?
— Не. Калі ён выходзіў, то пакідаў ключ мне.
— Іншыя жыльцы таксама пакідаюць вам ключ?
— Не. Але пан Луі казаў, што ён усё губляе і няхай лепш ключ застаецца ў мяне. Мне гэта зусім не замінала: ён жа ніколі не вяртаўся ні ўвечары, ні ўначы.
Мегрэ выняў з рамкі фатаграфію жанчыны і паклаў яе ў кішэню. Потым напаіў канарэйку, пахадзіў яшчэ трохі па пакоі.
— Я, можа, яшчэ прыйду да вас.
— Не стану прапаноўваць вам шкляначку,— сказала гаспадыня ўнізе.— Вы, напэўна, спяшаецеся?
— У вас ёсць тэлефон? Дайце мне, калі ласка, нумар. Можа, мне прыйдзецца пазваніць, каб што-небудзь запытаць.
— Бастылія 22-51.
— Вашае імя?
— Марыета. Марыета Жыбон.
— Дзякуй.
— Усё?
— Пакуль што ўсё.
Лапуэнт і Мегрэ нырнулі ў машыну. Дождж усё ліў і ліў.
— Збочвай за рог і спыніся,— загадаў камісар шафёру і дадаў — Лапуэнту:
— Зараз ты вернешся да гэтай кабеткі. Я забыў у пакоі люльку.
Мегрэ ніколі і нідзе не забываў люлькі. Да таго ж, у яго іх заўсёды было з сабою дзве.
— Наўмысна?
— Вядома. Пасакачы з гэтай Марыетай колькі хвілін і вяртайся сюды,— паказаў Мегрэ на невялікі бар і, выйшаўшы з машыны, рушыў да тэлефоннай будкі.



— Доўга ён у вас жыў?
— Прыкладна два гады. Можа, трохі болей.
— У вас шмат жыльцоў?
— Вядома. Мне адной дом задужа вялікі. А ў наш час кватэру знайсці нялёгка.
— Колькі ж іх у вас?
— Цяпер — тры.
— Але адзін пакой свабодны?
— Той самы, што я паказвала гэтаму малойчыку.
— Што вы ведаеце пра пана Турэ?
— Ціхі і сціплы чалавек. Нікому не замінаў. Працаваў уначы...
— А вы ведаеце, дзе?
— Я яго ні аб чым не распытвала. Ён сыходзіў увечары і вяртаўся ўранку. Спаў вельмі мала. Я яму часта казала, што трэба спаць болей. Але мне здаецца, што ўсе яны так, хто ўначы працуе — мала спяць.
— Ён шмат зарабляў?
— А што вас, уласна, цікавіць?
— Вы ж чытаеце газеты?..
На століку ляжала разгорнутая ранішняя газета.
— Бачу, куды вы гняце. Але спярша паабяцайце, што ў мяне не будзе непрыемнасцей. Ведаю я паліцыю...
Мегрэ падумаў, што кабета павінна быць у картатэцы Аддзела нораваў.
— Я ж не рэкламую сваіх жыльцоў на кожным кроку. Не рэгіструю іх. Гэта не злачынства. Але калі вы пачняце выкручваць мне нервы...
— Усё будзе залежаць ад вас.
— Вы абяцаеце?.. Дарэчы, у якім вы чыне?
— Камісар Мегрэ.
— Ого! Зразумела. Гэта сур'ёзней, чым я думала. Мяне турбуюць вашы калегі з Нораваў.— Яна адпусціла ў іхні адрас такое слоўца, што Мегрэ з Лапуэнтам пераглянуліся.
— Ну, добра. Ведаю я, што яго забілі. Але больш — нічога.
— Як ён назваўся вам?
— Проста — пан Луі.
— Да яго прыходзіла жанчына? Чарнявая, сярэдніх гадоў?
— Прыходзіла. Прыгожая, гадоў сорак, умее сябе трымаць.
— Часта прыходзіла?
— На тыдзень тры ці чатыры разы.
— А прозвішча яе вы ведаеце?
— Я называла яе пані Антуанэт.
— Вы, я бачу, прывыклі называць людзей па імені.
— Я не цікаўная.
— Яна, калі прыходзіла, надоўга заставалася ў яго?
— На колькі трэба.
— На паўдня?
— Як калі. Іншым разам — на гадзіну-дзве.

аблезлая, тоўстая. Выйшла да мяне ў халаце. Перш чым упусціць мяне, запыталася, ці здымаю я пакой сабе асабіста і ці адзін буду жыць. Пакуль яна са мною перагаворвалася, на другім паверсе прыадчыніліся дзверы, і я заўважыў вельмі вабную дзяўчыну, таксама ў халаце.

— Бардэль?

— Не зусім. Але мне здалося, што гаспадыня з гэтымі справамі знаёмая. Пакуль падымаліся наверх, яна запыталася, як я збіраюся плаціць — штомесяц ці часцей, дзе я працую. Пакой — вокнамі на двор. Абсталюнак неблагі. Праўда, як на мой густ, дык зашмат таннага шоўку і аксаміту. Лялька на канапе. У пакоі пахла яшчэ, так бы мовіць, жанчынаю. Гаспадыня пацікавілася, хто мне даў адрас. Я ледзь не прагаварыўся, што даведаўся па аб'яве. Шчыра кажучы, мяне ўвесь час бянтэжыла адна з яе цыцак: яна ўсё выслізгвала з халата. Я сказаў, што паведаміў мне пра пакой адзін мой сябра. І што сябра гэты жыве ў яе. Яна запыталася, хто. Калі я назваў Турэ, то адразу зразумеў, што яна яго ведае. Яна і з твару змянілася, і голас стаў іншы. «Не ведаю,— кажа,— такога!» Як адрэзала. А потым пытаецца, ці няма ў мяне звычкі позна вяртацца дамоў. Было ўжо відаць, што вырашыла пазбавіцца ад мяне. Але я прыкінуўся прасцячком. Кажу: «Можа, мой сябра яшчэ тут? Ён удзень не працуе і позна ўстае». Але яна мне: «Дык вы будзеце здымаць пакой ці не?» Буду, кажу. «Плата наперад». Я дастаў кашалёк і, нібыта выпадкова, выняў фота Турэ. «А,— кажу,— вось і фота майго сябра». Яна зірнула і кажа: «Не, мы, відаць, адно аднаму не падыдзем». І пайшла да дзвярэй. Я хацеў затрымаць яе, але яна папрасіла пакінуць яе ў спакоі, у яе, бачыце, абед на пліце можа згарэць. Так і развіталіся... Шэф, ды я проста ўпэўнены, што яна яго ведала! Калі я выйшаў на вуліцу, фіранка зварухнулася: яна назірала за мною.

— Едзем! — сказаў Мегрэ.

Хаця дом быў за два крокі адсюль, пад'ехалі на машыне. Гаспадыня, якая выйшла адчыніць дзверы, была ўсё ў тым жа халаце.

— Хто там?

— Паліцыя.

— Што вам трэба? — Зірнула коса на Лапуэнта.— Так і ведала, што нажыву сабе бяду з гэтым малакасосам.

— Думаю, нам будзе зручней перагаварыць у доме.

— А я і не збіраюся трымаць вас на ганку. Мне ад вас хаваць няма чаго.

— Чаму вы не прызналіся, што пан Турэ быў вашым жыльцом?

— Таму, што гэта яго не датычыць,— зноў змерыла яна Лапуэнта нядобрым позіркам.

Яна ўвяла іх у невялікую гасцёўню. Усюды ляжалі стракатыя падушачкі з вышытымі на іх кошачкамі, сэрцайкамі і скрыпічнымі ключамі. Вокны былі занавешаны шчыльнымі шторамі, і гаспадыня запаліла святло.

— Дык што вам ад мяне трэба?

Мегрэ выняў з кішэні фатаграфію Турэ.

— Гэта ён?

— Ён. Вы і без мяне ўсё ведаеце.



— Люка, гэта ты?.. Аддай адразу ж загад, каб праслухоўвалі нумар Бастылія 22-51.

Прытуліўшыся да стойкі бара, Мегрэ паціху пацягваў кальвадос і разглядваў фатаграфію жанчыны. Яго зусім не здзівіла, што каханкаю Турэ была жанчына таго ж тыпу, што і ягоная жонка. Але які ў яе характар? Можа, і ён такі ж?..

— Вось ваша люлька, шэф.

— Яна не гаварыла па тэлефоне, калі ты зайшоў?

— Не заўважыў. З ёю былі дзве жанчыны.

— Можаш ісці абедаць. Убачымся ў аддзяленні.

Мегрэ назваў шафёру адрас панны Леон. Па дарозе спыніліся ў кандытарскай, дзе ён купіў скрыначку шакаладных цукерак.

— Вашай маці,— сказаў ён панне Леон.

— О, вы падумалі пра яе! Можа, вы ёй самі дасце?

— Прабачце, я да вас на хвілінку. Я толькі хацеў бы паказаць вам гэтую фатаграфію.

Ледзь зірнуўшы на яе, панна Леон усклікнула:

— Ды гэта ж пані Машэр!

Гэта быў ужо нейкі поспех!

Значыцца, такую жанчыну ведалі ў асяроддзі Луі Турэ. Так Мегрэ думаў раней, і цяпер гэта пацвердзілася. Такі чалавек, як Турэ, не стаў бы заводзіць знаёмства з выпадковай жанчынаю.

— Адкуль вы яе ведаеце?

— Яна працавала ў Капланаў. Нядоўга. Недзе з паўгода. А чаму вы паказалі яе фатаграфію?

— Гэта была сяброўка пана Луі.

— А!..

Мегрэ разумеў, што жанчыне гэта цяжка пачуць, але інакш нельга.

— У той час, калі яны абое працавалі ў Капланаў, вы нічога паміж імі не заўважылі?

— Магу паклясціся, што нічога паміж імі тады не было... Ведаю, што яна была замужам за паліцэйскім.

— Чаму яна звольнілася?

— Здаецца, ёй прышлося аперыравацца.

— Вялікае вам дзякуй. Прабачце, што зноў вас патурбаваў.

— Што вы, зусім вы мяне не патурбавалі. Скажыце толькі, калі ласка... Пан Луі, ён што, сапраўды меў нешта з гэтай жанчынай?

— Яна прыходзіла да яго ў пакой, які ён здымаў у Парыжы.

— Я ўпэўнена, што паміж імі нічога не было. Яны проста сябравалі.

— Магчыма.

— Калі засталася дакументацыя фірмы, я дапамагу вам знайсці адрас гэтай жанчыны. Але ж я не ведаю, што з ёю стала, з дакументацыяй.

— Раз яна была жонкаю паліцэйскага, адрас мы знойдзем. Вы сказалі, яе прозвішча Машэр?

— А імя, калі я не памыляюся,— Антуанэта.

— Дзякую, панна Леон. Да пабачэння.

— Да пабачэння.

Мегрэ спінаю адчуваў, што жанчына разгублена глядзела яму ўслед.



— А ўранку прыходзіла?

— Можа, калі і прыходзіла, я не помню.

— Вы яе адрас ведаеце?

— Ніколі не пыталася.

— Іншыя вашы жыльцы — жанчыны?

— Пан Луі быў адзіны мужчына.

— Ён з імі меў зносіны?

— Любоўныя? Такіх не было. Мне здаецца, ён да гэтага не быў ахвотнікам. Можа, калі б захацеў...

— Але ён заходзіў да іх?

— Яны, бывала, заходзілі да яго папрасіць запалак, цыгарэт ці газету.

— І ўсё?

— Ну, яны гаманілі пра сёе-тое. Часам ён нават гуляў у карты з Люсіль.

— Яна наверсе?

— Не. Бадзяецца недзе дні ўжо два. З ёй гэта здараецца. Мабыць, знайшла сабе некага. Але памятаеце, што вы мне абяцалі? Каб ні ў мяне, ні ў маіх жыльцоў не было ніякіх непрыемнасцей.

Мегрэ хацеў быў сказаць, што нічога не абяцаў, але змаўчаў.

— А апрача гэтай кабеты, ніхто да яго не прыходзіў?

— Нядаўна нехта пра яго пытаўся, разы са два.

— Маладзіца?

— Ага. Яна не стала падымацца наверх. Папрасіла перадаць, што чакае ўнізе.

— Яна назвалася?

— Монікай. Яна засталася ў калідоры, нават у гасцёўню не прайшла.

— Ён спусціўся да яе?

— Першы раз пра нешта з ёю пашаптаўся, і яна пайшла. А другім разам і трэцім выйшаў з ёю.

— Не сказаў вам, калі вярнуўся, што за яна?

— Спытаўся толькі, ці спадабалася яна мне.

— І што вы адказалі?

— Сказала, што цікавая, як зазвычай у яе ўзросце, але што праз некалькі гадоў гэта будзе сапраўдная кабыла.

— А хто яшчэ прыходзіў?

— Дайце ўспомніць... Прыходзіў адзін чалавек. Малады. Не назваўся. Я перадала пану Луі, што яго чакаюць унізе. Пан Луі, здалося, расхваляваўся і папрасіў мяне правесці госця наверх. Гэты маладзён прабыў у яго хвілін дзесяць.

— Даўно гэта было?

— У сярэдзіне жніўня. Памятаю, была спякота і процьма мух.

— Ён прыходзіў яшчэ калі-небудзь?

— Неяк разам прыходзілі, усё роўна як на вуліцы сустрэліся. Разам падняліся наверх, але хлопец хутка выйшаў.

— Усё?

— Мне здаецца, я і так нагаварыла пад самую завязку. Думаю, вам таксама цікава падняцца наверх?



— Вядома.

— Пан Луі займаў пакой насупраць таго, які я паказвала вашаму памочніку. Вокны выходзяць на вуліцу.

— Правядзіце, калі ласка.

— Не забывайцеся, што абяцалі.

Мегрэ паціснуў плячамі.

— Калі пракруціце мяне, я заяўлю на судзе, што вы маніце.

Скрозь шчыліну прыадчыненых дзвярэй, міма якіх яны праходзілі, камісар заўважыў маладую жанчыну, зусім голую, з махнатым ручніком у руках.

Павярнуўшыся да яе, гаспадыня сказала:

— Не бойся, Івета, гэта не з Нораваў!

## 5. Сяржантава ўдава

Велізарная шафа з люстрам займала амаль увесь пакой. Гэтай масіўнай мэблі з арэхавага дрэва было, напэўна, гадоў пяцьдзесят сама меней. Яе купілялі няйначай як на аўкцыёне.

На стале, накрытым цыратаю, стаяла клетка з канарэйкаю.

— Гэта ягоная канарэйка?

— Ягоная. Ён прынёс яе з год назад. Але яго падманулі: падсунулі замест самца самку, яна не спявае.

— А хто тут прыбіраў?

— Я здаю пакоі з мэбляю і бялізнаю, але прыбіральшчыцы няма. Некалі былі пакаёўкі, але з імі шмат клопату. Дый жывуць у мяне пераважна жанчыны...

— Пан Луі сам прыбіраў?

— Ён запраўляў ложак, выціраў пыл. Раз на тыдзень, дзеля яго, я мыла тут падлогу.

Камісар адчуваў, што для Турэ гэты пакой быў прытулкам душы. Усё, што ён прыносіў сюды, мела не простае побытавае прызначэнне — яно адбіралася з асабістым, нават патаемным густам.

У шафе не было касцюма, але затое ў ім стаялі тры пары жоўтых чаравікаў. На століку ляжаў трохі экстравагантны, як для Турэ, капялюш, амаль новы, відаць, набыты ім з пратэсту. І, мабыць, з таго ж пратэсту куплены былі стракаты халат і чырвоныя пантофлі.

— А пан Турэ не хадзіў на скачкі?

— Не думаю. Пра гэта ён мне нічога не казаў.

— А ён часта з вамі гаварыў?

— Часцей на хаду. Але іншы раз заходзіў у гасцёўню і мы гаманілі.

— Ён быў вясёлы чалавек?

— Жыццю ён радаваўся.

Усё ў пакоі было на сваім месцы, нідзе ні пылінкі. У адной шафе Мегрэ знайшоў пачатую бутэльку партвейну і два келіхі. На вешалцы вісеў плашч: натуральна, не мог жа Турэ вяртацца ў Жувізі мокры, калі ўдзень ішоў дождж?

Было нямала кніг. Яны стаялі ў рад на куфры: танныя выданні, раманы

# ВАСЬКА

**Зінаіда ДУДЗЮК**

**АПАВЯДАННЕ**

Апошнім часам Ваську нядужылася, а сёння дык увогуле не было ніякай ахвоты нават хвастом варушыць, такая слабасць і разбітасць чуліся ва ўсім целе. Аднак гаспадар не надта прыслухоўваўся да яго настрою, усцягнуў каню на галаву хамут, запрог у аглоблі, сеў на вазок і знай патузвае лейцы ды час ад часу сцябае пугай.

— Но, гіцаль! Застаяўся за ноч, лайдак стары!

Васька сапраўды зажыўся на гэтым свеце. Па чалавечых мерках пара б яму на заслужаны адпачынак, але ў коней выбар не надта багаты: або рабі, або на бойню. Вось і цягне ён вазок няроўна, штуршкамі, матляе раз-пораз галавою. Моташна каню, цяжка. Даўно гаспадар не мыў і не чысціў яго. Ваську здаецца, што ён ужо наскрозь прасмярдзеў свінарнікам, дзе яму далі месца на стойла.

Гаспадар яго, Нехадзімавіч, так клічуць чалавека ў гарадку, а ў пашпарце ён Нікадзімавіч, таксама нагадвае зашмальцаваны, стары рубель у сваёй вечна аблезлай і абшарпанай адзежыне, прапахлай памыямі, якія ён звозіць з гарадскіх сталовак на свінаферму. Словам, два боты — пара, але пара такая, што ў гарадку іх ведаюць усе: старыя і малыя. Дзеці любяць каня, і як дзед не бачыць, стараюцца прычапіцца ззаду да вазка і праехацца трохі. А дарослыя глядзяць на Ваську па-рознаму: хто з пагардай, хто са спачуваннем, хто абыякава. І толькі каля піўнога бара, як здаецца каню, усе яму рады, усе яго паважаюць. Таму ён не прамінае выпадку, каб не спыніцца тут. Вось і сёння, хоць лаецца гаспадар і сцябае пугай, каля бара конь стаў, нібы ўкопаны.

— Но, алкаш! Ліха тваёй матары! — злуецца Нехадзімавіч.— Няма ў мяне сёння ні капейкі, не дала баба.

Васька не разумее, нашто тыя грошы, калі асабіста яго людзі і так частуюць. Вось ужо цягнецца да яго нечая рука, гладзіць за вухам, голас у мужыка лагодны:

— Васька прыйшоў, сябар сардэчны! Гэй, хлопцы, у каго што засталося, злівайце ў мой бакал, пачастуем добрага чалавека.

Мужчыны зліваюць у адну пасудзіну недапітае піва, нехта нават гарэлкі капнуў, гамоняць, смяюцца, абступаюць каня. Дабрадзей урачыста падносіць Ваську бакал. Конь звычным рухам, з насалодай, апускае морду ў бакал, смачна цягне да сябе. У адзін момант піва як не было.

— Малайчына, Васька! Сапраўдны мужык! — рагоча дабрадзей і ляпае каня па шыі.

— Што яму бакал, такому, можа, і вядра мала,— заўважае другі.

— А давай праверым! Скінемся на вядро піва!

— Годзе з жывёлы здзекавацца,— абрывае мужчын Нехадзімавіч.— Напоіце, а мне пасля на сабе бітоны вазіць, ці што? Лепш мне пазычце, хто не скупы, пару капеек, нешта ў горле перасохла.

Пакуль Нехадзімавіч пазычае грошы і п'е піва, Васька хмялее і весялее. Ён іржэ, шчэрыць шчарбатую зяпу, пахітвае галавой з боку на бок, пераступае няпэўнымі нагамі. Міма праходзіць жанчына, і ён хапае яе за рукаў жоўтымі зубамі. Тая адскочыла ўбок, пачала лаяцца, але конь глядзіць на яе з пагардай: «Дурная баба! Жартаў не разумее!». Каню ўжо не стаіцца на месцы, ён нецярпліва чакае гаспадара, асалавелыя вочы няўцямна глядзяць на белы свет.

Яшчэ Нехадзімавіч не паспеў уваліцца ў вазок, а Васька ўжо крануў з месца, рушыў подбегам, з п'яным пахістваннем.

— Но, саколік! — падбадзёрвае памаладзелы і падабрэлы гаспадароў голас, і Ваську радасна і прыемна чуць яго.

Вазок хвацка развярнуўся і спыніўся каля «чорнага» ўвахода сталоўкі. Нехадзімавіч споўз з воза, зазірнуў у дзверы, гукнуў:

— Дзе тут мая Пятроўна? Хадзі, хадзі, галубка, абдыму ды бусьну.

На парозе з'яўляецца мажная, разгарачаная ад пліты, кабета ў кароткім белым халаце, з накрухмаленым каўпаком на галаве. Яна ўся свеціцца дабрынёй, хоць надае голасу строгасць:

— Вой, Нехадзімавіч, каб цябе бяда не буськала, свавольнік ты, грэх старому чалавеку...

— Э, ластавачка мая, дык уначы ж не відно, стары ты ці малады,— смяецца ў адказ Нехадзімавіч.

— Бессаромнік, спярша зубы ўстаў, а пасля заляцайся.

— Калі я зубы ўстаўлю, дык мне ад дзевак адбою не будзе, зусім галаву затлумяць...

— А я ўжо даўно баюся, каб хто з нашых дзяўчат не закахаўся, прападзе, засохне. Так што забірай хутчэй свае бітоны ды едзь ад бяды далей. А гэта я каню вядзерца падрыхтавала, пакармі яго.

Пакуль гаспадар ставіў на воз цяжкія бітоны з памыямі ды весела перакідваўся словам з Пятроўнай, Васька апаражніў вядро пойла, узняў мурзатую морду. На вусах павісла ружовая, з баршчу, капуста, над правым брывом — макароніна. Конь задаволена чмыхнуў і абтрос недаедкі.

— Слухай, Нехадзімавіч, а мой бацька некалі казаў, што конь з бруднага вядра вады піць не будзе, а твой памыі хлебча...

— Мы людзі простыя, у нас на закуску і цвікі ідуць.

— Зноў каля бара прычасціліся? — з жалем пытаецца жанчына.

— Ды так, трохі для настрою...

— З кім павядзешся, ад таго і набярэшся,— спачувальна ківае галавой Пятроўна.— Які гаспадар, такі і конь.

— Эх, маладзічка, старасць не радасць! Каб ты бачыла, які я хлопец быў. За мной дзеўкі цугам бегалі. Бывала як прайду з гармонікам па вёсцы, ажно гай зашуміць. Я і зараз гармонікам ратуюся. Разззлуецца на мяне баба з-за нейкага глупства, пачне лаяць, а я схаплю гармонік, як урэжу польку, тут яна ўжо і плача, і скача.

— Навошта ж талент губіш? Пайшоў бы ў рэстаран іграць, хоць заробак меў бы...

— А што ты думаеш? Каб мне які дыпломчык, дык я вучонага перайграю. Самавук я, Пятроўна, пасля вайны не да вучобы было, каб хоць як выжыць ды хлеба кавалак зарабіць. Тады такіх памыяў не было, дзе хлеб з баршчом напалавіну... Цяжкі быў час. У калгасе па шэсць капеек на працадзень давалі. Колькі сезонаў на Украіну папаездзіў, ніякай работы не цураўся, пакуль хату паставіў ды дзяцей пагадаваў. А цяпер вось аказалася, што на пенсію пара, а стажу не хапае, хоць усё жыццё цягнуў, як вол. Такая штука, Пятроўна! — гаворыць Нехадзімавіч і лацвей уладкоўваецца на возе.— Будзь здарова, галубка!

— Шчаслівa! — адказвае Пятроўна і знікае за дзвярамі.

Ад выпітага і з'едзенага Ваську ахоплівае млявая ленасць. Ён заплюшчвае вочы і дрэмле пад ласкавым жнівеньскім сонцам.

— Но, пайшоў! — чуецца за яго спінай, і тузаюцца лейцы.

Васька перасільвае сябе і кранае з месца, ледзь-ледзь перастаўляе ногі.

— Но, лайдак! — злуецца гаспадар.— Ні сыты, ні галодны не цягне! Скаціна несвядомая!

— Сам такі! — адмахваецца хвастом ад пугі Васька.

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.



## СЛУЖБА



## ЎЗАЕМАДАПАМОГІ

**Ідуць і ідуць пісьмы ва «Узаемадапамогу». Наша сувязь з чытачом — трывалая і ўзаемна карысная. Але часам бываюць і непаразуменні. Як правіла, яны адбываюцца ў тых выпадках, калі чытачы не абцяжарваюць сябе знаёмствам з умовамі работы нашай службы. Таму яшчэ раз нагадваем: перш чым узяцца за ліст ва «Узаемадапамогу», уважліва прачытайце ўмовы яе работы. Апошні раз яны былі надрукаваны ў № 1 «Беларусі» за гэты год, з некаторымі ўдакладненнямі ў № 2.**

### ПАДАРЫЦЕ МНЕ ПУДЗЕЛЯ

Загінуў мой любімы сабака — блакітны пудзель Джымі. Жыў ён у нас чатыры гады, і зараз без яго сумна да слёз. Бацькі адмаўляюцца зноў купляць такога дарагога шчанюка. Дык можа, хто наважыцца падарыць мне яго?

**Віталік** (316).

### «КАЛІ ВАША «СЛУЖБА» НЕ МІФ...»

У пяць адрасоў накшталт вашай «Службы ўзаемадапамогі» накіроўвала я ўжо свае душэўныя споведзі. І — ніякага водгуку. Вырашыла рызыкнуць яшчэ раз, апошні, калі ваша «Служба» не міф, шаноўная «Беларусь».

Можа, сярод вашых абанентаў ёсць чалавек, які стаміўся ад адзіноты, якому холадна нават у самыя цёплыя дні, якому здрадзілі і які згодзен на перапіску з дабрадушнай, шматпакутнай, адзінокай душой?

Крыху пра сябе. Зведала ўсе беды, якія можа ўгатаваць лёс звычайнай смяротнай істоце — страту самых родных і блізкіх людзей, агідную здраду каханага, чорную няўдзячнасць сяброў. Я жыла для людзей, але выявілася, што гэта нікому не было патрэбна.

Не стаўлю ніякіх умоў.

**Яніна** (317).

### РОЗДУМ ЗА КРАТАМІ

З чаго пачаць? З таго, бадай, пра што можна гаварыць лёгка і спакойна. Завуць мяне Генадзь. Мне 29 гадоў. Беларус. Сярэдняга росту. Вельмі люблю чытаць, асабліва вершы, а таксама слухаць музыку, як сучасную, так і народную, беларускую.

А цяпер пра тое, што шмат гадоў каменем ляжыць на душы, точыць сэрца, пра што рука не паднімаецца пісаць.

Справа ў тым, што гэты ліст я пішу з калоніі ўзмоцненага рэжыму, якая знаходзіцца на тэрыторыі Латвіі. Жыццё склалася так, што чатырнаццаць гадоў назад я, мая маці, якая другі раз выйшла замуж, і мая малодшая сястрычка пераехалі жыць з Беларусі ў гэтую рэспубліку. Тут я скончыў школу, вучылішча, але прымяніць свае веды на карысць людзям не давялося. За ўдзел у бойцы, якая трагічна скончылася для аднаго з удзельнікаў, трапіў у турму, а потым і ў калонію.

Здаецца, самае страшнае ўжо ззаду: увосень заканчваецца тэрмін майго пакарання. Толькі ці не страшней наперадзе? Што мяне чакае? Адзінота? Поўная бесперспектыўнасць? Знявага і грэбаванне людзей?

Ад такіх думак хочацца пераступіць крайнюю мяжу. Ратуе адно — надзея. Надзея на тое, што на мой ліст адгукнецца чулая і мужная жанчына, якая здолее зразумець мяне, паверыць, якая дапаможа цвёрда стаць на ногі. Няхай яна будзе крыху старэйшая за мяне, няхай у яе будзе дзіцятка — паладзім. Абяцаю, што буду варты яе даверу.

Вельмі чакаю лістоў з роднай старонкі.

(318).

### ШТО Ў ПРОЗВІШЧЫ МАІМ?

Цікаўлюся паходжаннем прозвішчаў людзей. Гэта надзвычай захапляльны і карысны занятак. Колькі нечаканага адкрыў для сябе! Але, што самае дзіўнае, пра паходжанне свайго прозвішча пакуль нічога не дазнаўся. А яно даволі звычайнае для беларуса — Матусевіч. Можа, хто падкажа?

**Васіль** (319).

### АДКАЖЫЦЕ, ЗОРКІ!

Адразу пра самае балючае: я інвалід па зроку. Але хаджу, пішу і чытаю сам.

А яшчэ — бачу на небе зоркі і таямнічыя сузор'і. Вельмі люблю паэзію А. Пушкіна, М. Цвятаевай, С. Ясеніна, А. Вазнясенскага. З задавальненнем слухаю музыку. Займаюся спортам — бегам, усходнімі відамі барацьбы.

Маю 27 гадоў, рост 174 см, хударлявы, валасы светла-русыя, вочы блакітныя. Знешнасць у мяне самая звычайная. Да таго ж я празмерна сарамяжлівы. Таму, відаць, і безнадзейна адзінокі.

Але ж я перакананы, што змагу зрабіць шчаслівай жанчыну, якая прыме мяне такім, які я ёсць. На небе я знайшоў сваю любімую зорку. А на зямлі?..

**Г. А.** (321).

### ШУКАЮ СЯБРОЎ ПА ПЕРАПІСЦЫ

З дапамогай вашага часопіса спадзяюся знайсці новых сяброў. Мне 27 гадоў. Завуць Ларыса. Маю медыцынскі дыплом. Захапляюся музыкай, кіно, люблю чытаць. Мой адрас: 210001, г. Віцебск, вул. Камсамольская, 18/4—22. **ГАЛУЗА Ларыса.**

Мне 16 гадоў. Захапляюся музыкай, у тым ліку творчасцю груп «Міраж», «Зоркі», «Шакалад». Але больш за ўсіх шаную «Ласкавы май». Добра малюю і вельмі люблю пісаць пісьмы. Адгукніцеся, мае будучыя сябры і сяброўкі!

Мой адрас: 223644, Мінская вобласць, Слуцкі раён, в. Буда-Грэская, дом 25. **ДУБІНА Святлана.**

### ДА ЎВАГІ ТЫХ, ХТО ШУКАЕ ЗГУБЛЕНЫХ У ВАЙНУ РОДЗІЧАЎ

**У №№ 2—4 «Беларусі» былі надрукаваны сабраныя нямецкімі сябрамі спісы савецкіх людзей, якія ў гады другой сусветнай вайны былі воляю лёсу закінуты на нямецкую зямлю і знайшлі ў гэтай зямлі свой апошні прытулак. Спісы паступілі ў Мінскі гарадскі камітэт абароны міру, а намеснік старшыні камітэта Людміла Паленава перадала іх рэдакцыі.**

**Працягваем распачатую публікацыю. Можа, нехта знойдзе тут прозвішча, якое яго зацікавіць. За далейшымі даведкамі звяртайцеся ў рэдакцыю.**

**Майце, дарэчы, на ўвазе, што ў напісанні тых ці іншых імёнаў і прозвішчаў могуць быць памылкі, зробленыя пры перакладзе нямецкімі таварышамі.**

| | |
|---|---|
| **САФАНАЎ Абхалак** | 1921—20.05.1945 |
| **АГАПАЎ Пётр** | 20.12.1916—22.12.1944 |
| **АНДРАШЫШУК Мікалай** | 25.12.1925—26.04.1945 |
| **БАБАЕЎ Паса** | 08.08.1921—26.05.1945 |
| **БЕЛОНСАВА Дар'я** | 17.03.1877—20.01.1944 |
| **БЯЦУРКА Пётр** | ? —05.04.1945 |
| **БЯЛАЕЎ Іван** | 15.06.1901—27.01.1945 |
| **БАГДАНАЎ Леанід** | 17.04.1918—26.06.1945 |
| **БАРОЎСКІ Уладзімір** | 02.02.1916—10.11.1944 |
| **ЧЭХАЎ Піліп** | 23.10.1907—27.06.1945 |
| **СЕРНАМЕРЫС Іван** | 01.09.1907—11.06.1945 |
| **ЧАРНЯЎСКІ Іван** (у іх перакладзе — Серняваскі) | 05.07.1925—20.04.1945 |
| **ЧАНАЎ Р.** | 20.10.1910—06.05.1945 |
| **ДАЦЭНКА Маруся** | 1938—28.02.1944 |
| **ДЗЯМЕНЦЬЕЎ Дзмітрый** | 08.02.1913—07.04.1944 |
| **ДЗЕРГАЛЕЎ Анатоль** | 05.12.1927—06.03.1945 |
| **ДЗЕВАЦЕНКА Ханна** | 29.03.1921—22.04.1945 |
| **ДЗІТАЎ Юзэф** | 14.08.1919—23.02.1943 |
| **ДАЎБНЯ Насця** | 25.09.1920—08.12.1944 |
| **ЕЎДАКІМАЎ Іван** | 19.05.1888—01.04.1945 |
| **ФЕДАЦЕНКА Галя** | 01.01.1942—13.04.1944 |
| **ГАЎРЫЛАЎ Грыгорый** | 18.01.1910—22.12.1944 |
| **ГЛЕБАЎ Міхаіл** | 15.10.1899—04.05.1945 |

Падрыхтавала **Алена ШАБАЛІНА.**

Фота **А. САРДАРАВА.**



# МОДА ПА ГАРАСКОПУ

*«Трэба адчуваць крокі культуры, але не зігзагі спешчанасці».*
*А. І. і М. К. РЭРЫХІ.*

**ВЫПУСК ДРУГІ**

Як вядома, вялікі ўплыў на выбар фасону адзення дый увогуле на манеру апранацца робяць асаблівасці фігуры чалавека. У поўнай меры гэта датычыцца і людзей, народжаных пад знакамі **вады і агню.** Найбольш яркім прыхільнікам устойлівых звычак і традыцый у модзе можна смела назваць **ваду.** Высокія, мажныя прадстаўнікі гэтага знака, звычайна не вельмі рухомыя і актыўныя ў жыцці, і ў модзе апошнімі рэагуюць на яе змены. Даволі кансерватыўныя па характару, яны часта да глыбокай старасці прытрымліваюцца той манеры апранацца, таго стылю ў модзе, які выпрацавалі для сябе ў маладосці.



Нагадаю, што **вада,** паводле арабскага гараскопа, займае ў календары наступныя інтэрвалы часу:

**20 лютага — 19 сакавіка**
**20 чэрвеня — 19 ліпеня**
**20 кастрычніка — 19 лістапада**

І ў будні, і ў свята мужчыны **вады** лепш за ўсё адчуваюць сябе ў строгім аднатонным касцюме з гальштукам. Колеравыя спалучэнні, характэрныя для іх, таксама падкрэсліваюць іх заўсёдную вытрыманасць, спакойную ўпэўненасць у сабе. Гэта колеры чорны, цёмна-сіні, цёмна-шэры, якія дапамагаюць назапашваць біяэнергію, а таксама садзейнічаюць раўнамернаму яе размеркаванню паміж вонкавай абалонкай (вопраткай) і арганізмам. Урэшце, гэта дапамагае засяроджваць увагу на аб'екце, які вывучаецца, і лепш зразумець яго глыбінныя працэсы (асабліва ў сферы фундаментальных навук і міжасабовых адносін).

З асаблівай увагай прадстаўнікі **вады** павінны адносіцца да выбару гальштука. Яркі, кідкі гальштук можа выклікаць залішні прыліў энергіі і раздражненне гаспадара. **Вадзе** лепш падыходзяць гальштукі, у якіх прысутнічаюць адценні сіняга, цёмна-блакітнага, шэрага і чорнага колераў. Тлумачыцца гэта тым, што гальштук мацуецца пад каўняром кашулі і робіць энергетычны ўплыў на шыю, галаву і грудзі мужчыны. Кашуля можа быць белай, светла-блакітнай, цёмна-сіняй, з някідкай палоскай, дробным узорам — галоўнае, каб усе гэтыя дэталі гардэроба пасавалі адна да адной.

Жанчыны знака **вады** ў адрозненне ад сваіх сябровак **зямлі** і **паветра** вызначаюцца буйнымі памерамі (асабліва з гадамі) і непераборлівасцю ў выбары адзення. Гэтыя паважныя, памяркоўныя і, як правіла, эканомныя жанчыны звычайна захоўваюць у сваіх шафах тое, што даўно выйшла з моды, і час ад часу вяртаюцца да старых любімых рэчаў. Гэта звычка ашчаджаць вопратку, не вельмі зважаючы на патрабаванні моды, сёння, калі паліцы нашых магазінаў пустыя, паставіла прадстаўніц **вады** ў выгаднае становішча: ім яшчэ надоўга хопіць прыхаваных у шафе ўбораў, каб выглядаць калі не экстравагантна, дык прыстойна. Дый заўсёды можна нешта перашыць або перавязаць.

Нельга аднак думаць, што жанчынам **вады** не ўласціва жаданне апранацца прыгожа. Яны імкнуцца заўсёды выглядаць элегантнымі, дакладна прытрымліваюцца сваёй колеравай гамы, якая як мага лепш адпавядае іх камплекцыі, фігуры, самавітасці. Іх любімыя колеры — сіні, цёмна-блакітны, шэры, а таксама іх адценні. Агульнапрызнана, што **вадзе** шкодзіць чырвоны колер і ўсе яго адценні (акрамя цёмна-бардовага) — як энергаакумулятар ён дапамагае назапашваць лішнія зарады, ад якіх няпроста пазбавіцца. У выніку ўнутранай разладжанасці чалавек пачынае нервавацца, раздражняцца, абвастраюцца гіпертанія, сардэчныя захворванні, павялічваецца назапашванне соляў і тлушчаў. Менш падыходзяць «вадзяным» колеры карычневы і бэжавы. Адносна бэзавага заўважана, што ён здольны часова палепшыць настрой **вады** ў пахмурнае надвор'е.

Якія ўпрыгажэнні больш за ўсё падыходзяць **вадзе?** Сярод камянёў я б аддаў перавагу бірузе, малахіту, ізумруду, яшме, аквамарыну. Сярод металаў у **вады** выбар не такі ўжо багаты. У лепшым выпадку ёй адпавядае серабро, асабліва з чарненнем. Блакітна-зялёна-сінія камяні ў срэбнай аправе лепшая біжутэрыя знака **вады.** Гэтыя ўпрыгажэнні дапамагаюць аднаўляць псіхалагічную раўнавагу, пазбаўляцца за 28—30 гадзін ад лішкаў біяэнергіі. Яны надаюць свежасць твару, мяккасць скуры і ўвогуле ўзнімаюць настрой. Карацей кажучы, прасачыце за вашымі ўпрыгажэннямі і вызначыце, ад чаго залежыць ваша здароўе і поспех у навакольных.



Параметры **агню,** калі вы памятаеце, наступныя:

**20 сакавіка — 19 красавіка**
**20 ліпеня — 19 жніўня**
**20 лістапада — 19 снежня**

Не вельмі патрабавальныя ў выбары мадэлей, фасонаў, варыянтаў адзення, якія адпавядаюць модзе, людзі **агню** валодаюць адметнай асаблівасцю: ва ўсім, што апранае на сябе чалавек гэтага знака, прысутнічае дух лідэра, гучыць пратэст супраць агульнапрынятых норм. Вопратка можа быць звычайнай, але манера яе нашэння, некаторыя нечаканыя дэталі і аксесуары адразу сведчаць, што яе гаспадар — чалавек валявы, моцны целам і духам. Пра гэта ж гаворыць і колер адзення.

Любімы колер мужчын **агню** — чорны, прымальныя ўсе цёмныя тоны, кантрастныя спалучэнні, клетка (чырвона-карычневыя, чорна-чырвоныя, ружова-жоўтыя колеры). Гэта колеравая гама неабходна **агню** для ўплыву на іншыя знакі і для назапашвання энергіі, неабходнай для кампенсацыі энергастрат у паўсядзённым жыцці. Справа ў тым, што энергаабмен у **агню** адбываецца прыкладна ў два разы хутчэй, чым у **вады,** у паўтара раза — чым у прадстаўнікоў знака **зямлі,** і толькі ў нямногім саступае **паветру.** Аднак працэс самааднаўлення ў **агню** адбываецца больш эмацыянальна і патрабуе большых затрат жыццёвых сіл, чым у **паветра.** Вось чаму цёмныя тоны проста неабходны **агню** — яны з'яўляюцца своеасаблівымі накапляльнікамі энергіі.

У цёплую пару года мужчыны **агню** могуць насіць і светлыя касцюмы, лепш з някідкай клеткай, але пры гэтым, не адчуваючы поўнай гармоніі з сабой, бо энергія сонечных промняў у асноўным ідзе ў прастору. Нейтральныя для іх шэрыя тоны, бэзавы, непажаданы зялёны, блакітны, сіні. Добра ўжываецца з **агнём** уся палітра чырвонага колеру, карычневы, жоўты, аранжавы.

**Агонь** адчувае сябе ўтульна ў касцюме англійскага тыпу, але абавязкова з яркім гальштукам, нярэдка чырвоным, які з'яўляецца не чым іншым, як тварэннем халерыкаў. Гэта не проста атрыбут адзення для іх, гэта спосаб прыцягнуць увагу і энергію навакольных.

Жанчыны **агню** рэдка выкарыстоўваюць для сваіх убораў цёмныя тоны, больш характэрныя для іх яркія, кантрастныя спалучэнні чырвонага (ад пунсовага да бардовага), карычневага, жоўтага, бэжавага колераў. Для іх таксама непажаданы колеры блакітны, сіні, зялёны, якія прыгнятаюць іх актыўнасць і дзелавітасць.

Жанчыны **агню** не так абмежаваны ў выбары стылю і фасонаў, як мужчыны гэтага знака. Іх гардэроб разнастайны і арыгінальны, у ім сустрэнеш і дзелавыя строгія касцюмы, прамыя сукенкі, традыцыйныя пінжакі і створаныя ўласнай фантазіяй блузкі, жакеты, сукенкі-паліто, вырабы з мяккай замшы і лёгкага шоўку. Прадстаўніц гэтага знака лёгка пазнаеш у натоўпе не толькі па арыгінальным уборы, але і па лёгкай, нязмушанай манеры насіць нават самую простую сукенку. Гэткі ж своеасаблівы падыход у жанчын **агню** і да прычоскі — яны ўмеюць мадэрнізаваць і перарабіць па-свойму любую модную стрыжку, а нярэдка і стварыць уласную мадэль. Да прыкладу, так званы «каскад кудзерак» з'яўляецца цудоўным праяўленнем характару жанчын **агню,** асабліва актыўнага агню (20 ліпеня — 19 жніўня).

Мінералы чырвоных адценняў — рубін, гранат, радзей агат — з'яўляюцца ўпрыгажэннямі **агню.** Усё гэта можна насіць на руках, на вопратцы, на шыі, у вушах. Вялікі прыліў энергіі дае **агню** янтар, які далёка не на ўсіх людзей робіць дабратворны ўплыў. Напрыклад, ён рэдка падыходзіць **зямлі,** амаль не падыходзіць псіхафізіялагічным асаблівасцям **паветра,** прымальны для **вады** і цудоўна ўжываецца з **агнём.** Лепшыя з металаў для прадстаўнікоў гэтага знака — золата і медзь. Спалучэнне названых камянёў і металаў павінна прыносіць удачу і здароўе людзям **агню.**

Сяргей **АНУПРЫЕНКА,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

**ДЫЯГАНАЛЬ** Аддзел вядзе заслужаны трэнер БССР А. РАКІТНІЦКІ.

# ГЭТА БЫЛО, БЫЛО...

## 1. БЛІСКУЧАЯ ЗАДАЧА.

У Маладзечне меліся адбыцца мая лекцыя і сеанс адначасовай гульні ў шашкі. Сярод шматлікіх аматараў сустрэў Івана Фёдаравіча Зуля і Сцяпана Пятровіча Новіка. Яны на працягу многіх гадоў пасляхова рашалі конкурсныя эцюды і канцоўкі, якія я прапаноўваў у тэлевізійным клубе «Белыя і чорныя». Праслухаўшы лекцыю, яны ў сеансе ўдзельнічаць адмовіліся.

— Нехай павучацца гуляць маладыя.

— Калі даць эцюд ці канцоўку, то вы, мяркуючы па конкурсах, лускаеце іх як арэшкі. А задачу — наўрад ці рэшыце.

— А мо і рэшым! Мы што — лысыя?

І вось задача вядомага ў краіне майстра па шашачнай кампазіцыі з Баранавіч Мікалая Фядосавіча Зайцава.



Заперці дамку і простую.

Пасля заканчэння сеанса яны пасказалі дакладнае рашэнне: 1. df8 hg5 (калі 1. ... fg1, то 2. hg5 3. cd6 4. f:b4 5. bd4 і 6. ef2) 2. h:f6 3. ec3 4. fh6 gh2 (на 4. ... gf2 будзе 5. he3 і так, як ніжэй) 5. fh8 6. he3 7. c:e3 8. cd2 9. cb4 і 10. hb2.

Бліскучая задача, усяго пры васьмі белых аж на чатыры чорных шашкі, выклікала захапленне гледачоў. Па іх просьбе І. Зуль і С. Новік паўтаралі яе некалькі разоў.

## 2. ЗАЛІЧЫЦЬ АЧКІ ЦІ НЕ!

Больш як 30 гадоў я рэдагую шашачны аддзел у рэспубліканскай «Беларускай ніве». За гэты тэрмін вырасла, пасталела і пастарэла нямала ўдзельнікаў конкурсаў. Маю на ўвазе пастаянных чытачоў, да якіх належыць Іван Іванавіч Н.

Чатырнаццацігадовым юнаком ён пачаў свой конкурсны шлях. Затым з ягоных пісьмаў стала вядома, што Іван — студэнт Горацкай сельгасакадэміі. Стаў аграномам, галоўным аграномам, а затым і старшынёй калгаса. Так прафесійна вырас Іван Іванавіч, а дзякуючы конкурсам і ў шашках дасягнуў першага спартыўнага разраду.

Прыгадваецца такі выпадак: на адно з заданняў конкурсу была прапанавана кампазіцыя мінскага майстра спорту Віктара Ракітніцкага.



Выйгрыш.

1. gf2 2. c:e7 3. ab2 4. ed8 5. d:b2 6. ba3 7. a:e7 8. h:c5 9. a:c5. На адказы мясцовым удзельнікам давалася 6 дзён, а іншагароднім — 10.

Заусёды акуратны, Н. даслаў рашэнне са спазненнем аж на шэсць дзён!

— Нішто сабе,— заўважыў я ўслых.— Спазніцца амаль на тыдзень і яшчэ просіць залічыць рашэнне.

— Хто такі? — спыталіся супрацоўнікі рэдакцыі.

— Старшыня калгаса. Піша, што выклікалі на абласны семінар.

— Залічыць,— катэгарычна заявіў загадчык аддзела Л. Ароцкер.

— З якой ласкі? Па ўмовах конкурсу давалася 10 дзён.

— Старшыня калгаса,— заключыў карэспандэнт па Мінскай вобласці У. Шыцік,— таксама... чалавек. Ачкі Н. былі залічаны.

## 3. ЗДАРАЕЦЦА І ТАКОЕ

У палацы шахмат і шашак БССР над пазіцыяй, складзенай А. Глушаком (г. Столін), схілілася некалькі шашачных «чарадзеяў» — майстроў спорту. Белыя: дамка a3, простыя b2, d4, f4. Чорныя: простыя c3, f6. Але ж задача доўга не «калолася». Калі ж інструктар палаца, майстар Іван Язубчык, знайшоў, здавалася, зусім «бязглузды», але выйгрышны ход 1. ab4!!, адзін з майстроў схапіўся за галаву:

— Як гэта такі відавочны ход мы не ўбачылі?






**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Землярыйная машына, якая зразае грунт слаямі. 4. Беларуская народная гульня ў мяч. 7. Рака, левы прыток Церака. 9. Паўднёва-ўсходняя частка грэчаскага паўвострава Пелапанес, сінонім Спарты. 10. Перадавая частка класа, грамадскай групы. 11. Горад у Сібіры, абласны цэнтр. 13. Карычневы мінеральны пігмент. 15. Супярэчнасць, спрэчнае пытанне. 18. Абласны цэнтр Украіны. 19. Народны герой, пра якога апавядаецца ў аповесці Я. Коласа «Дрыгва». 23. Дадаты член сказа. 27. Дзікі афрыканскі конь. 28. Кустовая расліна з лілова-ружовымі кветкамі, меданос. 29. Прыстасаванне для работы мастака. 30. Паўвостраў у Канадзе. 31. Свісток, якім паляўнічы імітуе галасы звяроў, птушак. 32. Перакананні, асновы светапогляду. 33. Буйная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў МНР.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Малочны прадукт. 3. Зрэбная посцілка, пакрывала. 5. Запаяная з аднаго краю лабараторная шкляная трубачка. 6. Месяц года. 7. Прэснаводная драпежная рыба. 8. Моцны раслінны яд, якім туземцы Паўднёвай Амерыкі атручвалі стрэлы. 12. Мастак, які стварае аб'ёмныя мастацкія творы. 14. Гатунак ледзяноў. 16. Ручная піла з адной ручкай. 17. Тэкст, з якога робяць набор. 20. Кракадзіл, які водзіцца ў Паўночнай Амерыцы і Паўднёвым Кітаі. 21. Агародніна роду бураковых. 22. Дзень тыдня. 24. Гара ў цэнтральнай частцы Вялікага Каўказа. 25. Беларускі савецкі паэт, аўтар зборніка «Чарназём». 26. Орган, які выпрацоўвае неабходныя для арганізма рэчывы або выдаляе з арганізма шкодныя рэчывы.

Склаў Цімафей АЛЯКСЕЕНКА.

## АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 4

**Па гарызанталі:** 5. Купалле. 6. «Крутуха». 9. «Маладосць». 12. Палац. 13. Пегас. 14. Маска. 17. Стома. 18. Гоманаў. 20. «Песняры». 21. Ханок. 25. Жаніх. 26. Амбра. 27. Ліяна. 30. Аранжарэя. 31. Скарына. 32. Наскова.
**Па вертыкалі:** 1. Сумараў. 2. Алмаз. 3. Праца. 4. Схватка. 7. Балет. 8. Мотабол. 10. Барткевіч. 11. Лабановіч. 15. «Змена». 16. Пасаг. 19. «Прамень». 22. «Харошкі». 23. Арган. 24. «Юнацтва». 28. Арэна. 29. Тэнар.


**Беларусь**

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

№ 5 (629) МАЙ 1991 г.

Выдаецца з 1930 года.




НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: знаёмцеся — стваральнікі мінскага «Гарызонта».

Фота Генадзя АНАТОЛЬЕВА.


Заснавальнік — Саюз пісьменнікаў БССР.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па друку. Мінск.

Журнал «Беларусь»
на белорусском языке.
Здадзена ў набор 13.03.91.
Падпісана да друку 15.04.91.
Фармат 70×108 1/8.
Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 7.
Ул.-выд. арк. 11,2.
Ум. фарбаадб. 12,6.
Т. 13310 экз.
Зак. 128.
Цана 40 кап.

Адрас рэдакцыі:
220005. Мінск,
вуліца Захарава, 19.

Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

Рэдакцыя разглядае рукапісы памерам не больш як 12 машынапісных старонак.

220041, Мінск,
Ленінскі праспект, 79.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Неба, здаецца, выцвіла ад бясконцай жнівеньскай спёкі. Куды ні кінь погляд — стэп. Засціць вочы гарачы пыл, цяжка дыхаць, і адно толькі жаданне ў байцоў — глынуць крынічнай вады...

А на рубяжы атакі — вышыня, пазначаная на карце «220,0». І задача, якую акрэсліў перад коннагвардзейцамі кампалка: «Узяць вышыню з боем!».

«...Ніяк не магу, не хачу пагадзіцца з тымі, хто сёння, прыгадваючы мінулае, сцвярджае: маўляў, у часе атакі салдат не адчуваў ні роспачы, ні страху. Адчуваў! Адчуваў, і крочыў наперад! А падымала яго з акопа ў атаку вернасць абавязку. Нянавісць да ворага. І найперш — сыноўняя любоў да маці-Радзімы... І яшчэ — жаданне перамагчы... Той гарачы бой за вышыню «220,0» доўжыўся 12 гадзін. А мне здалося — вечнасць, бо нават кучаравыя чубы многіх гвардзейцаў-кавалерыстаў нашага палка сталі пасля таго бою сівымі...»

Вышыню «220,0» адолелі, а вайна працягвалася: трэба было адолець яшчэ і Бярэзіну, і Нёман, і Віслу, а потым — Берлін.

Дамініка Вадзінскага — байца 24-га гвардзейскага кавалерыйскага палка забівалі неаднойчы. Але, акрыяўшы, ён зноў вяртаўся ў строй, зноў выходзіў на бой з ворагам. Было шмат шпіталяў, шмат аперацый, а кавалерыст зноў імчаў на ліхім кані ў атаку.

Пасля чарговага, восьмага за вайну, ранення, пасля Перамогі і звальнення ў запас гвардыі старшына Дамінік Вадзінскі працаваў дырэктарам школы, вучыўся ў інстытуце, напісаў і абараніў кандыдацкую дысертацыю, потым — доктарскую і пачаў працаваць у Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце. А паралельна з дзейнасцю навуковай вёў работу пошукавую: збіраў допісы і франтавыя паштоўкі, дакументы, успаміны аднапалчан, іх родных і проста знаёмых, адшукваў, здавалася б, назаўсёды згубленыя ў віхуры гадоў імёны салдат, з кім дзяліў калісь апошні акраец хлеба і абойму патронаў, хто навечна застаўся ляжаць на безыменных вышынях ля Волгі і Дняпра, ля Нёмана і Эльбы...

Аб адным толькі шкадаваў Дамінік Іванавіч, што не вёў дзённіка — не да таго было на вайне салдату. Захаваліся, праўда, кароткія, беглыя, як агонь прамой наводкай, запісы ў пацёртым блакноце, некалькі нумароў армейскай газеты «Конногвардеец», ды яшчэ была памяць салдацкага сэрца.

Так і нарадзілася дакументальная кніга «На рубяжы атакі». Кніга-роздум, кніга-споведзь, кніга-маналог пра складаныя і драматычныя лёсы байцоў і камандзіраў, якіх Дамініку Вадзінскаму пашчасціла сустрэць на дарогах Вялікай Айчыннай, з якімі прайшоў ён палову Еўропы, з кім прыняў першы свой бой улетку 42-га ля вёскі Цернавая ў Харкаўскай вобласці і бой апошні — 2 мая 45-га года — за некалькі крокаў ад Эльбы...

З Днём Перамогі, Салдат!

г. Мінск.




# ВЫШЫНЯ «220,0»

ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ НАВЕЛА ІОСІФА КАЛЮТЫ І ВІКТАРА ЖЫЛІНА.





# «ВЫ — ПРА ЗОРАК, ЗОРКІ — ДЛЯ ВАС»

ФОТАВІКТАРЫНА

**НАШЫ ПЫТАННІ:**

- **Перад вамі вядомы беларускі пісьменнік. Назавіце яго імя і кнігу, з якой ён дэбютаваў у друку.**
- **Якія кароткаметражныя і мастацкія фільмы былі зняты па яго сцэнарыях?**
- **У якім годзе і за што пісьменнік стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР?**
- **Некалькі п'ес ён напісаў сумесна з іншымі пісьменнікамі. Назавіце гэтых пісьменнікаў і назвы гэтых п'ес.**

**По ўмовах віктарыны, той, хто правільна адкажа на ўсе пытанні, атрымае фотапартрэт «зоркі» з аўтографам.**

Фота Генадзя АНАТОЛЬЕВА.

**АДКАЗЫ НА ФОТАВІКТАРЫНУ, НАДРУКАВАНУЮ У № 1 НАШАГА ЧАСОПІСА ЗА 1990 г.:**

1. Імя гэтага хлопца Віталь Шчэрба.
2. З амерыканцам П. Рынгнедам ён пазнаёміўся ў Сіэтле на Гульнях добрай волі. В. Шчэрба перамог у мнагаборстве ў спаборніцтвах па спартыўнай г[illegible]настыцы, а амерыканец быў т[illegible]цім. Затым яны падзялілі першае-другое месца ў спаборніцтвах на перакладзіне — 9,9 бала.
3. В. Шчэрба па выніках мінулага года прызнаны лепшым гімнастам краіны, самым папулярным спартсменам рэспублікі.

Дакладныя адказы даслалі Міхась ЗМІТРУКЕВІЧ са Шчучынскага раёна, Алег РУСОВІЧ з Гомеля, Алена САЗОНАВА з Брэста, Мікалай ГРАМОВІЧ з Астраўца, Лявон ДЗЕМІДОВІЧ з Мінска.

Фота Генадзя АНАТОЛЬЕВА.

**ЧЭРВЕНЬ**

| П | А | С | Ч | П | С | Н | П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | ○1 | ☾2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| ●10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | ☽17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| ○24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | | | | | | | |

Фазы Месяца: ○ — 1 — поўня, ☾ — 2—9 — ветах, ● — 10—16 — маладзік, ☽ — 17—23 — сход, ○ — 24—30 — поўня.